


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

11 ЖНІЎНЯ 2000г. № 32/4064 КОШТ 95 РУБ.


## ГОНАР БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ

**Адам МАЛЬДЗІС: "Залаты век" часоў Скарыны і Буднага не прыдуманы ні мной, ні іншымі "ідэалістамі-нацыяналістамі" — ён існаваў рэальна. У тыя часы наш, беларускі цягнік рухаўся нармальна ці нават з апераджэннем (прыгадаем, калі былі выдадзены першыя кніжкі ў Маскве, Львове ці літоўскі "Катэхізіс" М. Мажвідаса), рухаўся па ўласных рэйках. А з другой паловы XVI ст. ён пачаў збівацца на іншы шлях. І калі б не стагоддзі паланізацыі ці русіфікацыі (у XIX ст. яны спалучыліся ды спалучаюцца і цяпер), наша дзяржаўная супольнасць выглядала б сёння зусім інакш".**

**5, 15**

## З-ПАД ПАКЛОННАГА КРЫЖА

**12 жніўня паэту Леаніду ГАЛУБОВІЧУ спаўняецца 50 гадоў.**

**6—7, 12**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

**Леаніда ДРАНЬКО-МАЙСЮКА**

**8**

## ІМПРЭСІІ

**Паўла ГАСПАДЫНІЧА**

**9**

## ЭЦЮДЫ

**Васіля ЗУЁНКА**

**13—14**







# Вяртанне на радзіму...

**У прыгожыя мясціны Ашмяншчыны і Валожыншчыны 4 жніўня скіраваліся мастакі, каб адзначыць 130-годдзе з дня нараджэння выдатнага пейзажыста і графіка Фердынанда Рушчыца і на радзіме майстра правесці дзесяцідзённы пленэр, прысвечаны яго творчасці. Яшчэ па вясне гэту акцыю задумалі творчая суполка "Пагоня" і Саюз мастакоў Беларусі, каб такім чынам аддаць даніну павагі і замацаваць у грамадскай свядомасці яшчэ адно імя беларускага культурнага дзеяча, на жаль, падзабытае ў нашай гісторыі. Фердынанд Рушчыц зноў "вяртаецца" на сваю радзіму поруч з Уладзіславам Стрэмінскім, Язэпам Драздовічам, Валенціем Ваньковічам...**



Лёс Фердынанда Рушчыца, мастака, тэатральнага дэкаратара, ілюстратара, педагога, прафесара школы прыгожых мастацтваў у Варшаве, Кракаве, Вільні, характэрны для творчых дзеячаў Лаўночна-Заходняй ускраіны Расійскай імперыі, што жылі на памежжы XIX—XX стагоддзяў. Нарадзіўся і памёр мастак у Заходняй Беларусі (вёска Багданава Валожынскага раёна), вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, працаваў жа ў Польшчы і Літве. Творчая спадчына Рушчыца немалая, але... у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі захоўваецца толькі адно яго палатно "Каля касцёла". Астатнія шматлікія творы мастака знаходзяцца ў музеях Літвы і Польшчы. Такая сітуацыя ў Беларусі са спадчынай непрызнаных, незапатрабаваных у свой час мастакоў, на жаль, стала ўжо традыцыйнай. Згадайце для прыкладу лёс твораў мастака В. Ваньковіча, дом-музей якога не так даўно адкрыўся ў Мінску, але з вялікай творчай спадчыны майстра на радзіме няма аніводнай карціны.

Творчасць Фердынанда Рушчыца цеплілася менавіта нацыянальнымі традыцыямі. Мастак захапляўся беларускімі краявідамі — пісаў Крэва, Багданава, Гальшаны, Мінск. Ён лёгка ўвайшоў у еўрапейскі мастацкі

*(Працяг на стар. 2)*



# КОЛА ДЗЁН

***Да пачатку трэцяга тысячагоддзя засталося 142 дні. Не вельмі шмат, але дастаткова, каб задумацца над тым, якімі мы хочам увайсці ў новы час. Але хто з нас пра гэта думае, калі і без гэтага сённяшніх клопатаў хапае. Тут табе і дажджлівае надвор'е, і рост цэн, і тое, і сёе, і пятае, і дзесятае. Да ўсяго жнівень на дварэ, ад якога шмат у чым залежыць як і з чым сустрэнем трэцяе тысячагоддзе. Кажуць, ураджай павінен быць немалы — 6 мільёнаў тон. Але мы ўжо ведаем, што гаворыцца адно, а як там атрымаецца — гэта ўжо другое. Спадзявацца трэба і толькі на сябе, бо ніхто нас не накорміць толькі за тое, што мы ёсць і хочам есці. Наперадзе, да ўсяго, нас чакаюць выбары дэпутатаў. І тут таксама трэба думаць, каб пасля не плакацца адзін аднаму, што ў нас нічога не мяняецца, а ў суседніх краінах і дрэннае надвор'е не перашкода для заможнага жыцця... Трэба думаць...***

## УКАЗ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў указ "Аб скліканні З'езда дэпутатаў Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь", які адбудзецца 29 верасня 2000 года ў Мінску. З'езд склікаецца, як гаворыцца ва ўказе "ў мэтах павышэння ролі, удасканалення дзейнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь у вырашэнні эканамічных і сацыяльных праблем дзяржавы, далейшай дэмакратызацыі грамадства, павышэння грамадскай ініцыятывы насельніцтва, далучэння яго да рэалізацыі стратэгічных і бягучых задач, якія стаяць перад краінай". Прадугледжваецца, што ў рабоце з'езда прыме ўдзел каля 2,5 тысячы чалавек, у тым ліку звыш 1,5 тысячы дэпутатаў усіх узроўняў прадстаўнічых органаў улады. Мэты з'езда нядрэнныя, і хочацца верыць, што ён не склікаецца ў процівагу нядаўняму Усебеларускаму з'езду, які быў арганізаваны і праведзены апазіцыяй у падтрымку незалежнасці нашай краіны.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Аб'ём знешняга гандлю Беларусі за студзень—май гэтага года павялічыўся на 30,5 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года і склаў 6308,6 млн. долараў, у тым ліку экспарт — 2892,2 млн. долараў (на 25 працэнтаў больш), імпарт — 3416,4 млн. долараў (на 35,6 працэнта). Адмоўнае знешнегандлёвае сальда павялічылася ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў 2,5 раза і склала мінус 524,2 млн. долараў. Доля адмоўнага сальда ў гандлі з Расіяй ва ўказаным аб'ёме склала мінус 704,5 млн. долараў, павялічыўшыся ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў 4,1 раза (з мінус 170,5 млн.). Лічбы гавораць самі за сябе...

## ВАРУНКІ ТЫДНЯ

Адной з адзнак незалежнасці краіны з'яўляецца наяўнасць яе пасольстваў і консульстваў у замежжы. На сённяшні дзень консульская служба Рэспублікі Беларусь прадстаўлена 45-ю дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі і консульскімі ўстановамі ў 39 дзяржавах свету. У бліжэйшы час плануецца адкрыццё генеральных консульстваў у Мюнхене і Гамбургу. Так што, свет па-ранейшаму нас прызнае незалежнай дзяржавай і гэта дае веру, што і далей усё ў нас будзе як трэба...

## ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Савет Міністраў прыняў пастанову аб зацвярджэнні бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва і па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах у цэнах чэрвеня 2000 года. Бюджэт пражытачнага мінімуму ў разліку на месяц зацверджаны ў наступных памерах: у сярэднім на душу насельніцтва — 29 872 рублі; для працаздольнага насельніцтва — 32 001 рубель; для пенсіянераў — 24 799 рублёў; для студэнтаў — 31 729 рублёў; для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 гадоў — 32 1999 рублёў; для дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў — 22 923 рублі. І, відаць, гледзячы на гэтыя лічбы, нямала ў каго ў памяці ўзнікнуць словы кшталту: "Вось бы тым, хто лічыў гэтыя пражытачныя мінімумы, гэтыя грошы, паглядзелі б мы, як яны б на іх жылі!.."

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Як гаворыцца, рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепей. І гэта не дзіва, бо тых, хто хоча жыць дрэнна, няма ў прыродзе і не павінна быць. У пошуках лепшай долі, а дакладней, лепшых заробкаў на працягу студзеня—чэрвеня на часовую работу па кантрактах за межы нашай краіны выехала 1835 чалавек, і адначасова права на працаўладкаванне на тэрыторыі Беларусі атрымалі 419 замежных грамадзян. Пры гэтым на працу ў ЗША сёлета выехала 1079 чалавек, ва Узбекістан 284 чалавекі і ў Расію 260. Да нас прыехалі на працу з Украіны 245 чалавек, з Расіі 35, з Арменіі 33 і В'етнама 29. Як бачна па лічбах — асабліва нашы грамадзяне не імкнуцца на працу ў Расію, як і з Расіі да нас.

## ПЕРСПЕКТЫВЫ ТЫДНЯ

Вытворчае аб'яднанне "Белкамунмаш" у бліжэйшы час завершыць зборку доследнага ўзору тралейбуса мадэлі 321. Гэта двухвосевы тралейбус з нізкай падлогай, разлічаны на перавозку 109 пасажыраў. У ім устаноўлена 28 месцаў для сядзення. Мяркуемыя рынкі збыту новага тралейбуса — Расія, Літва і Латвія. Зараз на тэрыторыі былога Саюза аналагічныя тралейбусы не выпускаюцца. За 1999 год ВА "Белкамунмаш" вырабіла 89 тралейбусаў, за студзень—чэрвень гэтага года — 61. Вытворчыя магутнасці прадпрыемства разлічаны на выпуск да 500 тралейбусаў у год. Словам, калі будзе трэба, мы сваімі тралейбусамі запоўнім нашы вуліцы...

## ПАДАРАЖАННЕ ТЫДНЯ

Нікога ўжо не здзівіш тым, што раптам нешта ў краме стала даражэй. Для нас — гэта звычайная справа. Адбылося чарговае падаражанне белых гарэлак айчыннай вытворчасці. Праўда, цэны выраслі зусім нязначна, у сярэднім на 100-130 рублёў, бо, як і папярэднія два разы — 23 чэрвеня і 8 ліпеня, дзяржава адпусціла цэны на белую толькі на 5 працэнтаў. Самая дарагая цяпер гарэлка — "Вадалей" і "Новы век" — па 1446 рублёў, самая танная — "Два буслы" — 1247 рублёў. Розніца не вялікая, але ёсць...

## ЧУТКІ ТЫДНЯ

Апошнім часам ходзяць чуткі, што з надыходам ацяпляльнага сезона істотна павялічацца тарыфы за карыстанне жылымі памяшканнямі і камунальнымі паслугамі. Называецца нават такая лічба — у 6 разоў. Адной з самых істотных прычын павелічэння тарыфаў з'яўляецца тое, што сёння насельніцтва аплачвае толькі 12 працэнтаў іх кошту. Плаціці 6 і 100 працэнтаў, калі б зарплаты былі адпаведныя сапраўднаму пражытачнаму мінімуму.

ІМПРЭЗЫ

# Свята Блока на Піншчыне

Пасля надакучліва-дажджлівага надвор'я гэты жнівеньскі выхадны дзень на Піншчыне выдаўся незвычайна лагодным. У вёску Лапаціна, у якой знаходзіцца музей Аляксандра Блока, прыехалі шматлікія аматары паэзіі, прадстаўнікі грамадскасці рэспублікі, беларускія літаратары, каб прыняць удзел у свяце паэзіі, прысвечаным 120-годдзю з дня нараджэння вялікага рускага паэта і 20-годдзю заснавання тутэйшага блокаўскага музея.

З хваляваннем успрымаем мы, сучаснікі, "беларускую старонку" біяграфіі Аляксандра Аляксандравіча Блока... Як вядома, у 1916 годзе віхурамі вайны закінула паэта ў невялікую беларускую вёску Колбы. Тут, у складзе дружыны, ён заставаўся некалькі месяцаў: будавалі абарончую пазіцыю. Аб сваім жыцці на беларускай зямлі Аляксандр Блок захаваў самыя цёплыя ўспаміны, мяркуючы па дзённікавых запісах: яму спадабаўся наш край, яго багатая прырода, жыхары, песні... І вось штогод людзі збіраюцца ў гэтых мясцінах і ўшаноўваюць памяць класіка рускай літаратуры.

Нягледзячы на гарачую пару жніва, актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні ўрачыстасці прыняло кіраўніцтва раёна і мясцовага калгаса. Менавіта старшыня Пінскага райвыканкама В. Сашко адкрыў свята ўступным словам у Лапацінскім Доме культуры. Ён адзначыў адметнасць мерапрыемства для далейшага ўмацавання культурных сувязей, дружбы паміж рускім і беларускім народамі.

Цікавай і змястоўнай была прамова першага намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь, пісьменніка У. Глушакова. Ад Саюза беларускіх пісьменнікаў свята паэзіі віталі Яўген Каршукоў, Алесь Каско і Любоў Турбіна. Гучалі неўміручыя творы Аляксандра Блока, свае вершы чыталі мясцовыя паэты Валерый Грышкавец, Анатоль Шушко, Наталля Прыступа, Зіновій Вагер, Леанід Крывецкі і іншыя. З задавальненнем сустракалі слухачы і народныя песні ў выкананні лепшых мастацкіх калектываў раёна.

У заключэнне ўдзельнікі свята паэзіі наведалі вёску Колбы, на сваё вочы ўбачылі тую самую старажытную часоўню, якую калісь маляваў паэт, пастаялі пад тым самым магутным старым дубам, пад якім Блок не раз адпачываў прыгожымі восеньскімі днямі...

І, відаць, многім прыйшлі на памяць жыццесцвярджальныя, поўныя веры ў будучае, аптымістычныя радкі вялікага паэта:

*О, я хочу безумно жить:*
*Все сущее — увековечить,*
*Безличное — очеловечить,*
*Несбывшееся — воплотить!*

**Я. ІВАНОЎ**

НОВАЕ

# Гэта мы — беларусы

У 1991 годзе распачата падрыхтоўка шматтомнага выдання "Беларусы". Яно ставіць на мэце адлюстраваць усе бакі жыццядзейнасці карэннага насельніцтва нашай краіны з глыбокай даўніны па сённяшні дзень. Кожны том гэтай унікальнай бібліятэкі будзе прысвечаны пэўнаму аспекту этнічнай гісторыі беларусаў, яго вытворчай дзейнасці, а таксама матэрыяльнай і духоўнай культуры. Не застанецца па-за ўвагай сямейны і грамадскі побыт. А наколькі глыбока і ўсебакова разглядаюцца і асэнсоўваюцца згаданыя праблемы, засведчылі першыя два тамы, што паспелі пабачыць свет: "Беларусы. Прамысловыя і рамесныя заняткі" і "Беларусы. Дойлідства". Яны выйшлі адпаведна ў выдавецтвах "Навука і тэхніка" і "Тэхналогія".

Том "Беларусы. Гісторыя этналагічнага вывучэння" — чарговы ў гэтай серыі. А дало яму жыццё выдавецтва "Беларуская навука". Змена "месца жыхарства", калі можна так сказаць у дачыненні да выхаду згаданых тамоў, невыпадковая. Выпуск такіх аб'ёмных кніг, прытым на добрай паперы, патрабуе значных фінансавых выдаткаў. Таму і падключаюцца да гэтай справы не толькі дзяржаўныя выдавецкія структуры, як тая ж "Навука і тэхніка", а цяпер "Беларуская навука", так і недзяржаўныя. У дадзеным выпадку "Тэхналогія". Чытач жа розніцы не бачыць, для яго галоўнае, каб чарговы том з'явіўся своечасова. І быў яшчэ напісаны на высокім навукова-даследчым узроўні.

Кніга "Беларусы. Гісторыя этналагічнага вывучэння" такім патрабаваннем адпавядае, бо аўтарам гэтага тома з'яўляецца вядомы даследчык, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Васіль Бандарчык, які даўно цікавіцца згаданымі праблемамі. Этналогія (магчыма, хто-небудзь не ведае паходжанне гэтага слова, то патлумачым, што яно паходзіць ад двух грэчаскіх: этнас — народ і логас — вывучэнне) — спецыяльная галіна гістарычнай навукі. Але яна знаходзіцца ў цеснай сувязі з іншымі навукамі. У залежнасці ад характару і спецыфікі аб'екту вывучэння можа стыкавацца з гісторыяй, археалогіяй і антрапалогіяй. Не чужыя этналогіі навукі, што вывучаюць фальклор і народнае мастацтва. І нават "кантактуе" этналогія з геаграфіяй, а ў нечым змыкаецца з сацыялогіяй і этнапсіхалогіяй.

Адметнасць тома ў тым, што ён з'яўляецца свайго роду першай ластаўкай. Ведаючы гэта, В. Бандарчык адпаведным чынам канкрэтызаваў сваю задачу: "Пры напісанні працы, улічваючы тое, што да апошняга часу не было кнігі, у якой былі б адлюстраваны агульныя працэсы развіцця беларускай этнаграфічнай навукі, аўтар выразшыў спыніцца на храналагічным прынцыпе размяшчэння матэрыялу. Пры гэтым у асобных раздзелах, акрэсленых пэўнымі гістарычнымі адрэзкамі часу, прыйшлося весці даследаванне, прымяняючы і крыніцазнаўчы падыход. Гэта дало магчымасць забяспечыць у працы гістарызм і храналагічную паслядоўнасць".

Выходны момант кнігі той, што і этналогіі ў цэлым: "беларусы ў братняй сям'і ўсходнеславянскіх народаў складаюць асобную нацыю са сваёй гісторыяй, мовай, спецыфічнымі рысамі культуры і быту, што адрозніваюць яе ад іншых народаў свету". Аўтар раскрывае намаганні ўсіх, хто меў дачыненне да вывучэння беларускага этнасу. А гэта не толькі беларускія, а і рускія, польскія, украінскія даследчыкі, розныя навуковыя цэнтры (Рускае геаграфічнае таварыства і яго Паўночна-Заходні аддзел у Вільні, Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, што працавала пры Маскоўскім універсітэце, а таксама мясцовыя таварыствы, якія дзейнічалі на Беларусі). Выкарыстаны матэрыялы навуковых устаноў і архіваў Расіі, Польшчы, Беларусі і Украіны, важнейшыя публікацыі, што з'явіліся ў XIX—XX стст.

Акрамя "Уводзін", па-свойму ўступным успрымаецца артыкул "Сацыяльна-палітычнае, эканамічнае, культурнае і навуковае асяроддзе развіцця этналогіі Беларусі ў XIX — пачатку XX ст". Асноўную ж нагрузку нясуць раздзелы, што разглядаюць стан беларускай этнаграфіі ў розныя перыяды. У іх увайшлі і асобныя артыкулы, прысвечаныя дзейнасці найбольш вядомых даследчыкаў, сярод якіх такія каларытныя постаці, як М. Нікіфароўскі, Е. Раманаў, У. Дабравольскі, А. Сержпутоўскі, Я. Карскі і іншыя.

Серыя "Беларусы" задумана ў васьмі тамах. Рыхтуюцца да выдання такія, як "Этнагенез і этнічная гісторыя", "Народная кулінарыя", "Сям'я і сямейны побыт", якія, як і першыя тры, дазволяць лепш зразумець беларусаў як нацыю.

**Барыс ЛАЗУКА**

# Вяртанне на радзіму...

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

кантэкст на плыні стылю "мадэрн". І пры гэтым яго эпічныя, сацыяльныя, кранальна-трагічныя, неабыякавыя да лёсу простых людзей работы ўражваюць і сёння, прынамсі, яго палотны — "Зямля", "У свет" альбо "Эмігранты".



На адкрыццё пленэру прыехалі госці з Мінска, сябры аргкамітэта, прадстаўнікі мясцовых улад Валожынскага і Ашмянскага раёнаў, без прыхільнага стаўлення і дапамогі якіх пленэр мог бы і не адбыцца. Мінскія госці наведалі па дарозе ксяндза Чарняўскага з Вішнеўскага касцёла. У Багданаве адбылася імша на магіле мастака, а таксама каля рэшткаў яго былога маёнтка мясцовыя ўлады арганізавалі канцэрт самадзейнасці. Для мясцовага люду гэта было сапраўдным святам. Удзельнікі пленэру засталіся ў Гальшанах, дзе будзе іх сталае месца, але яны наведваюць і наваколле — Крэва, Баруны, Багданава. Пры закрыцці пленэру 14 жніўня яго ўдзельнікі наладзяць на радзіме Рушчыца невялікую выставу. Не адбылося толькі адно прапанаванае аргкамітэтам мерапрыемства. Міністэрства культуры на просьбу замацаваць на доме N 23 на плошчы Свабоды ў Мінску (былой гімназіі, дзе вучыўся Рушчыц) мемарыяльную дошку мастаку, адгукнулася адмовай з-за недахопу фінансавых сродкаў.

У верасні маецца адбыцца яшчэ адзін пленэр імя Рушчыца, задуманы Беларускай акадэміяй выяўленчага мастацтва. На яго адкрыццё запрошаны сын мастака, які зараз жыве ў Польшчы. Сукпецце гэтых мерапрыемстваў будзе вартым ушанаваннем памяці Фердынанда Рушчыца.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

6 жніўня ў Зэльвенскай царкве была ўсталявана мемарыяльная дошка ў гонар 90-годдзя славутай беларускай паэткі Ларысы Геніюш. Пісьменнікі і прадстаўнікі грамадскасці наведалі мясцовыя могілкі, дзе пахавана Ларыса Антонаўна, выступілі ў Доме культуры. Слова пра паэтку сказалі Вольга Іпатава, Анатоль Кудравец, Міхась Чарняўскі, Валянціна Аксак, Міхась Скобла, Уладзімір Ягоўдзік, Юрка Голуб, Уладзімір Мазго, стрыечны пляменнік Л. Геніюш Георгій Яўгенавіч Трафімчук. Дэманстраваўся фільм, прысвечаны пакутнаму шляху слаўнай дачкі Беларусі.

•

Сумесна з Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь рыхтуецца чарговае пасяджэнне рады, прысвечанае надзённым пытанням выдавецкай палітыкі дзяржавы. Усіх, хто хацеў бы прыняць удзел у абмеркаванні, просім звяртацца ў Саюз пісьменнікаў.

МУЗЫКА

# Камертон для вакалістаў

Некалькі дзесяцігоддзяў таму сярод беларускай моладзі на будаўніцтве цэментнага завода ў казахскім пасёлку Актаў працаваў Адам Мурзіч з горада Ляхавічы. Аднойчы завіталі ў пасёлак артысты абласной філармоніі. Перад канцэртам рэпеціравалі. Уладальнік прыгожага барытона спяваў арыю Раджамі з аперэты І. Кальмана "Баядэра", як раптам на высокай ноце "рвануў пеўня". Юны Адам Мурзіч, які стаяў за дзвярыма, вельмі ўдала паўтарыў гэты фрагмент. Пасыпаліся пытанні:

**— Хто спяваў? Што робіш?**

**— Працую землякопам, капаю траншэю, будую водаправод, — быў адказ.**

**— Хлопчык, вам трэба вучыцца!**

Адам яшчэ ў школе ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці, як і яго бацькі, якія мелі прыгожыя галасы, вельмі любіў спяваць. У школе за паспяховыя выступленні ў канцэртах яму нават даравалі пропускі заняткаў. Таму ён прыслухаўся да парады — і паступіў на вакальнае аддзяленне Брэсцкага музычнага вучылішча. Займаўся ў класе Меліціны Арэнскай, у якой вучыліся, напрыклад, заслужаны артыст Украіны Фёдар Богдан, заслужаны артыст Беларусі Міхаіл Зданевіч. У верасні мінулага года з дня нараджэння Арэнскай споўнілася 100 гадоў.

**— Мне вельмі пашанцавала, што маім педагогам быў гэты таленавіты чалавек, — расказвае А. Мурзіч. — Лічу яе сваёй маці ў мастацтве. Меліціна Іванаўна раскрыла мой голас, развіла ўва мне шчырую любоў да спеваў. Гэта карэнным чынам змяніла мой лёс. У 1961 годзе ў складзе класа Арэнскай я выязджаў у Люблінскае ваяводства Польшчы. Упершыню выступаў за мяжой. Памятаю, што тыя канцэрты ў Люблінскім гарадскім тэатры вёў вядомы польскі артыст Станіслаў Мікульскі. Я спяваў вакальныя творы беларускіх кампазітараў — "Шумныя бярозы" Рыгора Пукста, "Нёман" Нестара Сакалоўскага...**

У кансерваторыі настаўнікам А. Мурзіча быў Арсеній Карынскі, адзін з лепшых педагогаў таго часу, у якога, дарэчы, займаліся такія вядомыя спевакі, як Валерый Кучынскі, Аляксандр Рудкоўскі, Вікторыя Мазур... Чалавек строгіх правілаў, А. Карынскі не выдаваў студэнтам авансаў. А яго заўвага А. Мурзічу: "Ты можаш стаць цудоўным спеваком, але ж педагогам — проста выдатным", — аказалася прарочай.

Педагагічны стаж Адама Асманавіча — ужо трыццаць гадоў. Пачынаў працаваць у Маладзечанскім музычным вучылішчы. Пятнаццаць гадоў выкладаў вакал у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Цяпер загадвае вакальным аддзяленнем Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі. Сярод яго калег-выкладчыкаў працуюць у вучылішчы прафесары Тамара Ніжнікава, Анатоль Генералаў, дацэнты Лідзія Галушкіна, Ірына Шыкунова — знаныя педагогі Беларускай акадэміі музыкі. Сваю прафесію А. Мурзіч любіць захоплена, працуе з задавальненнем. І лічыць, што калі педагог падрыхтаваў хаця б аднаго сапраўднага прафесіянала, дык сваю місію ён выканаў.

Дарэчы, з 53-х ягоных выпускнікоў 36 паступілі ў розныя музычныя ВНУ, 12 маюць званне лаўрэатаў рэспубліканскіх, міжнародных спаборніцтваў вакалістаў. Сярод іх — лаўрэат дзесяці міжнародных прэстыжных конкурсаў, заслужаны артыст Беларусі, саліст нашага Нацыянальнага тэатра оперы Алег Мельнікаў, які і па сённяшні дзень працягвае ў яго вучыцца і з цеплынёй называе свайго настаўніка — "бацька".

**— Гэта надзвычайна адданы сваёй справе чалавек. У маім жыцці ён адыграў асаблівую ролю, — гаворыць А. Мельнікаў. — Былі моманты сумнення ў час станаўлення, незадаволенасць сабой. Я — максіміліст у адносінах да справы, якой займаюся. Маё стаўленне да мастацтва самае высокае, патрабавальнае, але ў пачатку свайго шляху я "набіваў гузакі". Абраўшы для мяне педагога ў Адэскай кансерваторыі — Яўгена Міхалаевіча Іванова, — Адам Асманавіч сеў са мной у самалёт і паляцеў у Адэсу, бо, паводле ягоных слоў, мусіў бачыць педагога, якога рэкамендаваў мне. Калі ж на праслухоўванні я выканаў дзесяць тактаў з "Арыі" Гендэля, Яўген Іваноў раптоўна спыніў мяне і звярнуўся да Мурзіча: "Я вельмі рады, што вы прывезлі мне вучня, якога пасля вучылішча не трэба перавучваць!"**

Так, А. Мурзіч адданы сваім вучням. Вельмі радуецца кожнай творчай перамозе, засмучаецца няўдачай. Калі ў пачатку творчага шляху А. Мельнікава былі моманты расчаравання, Адам Асманавіч прыехаў да вучня дадому, пагутарыў з бацькамі. Паклапаціўся пра яго і тады, калі ў беларускай кансерваторыі педагог займаўся з Алегам не як з басам, а як з барытонам, з-за чаго праз паўгода ў спевака прапаў голас: Мурзіч уратаваў ад трагедыі. І цяпер Алег Мельнікаў, вядучы саліст опернай сцэны, звяртаецца да Адама Асманавіча як да вакальнага камертона, адчувальнага да прыроды голасу. Ён ведае, **што** патрэбна канкрэтнаму спеваку, каб гэтай вакальнай прыродзе не пашкодзіць.

З цеплынёй адгукаецца пра А. Мурзіча яго колішні студэнт, цяпер саліст Дзяржаўнага музычнага тэатра Антон Заянчкоўскі. Педагог не толькі даў яму асновы вакальнага майстэрства, дапамог паступіць у кансерваторыю, а потым і знайсці сябе ў сцэнічным мастацтве, але яшчэ праявіў сапраўдную чалавечнасць. "Для яго мы ўсе, як сыны, — словам, вялікая сям'я, — расказвае Антон. — Я ж прыехаў з Гродна, і бацькі мае жывуць там, а ў Мінску ў мяне няма родных, і гэты цудоўны чалавек паставіўся да мяне, як да самага блізкага, удзяляў мне ўвагу, як свайму дзіцёнку".

Мне давялося пабываць у Мінскім музвучылішчы на занятках у класе А. Мурзіча. Я была прыемна ўражаная: як ён мякка, тактоўна, сур'ёзна і патрабавальна вёў урок! Прафесійныя заўвагі рабіў стрымана і з гумарам. Трое вучняў — тэнар, барытон, бас — зацікаўлена і ўважліва прымалі парады педагога.

**— У мяне шмат вучняў, якімі магу ганарыцца, — расказвае Адам Мурзіч. — Уладальнік прыгожага барытона Станіслаў Трыфанаў — лаўрэат трох першых прэмій міжнародных конкурсаў, спявае ў Адэскім опернным. Кожнае лета прыязджае да мяне на кансультацыі. Стаў салістам Адэскай оперы і яго брат Андрэй, у якога бас. Мая былая студэнтка Зінаіда Кідрон (мецца-сапрана) — салістка Днепрапятроўскай оперы. На беларускай опернай сцэне выступаюць мае вучні Аляксандр Жукаў (тэнар), Дзмітрый Капілаў (бас), Ілья Пеўзнер (барытон). Мой былы вучань Уладзімір Кудрын цяпр спявае ў Канадзе, Аляксандр Магілевец выступае ў Германіі. У свой час маім вучнем быў народны артыст Беларусі Яраслаў Еўдакімаў. Ёсць і вучні, якія проста кансультуюцца ў мяне, каму я адкрыў шлях да мастацтва. Сярод іх, напрыклад, саліст Беларускай оперы Марат Грыгорчык, вядомы эстрадны спявак Мікалай Скорыкаў. Некаторыя выхаванцы сёння вучацца ў Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі, а ў мяне займаюцца хлопцы з замежжа. Так, па рэкамендацыі беларускага спевака Аркадзя Валадося, які жыве ў Францыі, да мяне вучыцца прыехаў хлапец з гэтай краіны. Ёсць і студэнт з Кітая...**

Прафесіянал вышэйшага класа, заслужаны работнік культуры Беларусі Адам Асманавіч Мурзіч сапраўды вядомы за мяжой нашай краіны. Аднойчы яго выхаванец паступіў у Мюнхенскую вышэйшую школу вакалу. Кажуць, з таго часу методыка А. Мурзіча выкарыстоўваецца ў гэтай навучальнай установе. Невыпадкова, што ягоныя вучні робяцца і выкладчыкамі.

**— Адам Асманавіч — майстар, Педагог з вялікай літары, — гаворыць выкладчык вакалу ММВ Вольга Лук'янёнак. — Шмат гадоў ён вёў педагагічную практыку ў кансерваторыі. Яго "вакальнаму вуху" можна пазайздросціць. Гэта прырода плюс праца. Ён адчувае талент. Калі б ён тут не працаваў, я таксама не прыйшла б сюды. Цікава працаваць пад кіраўніцтвам найвысокага прафесіянала і цудоўнага чалавека! Канфліктаў у нашым калектыве не бывае, толькі звычайныя творчыя спрэчкі, якія заўсёды вырашаюцца без канфліктаў.**

Апантаны любімай справай, Адам Мурзіч працуе творча, з верай у талент. Вучні яго вельмі любяць, калегі захапляюцца. Хацелася б, каб і дзяржава больш дапамагала, больш уважліва ставілася да развіцця школы Адама Мурзіча.

**Вера КРОЗ**

АБСЯГІ

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Беларуская правінцыя ў Люксембургу

З Эш-сюр-Альзет, другім па велічыні горадзе Герцагства Люксембург, адкрыта выстава фотаработ, прысвечаная беларускай правінцыі. Героі 60 з іх — жыхары горада Дзятлава. Выстава — вынік творчай працы двух люксембургскіх фотааматараў — Іва Басі і Рэнэ Гілена.

Жаданне спазнаць і зразумець Беларусь двойчы прывяло іх у Дзятлава, дзе фотамайстры пазнаёміліся з жыццём нашай глыбінкі і, відома, сфатаграфавалі ўбачанае. Гілен і Басі вырашылі паказаць свае работы і ў іншых гарадах Люксембурга, а таксама прывезці выставу ў Брусель.

## Бібліятэкар — справа высакародная

Старанна працуюць супрацоўніцы бібліятэкі гарадскога пасёлка Навельня Жанна Цівунчык (загадчыца), Людміла Ганчарык і Ларыса Адамчык, каб данесці друкаванае слова да кожнага жыхара. Увагай не абыдзены таксама інваліды і нямоглыя людзі Ніна Трафімчык, Аркадзь Глінскі, Анастасся Шайбак...

— Калі я ляжала ў бальніцы, — гаворыць пенсіянерка Валянціна Сянюта, — Жанна Уладзіміраўна пастаянна прыносіла мне кнігі, свежыя газеты і часопісы, каб я не адчувала сябе адзінокай. Вялікі ёй дзякуй за чуласць...

## Паказвае Дзятлава

Студыя мясцовага тэлебачання пачала працаваць у раённым цэнтры Дзятлава. У перадачах — навіны, замалёўкі пра слынных людзей горада і вёскі. Тэлегледачы могуць павіншаваць з памятнымі падзеямі родных і блізкіх, а ў каго ёсць неабходнасць — даць рэкламу.

Рыхтуюць перадачы ў асноўным супрацоўнікі гарадскога Дома культуры.

**Іосіф ЗАЯЦ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Лета — час гастроляў

Віцебскі драмтэатр імя Якуба Коласа знаходзіцца ў Лондане, дзе прымае ўдзел у фестывалі "Усход ідзе на Захад". На радзіму Шэкспіра коласаўцы прывезлі спектакль "Шагал... Шагал". Акцёры іграюць на беларускай мове, аднак гэта не замінае добраму кантакту з гледачамі. Квіткі на спектакль распрададзены да канца фестывалю...

А арганістка Полацкага Сафійскага сабора Ксенія Пагарэлая ўжо вярнулася з Познаньскага міжнароднага фестывалю арганнай музыкі, які праходзіў у мясцовым касцёле кармелітаў. Ксенія, якая прадстаўляла Беларусь, выконвала барочную і рамантычную еўрапейскую музыку, а таксама сучасную беларускую.

**Вера КАДУШКА**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Родавае гняздо Траўгута

Завяршыліся пошукі спадчыннага гнязда Рамуальда Траўгута, аднаго з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года. Гістарычныя крыніцы паведамляюць, што пасля службы ў царскай арміі (1861 год) Траўгут вярнуўся на Бацькаўшчыну. На гэты час яму застаўся ў спадчыну маёнтак Востраў Кобрынскага павета, у якім Траўгут і жыў да пачатку паўстання. А нарадзіўся ён у вёсцы Шастакова на Камянеччыне. Але гэты маёнтак быў арандаваны бацькам.

Так што сапраўднае родавае гняздо — маёнтак Востраў, які ператварыўся з цягам часу ў вёску Астроўе (Маларыцкі раён). Захаваліся рэшткі колішняга палаца-паркавага ансамбля. А вось памятны знак (камень і крыж) аказаліся разбуранымі. Мясцовыя маларыцкія ўлады прынялі рашэнне аб аднаўленні памятнага знака.

**Леанід НЕСЦЯРЧУК**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Пленэр у Тураве

На пасяджэнні праўлення абласной арганізацыі Саюза мастакоў разглядалася пытанне аб правядзенні ў Тураве міжнароднага пленэру жывапісцаў. У ім прымуць удзел мастакі з Пецярбурга, Масквы, Жытоміра...

Гомельскія майстры пэндзля падрыхтавалі шэраг карцін для перадачы ў дар Тураўскаму музею. Пленэр адбудзецца напрыканцы жніўня.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Шведы ў Галоўчыне

Нядаўна ў сяле Галоўчын пабывала шведская дэлегацыя Стакгольмскага таварыства аматараў гісторыі. У яе складзе былі людзі самых розных прафесій і ўзростаў. Шведы разам з дырэктарам Галоўчынскага гісторыка-краязнаўчага музея Васілём Цвыркуновым наведалі мясціны, дзе 292 гады таму войскі шведскага караля Карла XII сутыкнуліся ў баі з рускімі.

Шведы азнаёміліся і з экспазіцыяй мясцовага музея. Дэлегацыя падаравала яму кнігу, выдадзеную ў Стакгольме і прысвечаную гісторыі жыцця Карла XII, свой нацыянальны сцяг і статуэтку шведскага воіна. А дырэктар музея аддзячыў гасцей кнігай "Памяць" Бялыніцкага раёна, у якой ёсць звесткі аб Галоўчынскай бітве.

## Дзень памяці

У мінулую нядзелю праваслаўныя вернікі адзначылі дзень памяці вядомага дзеяча культуры, асветніка, пісьменніка і палітыка, архіепіскапа Георгія Каніскага. У абласным цэнтры з гэтай нагоды прайшла святочная літургія. Пасля яе вернікі прайшлі хросным ходам ад Свята-Нікольскага манастыра да Архірэйскага вала (да дома, дзе ў свой час жыў і працаваў Георгій Каніскі). Тут адбылося ўрачыстае богаслужэнне, якое вёў мітрапаліт Філарэт. Ва ўрачыстасцях у гонар Георгія Каніскага прынялі ўдзел не толькі кіраўнікі абласнога цэнтра, але і пасол Германіі ў Беларусі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

 **ЧАСАПІС**

## *"Роднае слова" ў "Купалінцы"*

**Народнае аматарскае аб'яднанне "Роднае слова" існуе ў Горацкім раёне ўжо больш як 10 гадоў. Яно было створана з мэтай духоўнага развіцця насельніцтва, вывучэння і прапаганды творчасці пісьменнікаў-землякоў, аказання дапамогі самадзейным паэтам і празаікам.**

**Вось і на мінулым тыдні кіраўнікі аб'яднання пабывалі на дзіцячай базе адпачынку "Купалінка", дзе правялі літаратурную вечарыну "Змітрок Марозаў і Ніна Кавалёва для дзяцей". Сустрэча атрымалася цёплая, прыемная, спадабалася і дзецям, і тым, хто падрыхтаваў для іх гэта мерапрыемства.**

**Н. ЕРМАЛАЕВА,**
**кіраўнік народнага аматарскага аб'яднання "Роднае слова"**

## *Графіці беларускага хіп-хопа*

**"Праз увесь горад-гарадок з захаду на ўсход" (як спявалі б хіп-хопаўцы) народ ехаў 5 жніўня на конкурс графіці "Твой горад". Праводзіла акцыю "Альфа-радыё" сумесна з адміністрацыяй Першамайскага раёна сталіцы.**

**Такі напрамак маладзёжнай культуры як хіп-хоп з'явіўся на Беларусі год дзесяць таму. Цікавасць да яго яшчэ не надта акрэсленая, а часам нават гіпертрафіраваная. У ідэале хіп-хоп уключае ў сябе графіці, брэйк-данс, рэп і спартыўныя гульні (баскетбол, ролікі). І што самае галоўнае — жорсткае "не" наркотыкам. Але гэта ў ідэале...**

**Дванаццаць каманд (у кожнай па 5-10 чалавек) з'ехаліся ва Уруччa, каб паказаць сваё майстэрства малявання на сценах. Мэта акцыі — далучэнне моладзі да ўпрыгожвання свайго горада. Цалкам пагаджаюся з арганізатарамі: горад наш прыгожы, утульны, чысты (месцамі), але шэры. Асабліва "спальныя" мікраёны. А графіці, як яркая пляма, што радуе вока і не абражае душу. Ва ўсялякім разе, гэта лепш, чым нецэнзурныя надпісы і пахабныя малюнкі.**

**Накont вынікаў конкурсу арганізатары ў асобе Сяргея Кузіна ("Альфа-радыё") заявілі: "Мастака ацаніць нельга! Таму ўсім удзельнікам вырашылі ўручыць балончыкі з фарбай, што "для мастака самае святое".**

**Аднак да канца не зразумелымі засталіся для мяне тыя спевакі, што сваімі песнямі імкнуліся дапоўніць атмасферу свята. Натуральна, імкнуліся быць неардынарнымі, непадобнымі адзін на аднаго, а на справе зліліся ў адно цэлае: аднолькавыя рухі, аднолькавая музыка, аднолькавыя тэксты. А адзін з лідэраў выступаючага гурта скардзіўся нават на галаўны боль пасля бурлівая праведзенай ночы. У гэтым, мабыць, і ёсць асаблівасці нацыянальнага хіп-хопа?**

**Вольга АНЦІПЕНКА**

## *Пра Петруся Броўку*

**Літаратурныя вечарыны не ў навіну на Ушаччыне. Такая ўрачыстасць адбылася і ў гонар 95-годдзя паэта-земляка Петруся Броўкі.**

**У глядзельнай зале дзіцячай школы мастацтваў сабраліся прыхільнікі творчасці паэта. Работнікі раённай бібліятэкі імя Е. Я. Лось падрыхтавалі да гэтага дня кампазіцыю паводле вершаў П. Броўкі. І прысутныя маглі аднавіць у памяці радкі, поўныя лірызму і броўкаўскай шчымлівасці пачуццяў.**

**З захапленнем слухалі прысутныя гасцей, якія прыехалі на свята. Не ўпершыню з раённай сцэны чытаў свае вершы паэт з Глыбокага Алесь Жыгуноў.**

**Была цікавасць ушачан і да паэта Віталя Гарановіча. З задавальненнем пазнаёміліся прысутныя і з творчасцю паэткі Ірыны Дарафейчук, якая працуе настаўніцай інфарматыкі Полацкай нацыянальнай гімназіі.**

**У гэты вечар чыталі свае вершы і ўшачане. Са сваёй творчасцю пазнаёміў удзельнікаў свята мясцовы самадзейны кампазітар Мікалай Віткоўскі. Разам з ім спявала Іна Клімава, салістка РДК. А перш за ўсё прагучалі песні на словы П. Броўкі. Глыбоцкі кампазітар Браніслаў Грамакоўскі таксама спяваў пакладзеныя на мелодыю творы розных беларускіх паэтаў.**

**Г. ВАРАТЫНСКАЯ**
*г. Ушачы*

## *"Неўгін", N 2*

**У Даўгаўпілсе адбылася прэзентацыя другога нумара альманаха "Неўгін" (адно з гістарычных назваў Даўгаўпілса, якому ў гэтым годзе споўнілася 725 год). У альманаху багата рубрык. Пад рубрыкай "Паэзія" друкуюцца тут і вершы на беларускай мове Станіслава Валодзькі.**

УРАЖАННЕ

# З каго смяёмся? З сябе смяёмся

Аляксей Дудараў назваў сваю п'есу "Прынц Мамабук" "хуліганскай і дасціпнай казкай". І гэта чыстая праўда, зразумела я, паглядзеўшы сцэнічныя версіі двух тэатраў — Рэспубліканскага беларускай драматургіі і Мінскага абласнога. Называю іх у парадку азнаямлення, хаця ў другім яна ідзе ўжо цэлы год і без асаблівага шуму. Затое на здачу пастаноўкі В. Мазынскага клікалі як на сенсацыю: маўляў, спектакль будзе забаронены, так што другі раз, можа, і пабачыць не давядзецца...

Прадстаўнікі Міністэрства культуры падчас прагляду здаваліся прыгнечанымі, напятымі. І не дзіўна: іх становішча вартае жалю, бо ўлада не разумее жартаў, а ў п'есе нямала рэплік і намёкаў, за якімі можна ўбачыць сатырычны падтэкст. Аднак жа колькі бяскрылых, няўдалых тэатральных праектаў яны блаславілі ў свет без асаблівых заўваг! А чаго вартыя конкурсы, дзе прызнаныя лідэры драматургічнага цэха рэгулярна "спаборнічаюць" з пачаткоўцамі і аматарамі! А як нядобра пахне на кухні так званых дзяржзаказаў!..

Але пакінем за дужкамі тэатральна-міністэрскі кантэкст і звернемся да Мамабука. Гэта сімпатычны праставаты правіцель маладой астраўной дзяржавы ("кароль у першым пакаленні"), які прыбыў з візітам у краіну Бусярось. У адметным выкананні М. Кучыца (Вольная сцэна) ён не толькі сентыментальны і па-дзіцячы наіўны, але і па-свойму мудры, і па-сапраўднаму годны. Артыст бездакорна вядзе ролю — не "пераціскаючы", не стараючыся дагадзіць публіцы. Яму відавочна падабаецца ягоны незадачлівы герой, які калісьці партызаніў у джунглях, узначаліўшы барацьбу за незалежнасць Трыбудана, а зараз мае каралеўскія прывілеі і пяць жонак.

Спектакль маладзечанцаў падаецца больш роўным — як па акцёрскім выкананні, так і па тэмпарытме. Ніхто асабліва не вылучаецца, але ніхто і не выбіваецца са стылю, як гэта здарылася ў калег, дзе М. Рабычын (Калюня) і Л. Сідаркевіч (Люська) іграюць нейкі іншы, крыклівы, да болю знаёмы лубок. У вобразе былой каханкі караля, прадаўшчыцы Марусі па-свойму пераканаўчыя Т. Мархель і І. Камышава, кожная знайшла свае інтанацыі і адценні. Адно Калюню ні там, ні там не пашанцавала, бо па ролі ён павінен мець роўна 21 год, а за такога цяжка прыняць дзядзьку пад сорак ды мужыка добрых трыццаці.

Спадабаўся гледачам баявы саратнік і спадзвіжнік караля Табу ў выкананні І. Сігова; ён жа паставіў на Вольнай сцэне танцы.

Трэба сказаць, што вальнасцэнаўцы ўскладнілі сабе задачу, узяўшы за аснову жанр музычнай камедыі. У "тутэйшай аперэтцы" (падзагаловак) элементы оперы, зонгі, рэп і яшчэ невядома што — усё злілося ў адно дынамічнае вынаходлівае дзейства. (Праўда, у другой дзеі на музычныя ўстаўкі амаль забыліся, і праз гэта яна выглядае беднейшай). А што збліжае абедзве пастаноўкі, дык гэта лёгкасць выканання: і тыя, і другія іграюць з задавальненнем і добра прымаюцца публікай.

...Але і задаў жа аўтар усім задачку "папуаскім" паходжаннем свайго героя! Не ведаю, як у геаграфіі, а вось у этнаграфіі мастакі-афармiцелі абодвух тэатраў не вельмі абазнаныя і спецыяльнай літаратурай сябе, падобна, не абцяжарвалі. Маладзечанцы даволі паслядоўна абыгралі арабскія матывы, а Вольная сцэна спалучыла Індыю з Японіяй. На самурая падобен Табу, а пабочны сын Мамабука, Калюня, сядзіць у позе ёга на цвіках, а жонка для пераканаўчасці называе яго то "прыпыленым папуасам", то "чортавым індусам" (што далёка не адно і тое). Бедныя візіцёры! Іх так часта абзываюць людаедамі, што аж крыўдна за іх становішча: госці ўсё-такі... У творы столькі дасціпаў і гумарыстычных знаходак, што такога роду танныя прыёмы проста не ўспрымаюцца.

А відовішча ідзе к фіналу... У казцы як у казцы: кароль Мамабук бярэ Марусю шостай, "пазаштатнай" жонкай, тутэйшыя выбраліся ляцець на далёкі востраў з лагунамі і папугаямі, і раптам "аблом": у Трыбудане адбываецца ваенны пераварот, і наш "Мамбік" абвешчаны дзяржаўным злачынцам. Нічога іншага не застаецца, як ехаць за жонкай у вёску — растрасаць гной пад пальмамі ды вырошчваць бананы. "Тут мой трон", — кажа расчулены кароль Мамабук, спазнаўшы радасць уз'яднання з сям'ёю. На гэтым варта было б паставіць кропку, бо ўсё астатняе ў спектаклі — ад лішку аўтарскай фантазіі.

"Хуліганскую" пастаноўку ўспрымаеш па-іншаму, ведаючы рашэнне калегіі Міністэрства культуры адносна галоўнага рэжысёра тэатра-лабараторыі В. Мазынскага (ён перастаў такім быць). Мы не валодаем інфармацыяй наконт сапраўдных матываў рашэння, што ж да спектакля, то межы палітычнай прыстойнасці ў ім, здаецца, не парушаюцца. Прыбраць парачку "прыдуркаў", змікшыраваць алкагольныя матывы — і можна паказваць гледачам. А што з сябе смяёмся — бяда малая. Кажуць, што смех з сябе самога — яскравая прыкмета душэўнага здароўя. За сентыментальнай "гісторыяй кахання" і перыпетыямі візіту ў Бусярось астраўнога правіцеля адчуваецца не столькі жаданне А. Дударава пакпіць з некага персанальна, колькі горкі роздум пра нас усіх, пра народ, які ніяк не вызначыцца і не наладзіць свайго жыцця па-людску.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# Дзе любоў, там і Бог

Маленькія беларусы прыехалі ў Амерыку на аздараўленне. З гэтай прыемнай нагоды пад Вашынгтонам, у прыватным парку, якім валодае сям'я Томасаў, сабралася шмат людзей: амерыканцы, якія прынялі дзетак, фундатары, беларускія дыпламаты, старшыня Нью-Йоркскага дзіцячага фонду "Гуманітарная дапамога" Мікалай Клімюк, спявак Васіль Янкевіч...

Разам з гандлёвым дарадчыкам беларускай амбасады ў ЗША Сяргеем Дзідэнкам і яго жонкай Вольгай разважаем над тым, што бацькі гэтых дзетак там, на Беларусі, хвалюющца зараз ды перажываюць. А мо і шкадуюць, што адпусцілі сваіх сыноў і дачок у такую далечыню? Пазіраем на вясёлых дзяцей і прыходзім да высновы: падстаў для перажыванняў аніякіх. Ніхто з малечы не куксіцца, не хаваецца па куточках. Ім весела і цікава пад амерыканскім небам і сонейкам.





Разам з дзецьмі, натуральна, прыехалі з Беларусі і дарослыя, перакладчыцы і дбайныя гаспадыні — другія маці для маленькіх беларусаў на час аздараўлення. Адна з іх — Людміла Шымчук. Яна і паведаміла, што хлопчыкі і дзяўчынкі — з чарнобыльскай зоны: з Хойнікаў, Піншчыны, Нароўлі, Смаргоні, двое — мінскія, з мнагадзетных сем'яў. А адправіла іх сюды са згоды амерыканскага боку беларуская дабрачынная арганізацыя "Дзеці Чарнобыля", якой кіруе Генадзь Грушавы. Сама Шымчук выкладае англійскую мову ў Мінскім лінгвістычным універсітэце і з 1992 года супрацоўнічае з фондам Грушавога.

Яе калега, Вольга Бараўля расказвае пра тое, што ў абавязкі іхнія ўваходзіць арганізацыя візітаў да ўрачоў, догляд за дзеткамі, дапамога ў азнаямленні з амерыканскім побытам. Жывуць жанчыны ў тых жа ўмовах, што і дзеці.

Беларускія блізняткі Лена і Сяргей Дубовікі з Піншчыны гасцююць у сям'і спадарства Кусцей. Пытаюся ў Сяргея:

— Вось ужо чацвёрты год сюды прыязджаеце. Прымаюць вас, як родных. А ці хацеў бы ты застацца тут назаўсёды?

— Ды хіба ж тату і маму кідаюць? Не, я люблю тут адпачываць... Калі вырасту, таксама буду клапаціцца пра дзяцей. І сябраваць з Амерыкай.

Разважаючы над дзіцячай непасрэднасцю, падумала: мо менавіта так і трэба змагацца са злом на зямлі. З дапамогай сяброўства, сілай сардэчнасці і дабрыні...

Лу і Робін Кадэгі ўзялі ў свой дом і гасцінна адчынілі свае сэрцы для Юлі Савіч. Пытаюся ў спадарыні Робін:

— Гэта ж вельмі цяжка, акрамя сваіх дзетак, клапаціцца яшчэ і пра чужых. Ці не лепей замест гэтага паехаць самой кудынебудзь на адпачынак, купіць нешта, каб упрыгожыць асабістае жыццё?

Робін смяецца:

— Самае карыснае і прыгожае — дзеці! І я сапраўды шчаслівая, што, акрамя сваіх, Бог паслаў яшчэ і дзетак з Беларусі. Яны сталі часткай нашай сям'і, нашага жыцця...

А вось Іру Мядзведзеву і Кацю Шкут з Хойнікаў узяла да сябе пенсіянерка Джын Джонсан. Яна таксама ў захапленні ад выхаваных і прыгожых дзяўчынак.

Цёплай і сардэчнай была чарговая сустрэча. Спяваў цыганскія рамансы Васіль Янкевіч. Прыемны падарунак амерыканцам, дый нашы дзеці былі ў захапленні. Сапраўдны цыган з гітарай, прыгожым голасам і пачуццём гумару. Яго запрасіў беларускі дыпламат Леанід Сеннікаў, без намаганняў якога праграма амерыканская жыцця беларускіх дзетак не атрымалася б такой разнастайнай. Шэсць тыдняў яны будуць адпачываць, дыхаць чыстым паветрам, знаёміцца з Амерыкай. Як адзначыў Сеннікаў, праца амбасады не была марнай, а дала добры плён у развіцці адносін паміж нашымі краінамі. Так што маленькія беларускія госці — таксама дыпламаты...

У прыўзнятым настроі і гаспадыня парку Тэры Томас. Яна арганізавала тут лагер "Дружба" для беларускіх і амерыканскіх дзяцей, якія на ўлонні прыроды будуць вывучаць звычаі і гульні індзейцаў, займацца спортам, абменьвацца песнямі і танцамі.

Дарэчы, у сям'і Томасаў жыве беларуская дзяўчынка Хрысціна з Баранавіч. Калі ў яе нехта спытаўся, колькі дзяцей у яе сям'і, яна адказала без сумневу: "Двое. Я і мая амерыканская сястрычка Вікторыя!" Для духоўнага сваяцтва геаграфічныя межы значэння не маюць. Хрысцінка гасцюе ў Амерыцы. Вікторыя збіраецца наведаць Беларусь...

Амерыканка Кэты Ховел — адна з фундатараў дабрачыннай праграмы. Яна тлумачыць мне, што грошы для аздараўлення беларускіх дзяцей паступаюць ад прыватных асоб, самых разнастайных кампаній. "Мы актыўна шукаем сродкі, заўжды пры гэтым знаходзім узаемапаразуменне, — кажа спадарыня Ховел. — Кожны жадае быць карысным і імкнецца любіць тых, хто мае патрэбу ў любові. А дзе любоў, там і Бог".

**Вера ВЯРБОЎСКАЯ**
*Вашынгтон, ЗША*

# Гонар быць беларусам

***“Беларусам быць нявыгадна”, — вырашае адзін, упарта “мімікрыруе”, прыстасоўваючыся пад дзень сённяшні, не зважаючы на мінулае і будучае. Час спыняецца. А балота шэрай будзённасці засмоктвае абыякавых і бязродных з абыякавасцю балота...***

***“Гонар быць беларусам выпадае не кожнаму”, — перакананы другі і не стамляецца шукаць аднадумцаў, стукаць у дзверы і сэрцы, ствараць і ўпрыгожваць уласны свет, з адказнасцю доўжыць тое, што пакінулі нам продкі не мёртвым грузам, а зместам жывой беларускай душы.***

***На пытанні “ЛіМа” адказвае беларус Адам МАЛЬДЗІС.***

**— Адам Восіпавіч, вы прыдумалі ўжо сваю Беларусь? Якая яна?**

— Чаму — прыдумаў? Своеасаблівы ідэал сённяшняй Беларусі існаваў рэальна. Гэта Вялікае Княства Літоўскае (дарэчы, слова Княства таксама трэба пісаць з вялікай літары — як гэта робяць нашы суседзі, аддаючы перавагу не прыметнікам, а найперш назоўніку). Прытым — не ўсё Княства, а Княства часоў Францыска Скарыны, перыяду найбольшай стабільнасці. Менавіта тады, на першай хвалі рэнесансу, гэтая дзяржава дала Еўропе, апрача Скарыны, Міколу Гусоўскага і Сымона Буднага, дала Літоўскі статут, адзін з самых дасканалых у тагачаснай Еўропе збор законаў, “літоўскае” летапісанне і Мірскі замак. І многае іншае.

Аднак зважаючы на тое, што мы стаім на парозе XXI стагоддзя і што двойчы ў адну і тую ж раку гісторыі ўвайсці нельга, сёння гэты ідэал я акрэсліў бы знешне даволі парадаксальна: Вялікае Княства Літоўскае плюс інфарматызацыя ўсяго грамадства!

Пачну з першай часткі, з Княства. Чаму беларуска-літоўская дзяржаўная супольнасць (калі глядзець з сённяшняга Вільнюса, то няхай гэта будзе, як казаў польскі гісторык Юльюш Бардах, і літоўска-беларуская супольнасць) прывабная для нас? Найперш таму, што тады ў дзяржаве панавала адносная раўнавага (у параўнанні з ранейшымі і пазнейшымі часамі). Раўнавага сацыяльная, этнічная, канфесійная. Прыкладна палову паноў-рады ці радных места Вільні складалі “русіны” (не “маскавіты” ж!), праваслаўныя, а другую палову — “літвіны” (у тым ліку жмудзіны), католікі. Не было яшчэ шляхецкай “вольнасці” (а па сутнасці анархіі), якая потым загубіла Рэч Паспалітую. У краіне панавала сапраўдная талерантнасць, якая прываблівала сюды з Захаду габрэяў, з Усходу — татараў. Усе яны, як і гаспадары, пачуваліся сябе роўнымі і вольнымі, што шакіравала замежных падарожнікаў, пачуваліся грамадзянамі, а таму і патрыётамі адзінай дзяржавы, дзяржавы вялікай і моцнай. Таму і Скарына называў сябе і русінам (этнічна), і літвінам (дзяржаўна). Таму і змог ён, будучы католікам (бо разам з сям’ёй прыняў, паводле дасведчанага Яна Кантака, у 1498 г. каталіцкі хрост у полацкім бернардзінскім касцёле ў імя св. Францішка), адрасаваць сваю Біблію найперш праваслаўнаму “люду паспалітаму”. Але таксама і ўсім хрысціянам Княства. Бо хрысціянства — адно, дзяржава — адна, вялікі князь — адзін. І дзяржаўная мова — адна: старажытнабеларуская (як бы мае літоўскія калегі ні спрабавалі сёння назваць яе “канцылярскай мовай Вялікага Княства Літоўскага”). Гэта потым, пасля Люблінскай і Брэсцкай уній, а дакладней — у сувязі з Лівонскай вайной, якая справакавала іх, пачаліся сацыяльныя, этнічныя і канфесійныя “раздраі”.

Такім чынам, “залаты век” часоў Скарыны і Буднага не прыдуманы ні мной, ні іншымі “ідэалістамі-нацыяналістамі” — ён існаваў рэальна. У тыя часы наш, беларускі цягнік (выкарыстоўваю тут лексіку з “Кар’ера” Васіля Быкава) рухаўся нармальна ці нават з апераджэннем (прыгадаем, калі былі выдадзены першыя кніжкі ў Маскве, Львове ці літоўскі “Катэхізіс” М. Мажвідаса), рухаўся па ўласных рэйках. А з другой паловы XVI ст. ён пачаў збівацца на іншы шлях. І калі б не стагоддзі паланізацыі ці русіфікацыі (у XIX ст. яны спалучаліся ды спалучаюцца і цяпер), наша дзяржаўная супольнасць выглядала б сёння зусім інакш. Не ведала б комплексаў ніжэйшасці ці псеўдаталерантнасці. Бо талерантнасць — гэта сіла моцных і хібнасць слабых.

Ну а як Вялікае Княства Літоўскае звязаць з інфарматызацыяй, што ўсё нам здаецца нейкай мудрагелістай непатрэбнасцю?

Пачну здалёку, са зразумелай усім нам беларускай літаратуры. Гадоў сорак таму, калі я быў яшчэ аспірантам, мяне вельмі нервавала, што на пошукі крыніц, патрэбных публікацый ідзе ці не асноўная частка даследчыцкага часу. Кожны сам сабе адкрывае амерыкі, сам шукае сваю сякеру пад лаўкай, каб потым, знайшоўшы, зноў згубіць яе (прынамсі, для іншых). Тады, памятаю, завёў чорны сшытак, дзе кожнаму пісьменніку XIX ст. адвёў асобныя старонкі. Але старонак пачало не ставаць, і на змену сшытку прыйшлі выпіскі, на змену выпіскам — картачкі, картатэка. Паволі яна пашырылася на іншыя стагоддзі, на прадстаўнікоў іншых літаратур. Да маіх выпісак і картатэк усё часцей звярталіся калегі, якім не хацелася дарма губляць час на пошукі. І тады нараджалася настойлівая думка: патрэбны біябібліяграфічны даведнік, куды ўвайшлі б (па магчымасці) усе беларускія пісьменнікі, а таксама аўтары, якія пісалі на іншых літаратурных мовах Беларусі. Так з’явіўся шасцітомнік “Беларускія пісьменнікі”, дзе ўпершыню быў ахоплены ўвесь наш літаратурны “мацярык” (уключаючы і эміграцыю). Рыхтаваўся ён пакутліва, бо трэба было “распісаць” усе адпаведныя кніжныя і перыядычныя выданні. Калі іх не было ў Мінску, ехалі ў Маскву, Ленінград, Вільнюс, Варшаву, Берлін, Лондан. Запаўнялі, а потым і “сартавалі” тысячы і тысячы картак ад рукі, бо камп’ютэраў тады (прынамсі, у Інстытуце літаратуры, дзе пачыналася праца) яшчэ не было. Адным словам, на падрыхтоўку даведніка ў мяне асабіста пайшло больш за дзесяць гадоў жыцця... Потым, калі здалі першыя тамы ў нашу “БелСЭ”, пачаліся іншыя цяжкасці — ідэалагічныя: чаму ўключылі таго, чаму назвалі “варожую” кніжку другога. Давялося даказваць элементарнае: даведнікі такога тыпу — не пантэон для выбраных, а крыніца інфармацыі. Нарэшце дачакаліся мы больш спрыяльных часоў. Шасцітомнік выйшаў. Вядома, у ім ёсць недакладнасці, памылкі, але часам, ведаючы ўсю “кухню”, здзіўляюся, што іх не так ужо і шмат.

Куды больш пачало трывожыць іншае: а як быць з новымі публікацыямі, новымі імёнамі? Літаратурны ж працэс не спыніўся... І чаму толькі — пісьменнікі?! А мастакі, кампазітары, артысты, вучоныя, грамадскія і ўсялякія іншыя дзеячы? А мастацтва, культура, грамадства як такія? Вось каб можна было б, набраўшы патрэбнае ключавое слова (выбіраю наўгад: “Багушэвіч”, “Орша”, “Бельгія”, “цыганы”, “іслам”, “кіно”, “гісторыя адукацыі”, “XVI ст.”), праз колькі мінут пабачыць на экране патрэбную інфармацыю: дзе, што, калі надрукавана, а то і сам тэкст публікацыі... Так узнікла ідэя Банка інфармацыі па гуманітарных навуках (толькі пакуль па гуманітарных — ад недахопу сіл і сродкаў) у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны. Спачатку рабілі ўсё па-ранейшаму, на бібліяграфічных картках. Потым разжыліся на камп’ютэры. Распрацавалі, зыходзячы з практыкі, адмысловую праграму па ўводу інфармацыі па дзесяці асноўных напрамках: “Адукацыя”, “Гісторыя”, “Дыяспара”, “Краязнаўства” (мясціны), “Культура” (уключаючы мастацтва), “Навука”, “Народазнаўства”, “Рэлігія”, “Рэстытуцыя” (у шырокім сэнсе), “Сувязі” (паміж краінамі і народамі). Паралельна назапашваюцца тэксты з 80 найбольш інфармацыйна насычаных беларускіх і 40 зарубежных выданняў. Не сумнявайцеся: “Літаратура і мастацтва” абавязкова ўваходзіць сюды, выкарыстоўваюцца ажно тры экземпляры. І тым не менш, уводзіцца ўсяго працэнтаў дваццаць патрэбнай інфармацыі. Больш чым чатыром супрацоўніцам не пад сілу. Патрэбны дадатковыя асігнаванні, плошчы, больш магутная тэхніка. Імкнуліся кааперавацца з Кніжнай палатай, з Нацыянальнай бібліятэкай. Прыходзілі адтуль, зацікаўлена знаёміліся з вынікамі. Але на прапанову кааперавацца адказвалі, што няма пакуль сродкаў. Не раз спрабавалі зацікавіць улады, падавалі заяўкі на гранты. Прыходзілі адказныя асобы, у тым ліку дырэктар Інстытута інфарматызацыі Алег Галіноўскі. Здзіўляліся, што ў Беларусі ўсё ж існуе хоць адна нацыянальная праграма па ўводу інфармацыі. Але як знайсці сродкі, не ведае сёння ніхто. Між тым нідзе мы так катастрафічна не адстаём, як у інфарматыцы. Пройдзе год-другі — і дагнаць нашых бліжэйшых суседзяў стане проста немагчыма. Асабліва ў гуманітарнай сферы.

А калі вам здаецца, што інфарматыка — гэта спецыфічная, вузкатэхнічная сфера, што да “сваёй Беларусі” і тым больш да Вялікага Княства Літоўскага яна не мае аніякага дачынення, то дазволю сабе працытаваць радкі з артыкула беларускага біёлага Аляксея Міку́ліча. Вычытыў іх якраз сёння, праглядаючы (для таго ж Банка інфармацыі) гродзенскую “Пагоню”: “Бо напраўду свабодным можа быць толькі добра інфармаваны чалавек”. Зноў жа сёння натрапіў на след кнігі іспанца Мануэля Кастэльса “Інфармацыйная эпоха”. Аказваецца, віртуальнасць непазбежная, яна прынцыпова мяняе не толькі свет, але і чалавека, рашуча набліжаючы яго да Ісціны. Яна можа, дадам ужо ад сябе, стаць для нас збавеннем, а можа і катастрофай. Як бачым, да традыцыйных рысаў нашага, беларускага ідэалу, да ўраўнаважанасці, памяркоўнасці, законнасці сёння дабаўляецца і нешта прынцыпова новае: інфармацыйная дасведчанасць, залежная ад яе свабода выбару.

**— У сваёй кнізе “Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя” вы ўзгадваеце выказванне польскай пісьменніцы Радзевіч пра абагульнены партрэт беларуса-палешука, гэткага Грыца, прозвішча якому легіён: “Грыц не ведае, якая вялізная ў яго радзіма і якая шматлікая ў яго радня, як не ведаюць пра гэта дажджавы чарвяк, палявая мыш,**



**крот, карась і вераб’і... А мо тут няма іроніі, адно толькі зайздрасць? Мо толькі ў гэтым сапраўднае чалавечае шчасце — жыць і не ўсведамляць, хто кіруе дзяржавай, што адбываецца з нашай палітыкай і эканомікай? Мо беларусы, застаючыся часткай прыроды, самыя шчаслівыя ў свеце?**

— Сапраўды, часам зайздросціш птушкам, якія не сеюць, не жнуць, але тым не менш шчабечуць, зайздросціш дзіцяці, якое не ўсведамляе, што нарадзілася ў эпоху лакальных і глабальных крызісаў, зайздросціш земляку-вяскоўцу, для якога радыяцыя і іншыя -цыі застаюцца пустой абстракцыяй. Можа, такая зайздрасць была і ў Марыі Радзевіч, вельмі цесна знітаванай з палескай, беларускай (а для яе “літоўскай”) прыродай. Яе сучаснікі па польскай літаратуры пакутліва вырашалі для сябе пытанні нацыянальнага быцця і небыцця. А яна, як і мясцовыя сяляне, замыкалася ў першасным і прывідным свеце “тутэйшасці”, “краёвасці”. Дарэчы, беларускі селянін, калгаснік і сёння яшчэ не закончыў пакутлівы пераход ад тутэйшасці да нацыянальнай самасвядомасці. А можа, і не закончыць яго ніколі. Так і застанецца патрыётам сваёй хаты, сваёй сядзібы, сваёй вёскі... Але не патрыётам сваёй айчыны, дзяржавы.

**— “Былы фальварковец з Расолаў, былы местачковец Астравецкі, а цяпер мешчанін Менскі” — так называў вас калісь Уладзімір Караткевіч. Мешчаніну не баліць па фальварку? Чым жывуць вашы сённяшнія Расолы, Астравец?**

— Ну, адносна фальваркоўца Караткевіч яўна перабольшыў. Расолы — і Горныя (або “Козы”), і Дольныя былі даволі беднай вёсачкай. Праўда, калі Валодзя бываў у Расолах, калі прыязджаў паглядзець “крыж Аняліна”, іншыя хаты пераважна перанеслі ўжо ў “перспектыўныя” вёскі, а хата маіх бацькоў сапраўды выдзялялася. Як сваёй адзінотай, так і тым, што была крыта не саломай, не дранкай, а бляхай. Дарэчы, гэтая бляха была прычынай частых непаразуменняў, калі арганізоўваліся калгасы. З нас раённае і сельсавецкае начальства звычайна пачынала абходы. У нашай хаце адбываліся сходы, на якія мне даводзілася склікаць вяскоўцаў. З-за гэтай няшчаснай бляхі бацька мусіў першым “паказаць прыклад”, бо інакш нас збіраліся вывезці (нават некалькі разоў мы начавалі ў жыце). Але дах сведчыў, хутчэй, не пра заможнасць бацькоў, а пра ідыятызм вясковага жыцця. Бацька аддаў за ацынкаваную бляху ледзь не апошнія грошы, таму што гэтага запатрабаваў яго старэйшы брат, “фейчар”-самавук. А польскія ўлады падтрымалі яго, багацейшага: маўляў, блізкае суседства пагражае пажарам...

Сёння сэрца, вядома ж, баліць па “фальварку”, бо згарэў ён, калі па суседстве гулялі ці не апошняе ў Расолах вяселле. Затое засталася непадалёку, у Палушах, хата бацькоў маёй жонкі. Караткевічу яна таксама падабалася. А Сяргей Панізнік, якому мы там падаравалі плуг і нейкія ткацкія прылады, называў яе “хаткай дзеда Караля” і заклікаў нас да повязяў з ягонай “хаткай бабкі Параскі”. У каморы цяпер існуе невялічкі “этнаграфічна-мастацкі” музей з аўтографамі таго ж Караткевіча. Так што цяпер ён назваў бы мяне “фальваркоўцам Палушанскім”. Ці, дакладней, засцянкоўцам — даўней там быў засценак дробнай шляхты Вішнеўскіх. Так што для мяне шлюб стаў пэўнай заслонай “кар’ерай” бо “Мальдзі” паходзілі з мужыкоў. Мусіць, нехта з продкаў вылучаўся набожнасцю: “малда” па-літоўску гэта модлы, малітва. Яшчэ на памяці маіх дзядоў (казала цётка ў Вільні) Астравецкі край, раней (сведчыць тапаніміка) літоўскі, спакваля беларусізаваўся, і сёння толькі ў Гервятах і Рымдзюнах засталіся астраўкі этнічнай літоўскасці. Вельмі архаічнай, “першаснай” па мове і побыту. Дарэчы, у жніўні там будзе адчыняцца Цэнтр літоўскай культуры. Добра было б беларусам такі мець у Вільнюсе. Хаця б у выглядзе адроджанага Віленскага беларускага музея...

Аднак вернемся да Расолаў, да таго, ад чаго баліць сэрца. Безумоўна ж, найперш ад таго, як сёння выглядаюць Расолы. Ад сядзібы засталася толькі студня. Расалоўка абмялела, а вада ў ёй пачарнела. Усюды пустазелле, хмызы. Ля старога гасцінца, які вёў з Палушаў на Шумск, спілавалі векавыя бярозы, а ў глыбокіх каляінах не прасыхае дажджавая вада. Па гасцінцы цяпер амаль ніхто не ездзіць: далей Літва. У 1939 годзе каля нас правялі граніцу па жывому, так, як гэта захацелася пальцу Сталіна ці Молатава. Для маіх бацькоў гэта было штосьці страшнае і незразумелае, бо каля Шумска ці Вільні размаўлялі таксама, як і ў Расолах, бо традыцыйна ўвесь край, перапалавінены цяпер, эканамічна і культурна цягнуўся да Вільні. Цягнецца і цяпер, таму што Гродна, Маладзечна ці Мінск далёка. Але раней умоўная, а потым празрыстая граніца становіцца ўсё больш і больш замкнёнай. І я разумею літоўцаў, чаму яны да гэтага імкнуцца. Па-першае, з беларускага боку туды ідуць адносна больш танныя прадукты, гарэлка, самагон, цыгарэты (сам у цягніку бачыў, як з чатырох пляшак мытнік “дазволіў” правезці бабульцы толькі тры). Па-другое, прабіраюцца нелегалы. З-за гэтых нелегалаў таксама баліць сэрца. Мне яшчэ можна паехаць у Палушы ці Расолы, бо ў мяне ёсць і замежны пашпарт. А вось маім сынам і ўнукам — ужо не. Не дадуць ім у Мінску білет на прыгарадны цягнік да Гудагая, калі ў іх не будзе дакумента, што яны там жывуць. Даводзіцца хітраваць, ашукваць дзяржаву, браць білет не да пагранічных Гудагаяў, а да бліжэйшых Солаў, а там ужо тры прагоны ехаць на свой страх і рызыку. І што цікава: у цягніку ніхто там білетаў не пытае. А нелегалы цягнікамі ж не дабіраюцца. Іх правозяць за плату аўтамашынамі па палявых дарогах, а потым перадаюць напарнікам з літоўскага боку ў дамоўленым месцы. Самае цікавае, што і такса невысокая: усяго дзесяць долараў ад чалавека. Звесткі, праўда, мінулагоднія.

Які выхад мне бачыцца? Пускаць у прыгранічную зону, калі ў каго ёсць беларускі пашпарт, і не пускаць без такога пашпарта. Бо не толькі нашу сям’ю закранулі ўсе гэтыя нелагічныя абмежаванні, а і сотні, тысячы выхадцаў з прыгранічных раёнаў. І адначасова ўзмацніць нагляд за палявымі дарогамі і сцежкамі. Нават сам колькі разоў, збіраючы грыбы ля родных Расолаў, бянтэжыўся: перайшоў ужо тую граніцу ці яшчэ не?!

А ўвогуле — цягне на Астравеччыну. Там чысцейшае паветра, менш засмечаныя лясы і пералескі, знаёмая з дзяцінства беларуская гаворка. Дзе яшчэ захаваліся такія архаічныя формы: “я тады ўжо быў прыйшоўшы”...

**— У 67-ым годзе на святкаванні 900-годдзя Мінска адзіным чалавекам, які на ўрачыстым пасяджэнні ў Палацы спорту сказаў некалькі слоў па-беларуску, быў... мэр горада Вільнюса. І на сёння гэты факт успрымаецца ну ніяк не анекдатычна. Халодная абыякавая восень пасярод няспраўджанай цёплай беларускай вясны — звычайная для нас “кліматычная” з’ява?**

— На жаль, гэта так. Не думаў я калісьці, пачынаючы пад уздзеяннем Караткевіча пісаць сваю першую і, можа быць, апошнюю (другую “ўнутраны голас” прымусіў перапыніць на 66-й старонцы) аповесць, даючы ёй даволі банальную назву “Восень пасярод вясны”, што такі ж “кліматычны” стан наканаваны нашаму адраджэнню. І не толькі грамадскаму. Вазьміце прыроду. Сёлета зіма, замаразкі прыйшлі ледзь не пасярод лета.

(Працяг на стар. 15)

## "Расстайны пах асоту"

**"Колькі гадоў, дзесяцігоддзяў, стагоддзяў (хто здолеў бы падлічыць!) людзі намагаліся, стараліся, высільваліся, імкнуліся, хацелі, але не здолелі і да гэтага часу не могуць зразумець, спасцігнуць і разгадаць недасяжны сэнс гэтага звычайнага слова!" — так пачынаецца аповесць "Інстынкт, або Прысак кахання і жарства пакут", што**




**адкрывае кнігу Анатоля Бутэвіча "Расстайны пах асоту", выпушчаную выдавецтвам "Юнацтва". А працяг гэтых лірычна-ўзнёслых разваг прыводзіць да таго, да чаго і павінен быў прывесці:**

**"І слова гэтае — К а х а н н е... Каханне...**

**Хто з таемным першародным страхам і цнатлівым трымценнем голасу, з узбуджальна-хвалюючай дрыготкай у целе не прамаўляў, не вышэптваў і не выдыхаў гэтага слова, не вымольваў яго, не трызніў ім, не спадзяваўся на яго, як на апошнюю і найвышэйшую надзею?" Перафразіруючы вядомае выслоўе, можна сказаць, што ўсе мы родам з кахання. Але ў жыцці кожнага пакалення яно усё ж па-свойму адметнае.**

**Лішні раз у гэтым упэўніваешся, пазнаёміўшыся з аповесцю "Інстынкт..." А. Бутэвіч расказвае пра каханне сучасных сямікласнікаў — пра тое першае пачуццё, што прыносіць ім і радасць, і расчараванне. А некаторыя, на жаль, ужо ў гэтым узросце прывыклі ставіцца да кахання, як да чагосьці звычайнага. І асабліва не перажываюць, калі штосьці атрымліваецца не так, як хацелася б. Упэўнены, што знойдуць новае захапленне. А. Бутэвіч не грашыць ісцінай, калі паказвае сваіх герояў менавіта такімі — дзецьмі свайго часу, часу шмат у чым рацыянальнага, гатовага загубіць парасткі светлага, таямнічага, з чым і мусіць быць звязана першае каханне. У сюжэтную канву твора хораша ўпісваюцца лісты ад сяброўак, якія атрымлівае галоўная гераіня Анжэла. Менавіта яна ўпершыню і напаткала каханне, пасля якога ўвесь акаляючы свет пачаў успрымацца інакш, чым дагэтуль. Але ж яна, Анжэла, адразу ўпэўнілася, што каханне не толькі радасць, але і душэўныя пакуты. Асабліва, калі той, каго кахаеш, не вельмі сур'ёзна ставіцца да гэтага пачуцця. Аповесць з цікавасцю будзе сустрэта тымі, каму ў першую чаргу адрасуецца: сярэдняму і старэйшаму школьнаму ўзросту. Не пакінуць абыякавымі чытача і апавяданні. Асабліва тыя, што ўспрымаюцца свайго роду дапаўненнем да аповесці. Але героі іх сёння дасягнулі свайго сталага веку. А вяртаюцца яны ў гады, калі перажылі першае каханне. І гэтаксама перажывалі, хваляваліся, як перажываюць, хвалююцца сёння іх дзеці. А ў нечым былі і больш нясмелымі. Але ад гэтага першае каханне станавілася яшчэ больш светлым і таемным. Таму і памяць пра яго пранесена праз гады. Пісьменнік не проста падае тое ці іншае апавяданне, а ў падзагалоўку пэўнага твора акцэнтуе ўвагу на асноўным, што вынеслі яго героі, калі сутыкнуліся з пачуццём, якое перайначыла іх колішняе жыццё. У прыватнасці, апавяданне "Знаёмства ля сіняга мора" мае падзагаловак: "Рэфлексія першага ліставання". "Я буду помніць цябе" — "Рэфлексія першага пацалунка", "Я чую музыку..." — "Рэфлексія першых запросін на танец", "Расстайны пах асоту" — "Рэфлексія першай закаханасці". У апошнім асабліва моцная туга па тым, незваротна страчаным, што ўспрымаецца сёння героем-апавядальнікам, як сон, поўны загадкавасці. І як сведчанне таго, што ў жыцці не так і ўсё проста. Праз дзесяткі гадоў жыве ў памяці першае пачуццё. І напамінак аб ім — звычайны асот. Дакладней, пах яго. Той пах, які колісь ён ніколі не адчуў, пакуль не падказала яму, што і асот пахне, аднакласніца Валя. Ёсць у кнізе і апавяданне "Ойча наш..." — трагічная старонка з гадоў Вялікай Айчыннай вайны. Ёсць "не толькі дзіцячая казка" "Сланечнікава закаханасць". А завяршае кнігу "хутарская рэфлексія" пад назвай "У кожнага свае Баяры, або Спатканне з котлішчам майго маленства". Гэта — вяртанне да сваіх вытокаў, каранёў. Апавядальнік з цеплынёй піша пра зямлю маленства. "Хутарская рэфлексія" добра дапаўняе апавяданні пра каханне. У ёй таксама гучыць любоў. Любоў да Бацькаўшчыны.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ВІНШУЕМ!

# Плач пра "ненароджанае пакаленне"

*Леаніду ГАЛУБОВІЧУ — 50*

XX стагоддзе ведае рэмаркаўскае "згубленае пакаленне", быкаўскае "забітае пакаленне". Апошняя яго трэць павінна была прайсці пад знакам "сямідзесятнікаў", якія, аднак, з-за сваёй малалікасці, абумоўленай ваеннай і паваеннай дэмаграфічнай сітуацыяй, не здолелі спраўдзіць чаканні. А гэта не толькі ненапісаныя кнігі, нясказаныя словы, але і перарваная "сувязь часоў", што надае сэнс гісторыі і напаўняе значэннем наша асабістае быццё ў свеце. Уявіце, што ў радаводзе ("Аўраам нарадзіў Ісаака; Ісаак нарадзіў Якава; Якаў...") выпала адно-два звяны, і вы адчуеце змястоўнасць паняцця "пакаленне".

Леанід Галубовіч — паэт "ненароджанага пакалення". Ён востра адчувае ролю лёсу ("...Я жыву выпадкова на гэтай зямлі... Нарадзіўся ў аўсах сярод пожні калючай..."). Адсюль такая ўвага да ходу "біялагічнага гадзінніка": "Я — дзіцём — крыклівым быў і шумным", "Хутчэй! З маленства — у юнацтва... Хутчэй! З юнацтва — ў маладосць...", "За трыццаць мне...", "Калі табе за сорак..." Біялогія (цела, плоць, пожад, боль), без якой няма чалавека, увесь час нагадвае аб сабе: "О, як душа ад болю часта ные: Сваё знайсці, сваім жыццём пражыць!.."

Аднак фізічны боль — нішто ў параўнанні з болем страт, якія множацца з кожным пражытым годам. Таму так шмат у паэта вершаў, прысвечаных людзям, якіх ужо няма: бацьку, маці, землякам, аднакласнікам (у вершы "Школа" названы прозвішчы амаль паўкласа), класнай настаўніцы, калегам па пяры. Ён нярэдка і пра жывых яшчэ піша так, бы іх ужо няма: на яго вачах дагарае жыццё маці, якой ён спяшае сказаць сваё апошняе "дзякуй" і "даруй", бо толькі ў вершах яму стае адвагі выявіць тое, што на душы. Ён і пра самога сябе ўсё часцей думае як пра адсутнага. Тут Л. Галубовіч салідарны з філосафам Валянцінам Акудовічам, нашым "Хайдэгерам", які ў эсэ "Мяне няма" аспрэчвае аптымістычнае евангельскае крэда: "Быў, ёсць, буду". Тым самым паэт, свядома ці не зусім, супрацьстаўляе сябе літаратурнай традыцыі, заснаванай менавіта на гэтай веры: ад купалаўскага — "Я буду жыць, бо я — мужык!" да караткевічаўскага — "Быў. Ёсць. Буду... Таму, што сэрца маё распята За ўсе мільярды двухногіх".

Нам невядомы Галубовіч — пачынаючы паэт. Яго першая кніга "Таемнасць агню" з'явілася, калі паэту было 34 гады, і адразу засведчыла яго творчую сталасць. Можна здагадвацца, мяркуючы па скупых радках біяграфіі ("працаваў электрыкам на прадпрыемствах Жабінкі, Слуцка і Клецка, а таксама — у родным калгасе Клецкага раёна"), што да гэтага ён жыў, як усе, у сістэме "хлуслівай свядомасці" (К. Маркс): "А многім так проста на свеце жывецца! Так лёгка ім многае лёсам даецца: І хлеб аржаны, і бяседнае слова... Жыццё ім — звычайна, і смерць ім — не нова..." След былога ілюзорнага існавання "без пытанняў" бачны ў вершы "За трыццаць мне..." — яго аптымізму пазайздросціў бы сам Пятрусь Броўка: "Я — чалавек. Я не ў гасцях. Я — дома. Пакуль жыву — не ведаю мяжы". У "Споведзі бяссоннай душы", другой кнізе Леаніда Галубовіча, пазначаны новы этап жыцця душы: "Я на зямлі таксама, значыць, — госць..." Сказана пакуль што няўпэўнена, але гэта ўжо адзнака змен: сацрэалістычная парадыгма саступае месца хрысціянскай сістэме маральных каштоўнасцей.



Паступова паэт пераасэнсоўвае "народніцкі" комплекс ідэй (дарэчы, ці не лепшае, што было ў савецкай літаратуры). Вера Палтаран, якая цёпла вітала прыход Галубовіча ў літаратуру, у прадмове да першай кнігі добра раскрыла яго сэнс: "пах свежай баразны, што паруе пад вясновым сонцам", "адчуванне глыбіні жыцця", "імкненне спасцігнуць тую меру жыццёвых каштоўнасцяў, якую падсвядома ведае народ". У прысвечаным яе памяці вершы паэт, бы запознена апраўдваючыся, дае ацэнку сабе тагачаснаму — амаль у духу Адама Міцкевіча, адно што цяжкаватым стылем: "Я думаў аб тым, калі Мы ўсе на зямлі адзінай Не будзем такімі рознымі, Не розна будзем, а разам Трымаць асновы зямлі". Развітанне з "народніцтвам" адбывалася цяжка. Зямля, Народ, Айчына — добра знаёмыя па творах "шасцідзесятнікаў" вобразы — яшчэ доўга будуць паэтызавацца і абагаўляцца ў вершах паэта. Што ж, так традыцыйна, пачынаючы з 30-х гадоў, калі свяціла "сталінскае сонца", разумелася задача паэзіі: "Каб святлела ў свеце, Калі светла ў хаце". Ну, а калі "светлае" не даецца, тады "Не муч душу ныццём, Няхай суцішыцца, Дыхне жыццём". "Сувязь з жыццём" — навукі, мастацтва, школы — лозунг той незабыўнай эпохі.

Народніцкая рыторыка, заснаваная на дыдактызме, павышанай пафаснасці, адназначнасці слова, спрошчанасці сінтаксісу, пакрысе выветрывалася з тэкстаў Л. Галубовіча. На звыклае пышнаслоўе ("Я пражыў бы жыццё нанова", "Склаў бы песню праўды людскай", "Стаў бліжэй бы я да народа") лірычны герой верша "Дыялог жыцця" атрымлівае скрушны адказ: "Ах, сынок, — мне гаворыць мама. — Я нанова б не пражыла. Сіл маіх засталося мала — Ўсё пражытаму аддала". Так, Народ (гэта слова паэт часта піша з вялікай літары: "Айчыну, Маці і Народ Не пракляну ні ў якай скрусе"), сапраўды, падсвядома ведае нешта такое, што варта яго "падслухаць" ("Свайго народа выслухаць душу" — аналаг купалаўскага: "Сэрца народа падслухаць біцця"), каб ужо сказаць новае слова ў літаратуры.

Лірычны герой, сумленны перад самім сабой, адчувае, што страціў права гаварыць ад імя "паэта з народа", бо жыве ў горадзе, мае справу пераважна з калегамі па цэху: "Адвык я ад сялянскай цяжкай долі. Пра родны кут амаль што не пішу..." У полі зроку з'яўляецца "юнак маёй вясковай долі", які, зарыентаваўшыся на славутага папярэдніка, у тым жа наваколлі адшукае "мовы песеннай сляды", бо без гэтага ён "аніякай іншай мовай Не зможа выказаць НАРОД". Самому ж паэту застаецца зноў і зноў успамінаць былое, зайздросціць уменню вяскоўцаў жыць "хлебам адзіным" ("А будзе хлеб — і будуць песні"). Ён можа адно папрасіць бацьку-нябожчыка закінуць слова перад Богам за ўсіх, хто яшчэ "адрабляе зямны аброк свой". Само сабой зразумела, "вясковай нашай мовай", бо ёсць надзея, што "і Там яна не ўмёрла, Бо столькі беларусаў узнялося На вуснах з крэўным словам

# З-пад паклоннага крыжа

Паэтычная натура... Гэта больш чым нават самы адораны аўтар вершаваных твораў, версіфікатар, які таксама называецца паэтам. Прыроджаны талент не адно і тое ж, што здольнасць да рыфмоўкі і апісальніцтва. Натура ў творчасці — гэта неўтаймоўны нерв духоўнага змагання, як некалі казаў Райнер Марыя Рыльке, "за ўсяленскую пяшчоту супраць сусветнага грубіянства". Гармоніі супраць вульгарнай пачварнасці.

Леанід Галубовіч — паэтычная натура. Лепшыя ягоныя вершы і сапраўды пазначаны нейкай трапяткой і няўлоўна спеўнай пяшчотай. Пяшчотай, якая імгненна абураецца і пакутуе, як толькі адчуе і сама малую абразу, крыўду, пагарду. Ярчэй за ўсё адчуваецца лірычная пяшчота паэта ў любоўных мадрыгалах ды споведзі. Невыпадкова ж першыя, хто звярнуў увагу на звабныя сляды якраз ад амурных стрэл у музыцы вершаў, дзе лірычны герой Галубовіча бывае агрэсіўна ўкленчаным перад капрызным харастворм жанчыны, — гэта нашы прадстаўніцы прыгожага полу Алена Васілевіч і Ала Сямёнава. Менавіта яны віталі сваёй аўтарытэтнай падтрымкай талент шчырага песняра кахання, якім Лёню Галубовіча можна лічыць зусім слушна.

Ды толькі вось паэтычная натура ніколі не ўмяшчаецца ў якой-небудзь хай сабе і надта каштоўнай крыштальнай вазе з канчатковым вызначэннем-ярлыкам, скажам, "лірыка кахання". Натура прагне творчай злучанасці-згоды з усім рознагалоссем і ўсёй рознакаляровасцю навакольнага вірлівага жыцця. Гэтая неадчэпная гатоўнасць адгукацца словам на палітычную сварку ў грамадстве і на слабадушнае адступніцтва блізкага сябра, на смерць аднавяскоўца ў родным Вароніне і на праявы нігілістычнага стаўлення да нацыянальнай культуры. "Паэт павінен быць празорцам. Іначай — што ён за паэт?! Паэт павінен без пазёрства Сваё сказаць пра белы свет..."

Затрымайцеся на гэтых словах — "без пазёрства" і "сказаць сваё". Ці лёгка гэта? І хіба кожнаму творцу ўдаецца? Толькі сапраўды паэтычная натура абыходзіць бокам, мінаючы спакусы мастацкага прытворства, такога роднаснага крыўлянню блазна, які выдыгае перад кім хочаш, абы ўбіцца ў ласку сённяшнім уладарным іерархам. Калі гаворка пра Леаніда Галубовіча, дык тут пра слугаванне паэтычнага пяра якойсьці пануючай сіле... таму, што звалася нядаўна "сацыяльным заказам"... кіраўнічаму ідэалагічнаму жрацу... О не, правaліцца мне на гэтым месцы, такой замашкі вы ў яго не сустрэнеце нават у намёку. Шчырасць — фірменны знак паэзіі Галубовіча.

Нехта з вялікіх называў чыстасардэчнасць увогуле шыльдай сумленнага творцы, і я ахвотна палічыў бы да месца такі камплімент у адрас Леаніда Міхайлавіча, калі б у ягонай лірыцы знайшлося б штось хоць бы на мезены палец паказное, прызначанае зрабіць эфект. Разгарніце старонку з яго вершам "Я — паэт. І гэтым нецікавы..." Як своеасабліва перададзена тут само гэтае жывое адчуванне сябе паэтам! Калі нам, тым, хто не прымаў паэтычнага пострыгу, слова неабходна як сродак сувязі і інфармацыі, паведамлення пра нашую патрэбу ў хлебе або віне, паэту яно, тое слова... "Для паэта ж слова ёсць раскоша, Страсць — паймаць на міг і падзівіцца. Плача хай пасля, пяе, шапоча, У фаліянтах класікаў пыліцца... Але — дай яго паймаць мне, Божа, І ўявіць у ім Тваё аблічча".

Пра такога паэта не скажаш, быццам ён надта даражыць крытычнай думкай ці чытацкімі ацэнкамі напісанага ім — выказанага с л о в а м. Але, дадзеным яму... падказаным... пасланым яму... падараваным адной з муз — Эўцерпай або Палігімніяй, якая паводле грэчаскай міфалогіі памагае "запамінаць улоўленае". Не прыдуманае, а — адчутае і ўспрынятае. Тое, што хутка знікае, праяўляецца імгненна, акрэслена хістка і няпэўна, — што можна адно толькі ўлавіць.

Таму я не чакаю і не шукаю ў лірыцы Л. Галубовіча і ў яго празаічна-запісных на паперы "Зацемках з левай кішэні" нечага праграмнага. Строга канцэптуальнага. Нейкіх канчатковых высноў. Настраёвы ён паэт. І занатоўвае свае "Зацемкі..." як эскізы да вершаў альбо лібрэта эсэ, як тэзісы ў спрэчцы з чарговай прамовай кіруючай асобы ці газетнай лухтой, таксама "пад настрой". Ягоныя вершы і лірычныя празаічныя мініяцюры нярэдка раздражняюць артадоксаў, прыхільнікаў ідэалагічнай паслядоўнасці і гарту.

Чаму?

Бо такое пісьмо, такі тэкст, такое вольнае выяўленне перажытага і вось зараз і тут абдуманага нейк насцярожвае тым, што цяпер называюць непрадказальнасцю. Педанты ў палітыцы і навуцы не згаджаюцца з тым, што ў паэтычнай мазаічнасці думкі тоіцца свой галоўны матыў. Хтось назваў гэты матыў — бурлацкім: цягні сваю лямку, мо і выцягнеш самае запаветнае ва ўсім бляску мастацкай дасканаласці.

Чытаю і перачытваю ягоныя вершы, пачынаючы з першага зборніка "Таемнасць агню". Разгортваю толькі што выдадзеную Таварыствам Вольных Літаратараў у Полацку кніжачку, названую крамольным найменнем "Апошнія вершы Леаніда Галубовіча". Асабіста знаёмы з гэтым надзіва сціплым і далікатным кніжнікам. Падзяляю ягоныя бібліяфільскія захапленні. Ды тое-сёе і з жыццёвых яго пуцявін для мяне не сакрэт: "Я быў падпаскам. Ганарова на золку вёску разбудзіць. Як першым промнем — "першым словам Пачатак дня апавясціць", — гэта выток біяграфіі паэта: "разбудзіць словам"! Вось згадваюцца яму сумна вядомыя нашыя Навінкі: "Ах, сам я за ценем ганяўся сваім. Нібыта маньяк за няўлоўнаю марай... Са звязкай ключоў санітар-канваір Стаяў нада мной навальнічнаю хмарай", — і ты можаш уявіць пакручастую біяграфію паэтавай душы — ад альфы да амегі. Міжволі прыгадваецца заўвага вялікага немца Томаса Мана аб тым, што паэтычны дар набліжае чалавека да братэрства з вар'ятам. А Шэкспір той наогул сцвярджаў, быццам "паэты, закаханыя ды вар'яты выпякаюцца з аднаго цеста, якое нячысцік паспявае замясіць на дражджах свавольнага ўяўлення і дужа асабістага відзежу" (так В. Ластоўскі падае расійскае "видение"). Вядома, людзі, што ўваходзяць у норму, прынятую ў аблюбаваным імі асяроддзі, жывуць дзеля жыцця; людзі хоць у нечым па-за нормай — дзеля мройна жаданага лёсу. І я хачу ўявіць сабе Лёню Галубовіча якраз у гэтай яго іпастасі — Паэта. Непрызнанага заканадаўцы ў галіне настраёвых меркаванняў. У яго жывой сутнасці.

*(Працяг на стар. 12)*

ад Мацея, Каторы празываўся Бурачком...” Сама мова ў паэта выступае як найвышэйшая мера маральнасці і праўдзівасці, бо адвеку супрацьстаіць скампраметаванай мове афіцыёзу, інакш — навамоўю.

Частае слова ў Л. Галубовіча “мяжа” — у вершы з такой назвай лірычны герой, бадай, упершыню не прымае “народную праўду”, выказаную вясковым дзедам, які гародзіць платы: “Усё павінна мець мяжу”. “А як жа, дзед, душа, скажы?” — пытае герой, бо сам ён як натура вольная, паэтычная тужыць “па бязмежнасці”. А гэта ўжо паняцце іншай эпохі: “як сіло, для нас сяло”. Нічога не застаецца паэту, як падацца ў горад, у асяродак творчага люду, аддацца паэзіі: “Я верыў, што буду з ёй мець высокую долю, І нават уласную смерць у слове спатолю”. Аднак жыццё і неўтаймаванага каня ўціхамірвае (верш пра гэта “Прычакаўшы глыбокага снегу...” на чачэнскую мову пераклаў З. Яндарбіеў, з якім паэт вучыўся ў Літінстытуце ў Маскве), і ўжо ад наіўнага маладога ўяўлення пра паэзію (“Ты — боль... Ты — боль... Ты — жаль... жар... сум... суд.... бой...”) застаецца адно: “Ты — боль, паэзія...” Была надзея, што, кажучы словамі Б. Пастарнака, “Там он жизни небывалой Невообразимый ход Языков провинциала В строй и ясность приведет”. Але ўсё стала на месца, бо творчасць — “рабская работа”: “І пішаш кожны верш, Бы стукаешся ў дзверы Сусвету усяго...” Дзіцячае пытанне: “Што такое паэзія?” — зноў і зноў даймае паэта. Ён то супакойвае сябе: “Маліся. Плач. Пішы. Суд над сабою вершамі вяршы”. То сам сябе пытае: “Што адбалела Ды ў другіх адзавецца, Можа, паэзіяй і назавецца?”

Мабыць, самае дакладнае азначэнне сутнасці паэзіі было адшукана ў маладосці: “Калі не будзе нас, Мой верш прыпомніць хтонебудзь тужлівы, Каб зверыць час...” На старонкі першай кнігі паэта яно трапіла ці не выпадкова як ранні ўзор будучых “зацемак”, дый нарадзілася, мусібыць, у хвіліну, калі паэт паверыў у праўду ірацыянальнага, падсвядомага. “Вершы выжываюць, — пісаў І. Бродскі, — дзякуючы прасодыі, дзякуючы таму, што яны насычаны часам. Яны выжывуць таму, што мова старэй за дзяржаву, і таму, што прасодыя заўсёды перажывае гісторыю”. Інтуітыўнае адчуванне сваёй адасобленасці мацнела паступова: “У вёсцы ні апошні я, ні першы. Адметны тым: пішу, бывае, вершы” і — “Я ў горадзе, гаротны, — як ізгой”. Адгукалася адвечнае — узрастае самаадчуванне: было — “Жыцця майго паром Ад берага далёка”, а стала — “І з кожным днём бліжэй Майго бяссілля прыстань”. Нешта падобнае сустракаецца ва У. Караткевіча: “Далёка ад мяне калыска і магіла”. Аднак узмоцнена гэта самаадчуванне нашай гісторыяй, якая так рэзка парвала з мінулым, што ўтварылася прорва, як адкрытая рана: “Як доўга цягнуўся наш век! І як ён мінаецца хутка. Задумна сядзіць чалавек На новага веку прыступках”.

У тэкстах Л. Галубовіча ўсё часцей мільгацяць словы “ноч”, “цемра”. Адсюль і — “зацемкі”. Тлумачэнне знаходзім у Л. Шастова: як толькі чалавек адкрывае, што свет хлусіць яму, “ён пачынае шукаць цемру, бо цемра дае яму свабоду, бо ў цемры пануе не логіка, якая вымагае высноў, а фантазія з яе адвольнасцю”. У кнізе вершаў “Заложнік цемры” Галубовіч паказвае, як бяссэнсіца, хаос, абсурд, энтрапія множацца, атакуючы чалавека з усіх бакоў, размываючы яго здольнасць да супраціўлення. Нешта незразумелае адбываецца з самім часам — у кнізе пад назвай “Апошнія вершы” ён “мёртвы”, “скрайні”, “растайны”. Паэт у роспачы — ад кволай надзеі “Калі абступае цемра, то бачыш сябе самога” да асуджанасці “Сябе не бачу на Зямлі”. “Хлуслівая свядомасць” саступіла месца “няшчаснай свядомасці” (Гегель). Адбываецца змена парадыгмы, калі ўжо і хрысціянскія ісціны здаюцца сумніўнымі перад тварам супярэчлівага быцця. У “Зацемках з левай кішэні” выразна абазначыўся паварот да Бога Старога Запавету, свавольнага, нечаканага, незразумелага, да ўсходніх вучэнняў і да пантэізму. Прыхільнік “малых форм”, Галубовіч ужо і “манументальнага” Якуба Коласа пачынае разумець, зайздросціць яго “эпічнай” эпосе. А сам ён шукае спосабу пісаць хутчэй, творыць новую літаратурную мадэль, каб зафіксаваць на паперы міг, бо хваля часу змывае літары, разабрацца ў бурапене пачуццяў, настрояў, думак. Словы, свабодныя ад анталагічных глыбіняў, яго ўжо не задавальняюць. Ахоплівае расчараванне ў сваіх творчых здольнасцях і неабходнасці самой паэзіі. Такое было ў Г. Гейнэ і М. Някрасава. Нешта падобнае бачым і ў В. Адамчыка (“Развітальная аповесць”).

“Я яшчэ адкідваю цень”, — у горкую хвіліну пісаў В. Мандэльштам. У Л. Галубовіча, “чалавека без ценю”, і гэтай уцехі няма. Можа, адказам на яго сумненні, расчараванні і адчайдушнасць будуць словы таго ж Мандэльштама: “Из тяжести недоброй И я когда-нибудь прекрасное создам”. І тады яго “Апошнія вершы” стануць прыступкай да “Новай кнігі”. Літаратура не толькі акт непрыняцця свету, дзе “пануе д’ябал”, а “Бога няма”, але і акт адмаўлення смерці. Іншымі словамі, няхай сабе і банальнымі, літаратура сцвярджае жыццё. Жыццядайнае ў тэкстах Л. Галубовіча выяўляе сябе на глыбінным моўным узроўні. Пакуль існуе Слова, датуль будзе нараджацца Літаратура. Усе адзначаныя Леанідам Галубовічам “хваробы духу” — знакі “пасляледніковага перыяду” савецкай гісторыі: “Задумна сядзіць Чалавек на Новага веку прыступках”.

**Міхась ТЫЧЫНА**



*З Янкам Брылём у рэдакцыі часопіса "Крыніца" (В. Акудовіч, Л. Галубовіч, Я. Брыль, А. Разанаў), снежань 1994 г.*

Леанід ГАЛУБОВІЧ

## Эпілог

*...да белых мухаў вярэдзіў дождж.*
*Сонца ўжо да вясны не будзе.*
*Пара вяскоўцу вычухваць вош*
*альбо за печчу ляжаць на пузе...*
*Я — сам з тутэйшых, аднак любіць*
*за што не ведаю гэта племя...*
*Трэба было ім мяне забіць*
*яшчэ тады, як пускалі семя...*
*З потных цыцак іх малако*
*я не высмоктваў, не еў іх сала...*
*Чым я жыў — не ведаў ніхто,*
*можа, толькі Янка Купала...*

*І ўсё ж наследаваў іхні дух —*
*цяжкі й абложны, нібы ў задуху...*
*Ды, пэўна, свечкай бы ўсё ж патух,*
*каб для душы не знайшоў прадуху...*
*Тут мёртвых больш, чым жывых людзей —*
*Харон на Прыпяці зладзіў мытню...*
*Не прыціскай мяне да грудзей*
*моцна, мама, — я тут не жыцьму...*
*Наш свет — замшэлы зямны камяк,*
*дзе ўжо дарэшты звячэла слова...*
*Вазьмі, як гліну, яго ў кулак,*
*Гасподзь, — і ўсё сатвары нанова...*
*Зважай Сябе за класічны ўзор,*
*трымайся вечных сваіх прапорцый.*
*Ствары хоць Ты дасканалы твор,*
*каб апраўдаць прызначэнне Творцы.*

*1998 г.*

УРАЖАННЕ

# І фактам, і смехам

На маім стале невялічкая кніга, выдадзеная Гродзенскім абласным аддзяленнем Беларускага фонду культуры: 88 старонак, ласкавая зялёная вокладка і кароткі назоў: “Дазнанні”. Пасярэдзіне яшчэ — вялікі пытальнік, а ўверсе прозвішча аўтара: **І. Я. Лепешаў**. Імя знаёмае, яго мы не раз сустракалі на грунтоўных кнігах пра беларускую фразеалогію.

Павярхоўнае знаёмства можа падказаць: маўляў, прафесар лінгвістыкі надумаў пашырыць абсягі сваіх заняткаў за кошт літаратуразнаўства. А нехта, хто ўчытаўся глыбей, скажа: “Дазнанні” — гэта эсэ цікаўнага чалавека, што старанна замалёўвае белыя плямы гісторыі. І абодва мецімуць рацыю. “Дазнанні” — кніга палемічная. У руках прафесара адна за адною мільгаюць газетныя выразкі. Аўтар “Дазнанняў” працуе кантрастам: **і фактам, і смехам**. Ролю фактаў адыгрываюць цытаты, часцей за ўсё з першакрыніцаў. Смех — вынікае з аўтарскага каментару. Часамі смех выкрасаецца з сутыкнення цытатаў або — з іх адмысловага выбару, з перамены кантэксту. Прафесійнае валоданне цытатным матэрыялам ідзе ад навыкаў лінгвіста, што напрактыкаваўся ў складанні слоўнікаў і робіць гэта з лёгкасцю. Смех — ад прыроднага таленту гумарыста. А ведама, што “смеху баіцца нават той, хто нічога не баіцца”.

Вось Пушкін. Яго імя ў расейскай культуры стала сінонімам геніяльнасці. Аўтар кнігі адводзіць яму раздзел “Пушкініяна”. Калі чытаць дзеля цікаўнасці, то мы даведваемся шмат новага з біяграфіі паэта. Новага нават у тым, што мы па сто разоў перачытвалі. Сапраўды, хіба ж не дзіка гучыць вось гэтае, дзеля чаго “русские чудо-богатыри” “выезжают погулять”, асабліва ў кантэксце сучаснай палітыкі:

***Сорочина в поле спешить,***
***Иль башку с широких плеч***
***У татарина отсечь,***
***Или вытравить из леса***
***Пятигорского черкеса.***

А радкі пра расейскую мову, што “как материал словесности, имеет неоспоримое превосходство перед всеми европейскими”, лінгвіст Лепешаў абрывае кароткім выслоўем: “Канешне, кожны цыган сваю кабылу хваліць”.

Мне здаецца, што Пушкін, і як жывая постаць, і як паэт, ад гэтых і іншых фактаў біяграфіі не прайграе. А калі-нікалі нават выйграе..

“Жалезны Фелікс”... Цень яго, у выглядзе каменнага барэльефа і надпісу, што скарочана можна перадаць “тут быў Фэлька”, не дае спакойна спаць гарадзенцам. І аўтар кнігі “Дазнанні” — дазнаецца, дзеля чаго ж “рыцар рэвалюцыі” наведаў наш горад. Факт наведвання становіцца падставаю для “экскурсу ў гісторыю”. Высвятляецца, што “ў абозе наступаўшага войска” на чале з Тухачэўскім ехаў “часовы орган рэвалюцыйнай улады Польшчы” ў асобе Ю. Мархлеўскага і Ф. Дзяржынскага. Дазнанне гэтага факта дазваляе нам спакойна заснуць, нібы пасля псіхааналітычнага сеанса. Заснуць не толькі таму, што “рыцар рэвалюцыі” ехаў не ў авангардзе, а ў абозе. Але і таму, што здарыўся “цуд над Віслай”: бальшавікі далі цягу аж да Мінска. Значыць, яны яшчэ не раз адступяць. І можа, нават усім нам пашчасціць убачыць “заплаканага бальшавіка”.

У іншым ракурсе падаюцца Купала ды Быкаў. Лепешаў усебакова і грунтоўна даводзіць практычна толькі адну (затое якую!) самаацэнку паэта, пераказаную Панамарэнкам: “Янка Купала гаворыць, што тое, што ён пісаў пры Савецкай уладзе, не творчасць, а дрындушкі”. У гэтым трагізм не толькі Купалы...

З літаратуры мы ведаем, што станоўчыя героі заўсёды выходзяць слабей, чым адмоўныя. Відаць, праз тое і эсэ пра Быкава менш уражвае. Здаецца ж, напісана яно, як і астатнія раздзелы кнігі, дапытліва, з досціпам, нават уедліва. Аднак чамусьці бракуе напружання, але ў агульнай кампазіцыі кнігі эсэ пра Быкава таксама на месцы.

Ледзь не палова кнігі аддаецца моўным пытанням. Публіцыстыка на гэтую тэматыку дазваляе вызначыць дзве галоўныя рысы мовазнаўцы Лепешава. Першае, мова для яго ні ў якім разе не зводзіцца да рамак акадэмічнай працы, ён увесь час думае пра яе сацыяльны статус, а другое: прафесар Лепешаў прыхільнік асцярожнай, кансерватыўнай моўнай палітыкі. Я думаю, нават тыя, хто катэгарычна не згодзен з гэткім непахісным кансерватызмам, павінны аддаць належнае шчырасці аўтара. Не так і шмат у нас актыўных, здаровых кансерватараў. Наш тутэйшы кансерватызм часцей за ўсё грунтуецца на звычайнай чалавечай ляноце. У Лепешава іншае, ён чынна і нястомна змагаецца за сваю пазіцыю, бо цвёрда перакананы, што менавіта яго кірунак паспрыяе захаванню беларускай мовы.

Сваіх апанентаў аўтар “Дазнанняў” таксама, як і ў іншых раздзелах кнігі, вельмі часта абвяргае іхнімі ж выказваннямі. Прыкладам, зводзіць у адно дзве цытаты з С. Балахонава: “Выкараненне з мовы рознага кшталту барбарызмаў ё дужа важнаю справаю”, “Секс жа ёсць неадоймнаю часткай чалавечага бытнавання”. І досыць. Як той казаў, разумнаму дастаткова. Дарэчы, гэты прыём нагадвае кінематаграфічную метафару, калі разнаякасныя кадры даюць новы, нечаканы эфект. Але гэта толькі адзін бок справы. Кожнаму, хто займаецца моўнымі пытаннямі, я раіў бы ўважліва прачытаць артыкул “Сем разоў адмерай”. Досвед прафесара Лепешава спатрэбіцца не толькі яго аднадумцам.

**Юры ПАЦЮПА**

# “Роднае слова”, N 6

Гэты нумар часопіса “Роднае слова” — 150-ы з часу яго выхаду, напачатку “Беларускай мовы і літаратуры ў школе”. “Нязмушаная споведзь з нагоды выхаду 150-га нумара часопіса “Роднае слова” — такі падзагаловак даў сваім развагам “Святло Крыжа” галоўны рэдактар “РС” М. Шавыркін. Змешчаны пачаткі артыкулаў І. Навуменкі “Ранні Кузьма Чорны” і З. Санюка “Эстэтычная функцыя ідэалагічнага ў творчасці Янкі Купалы”, заканчэнне артыкула А. Бельскага “Песні Коласа нас вучылі Радзіму любіць...” Прысвячэнні, напісаныя Я. Янішчыц, асэнсоўвае С. Панізнік (“Пры свячэнні”). Тут жа змешчаны вершы Я. Янішчыц і С. Панізніка. Друкуюцца артыкулы А. Бразгунова “Рыцарскі раман у перакладной беларускай літаратуры XVI ст.”, І. Шкрабы “Этымалагічны аспект інтэрпрэтацыі слова”, В. Галай “Назвы ўпрыгожанняў і аздобаў”, І. Германовіча “Антон Антановіч”, Л. Баршчэўскага “Росквіт еўрапейскай літаратуры ў эпоху Адраджэння”. Сярод іншых матэрыялаў — заканчэнне артыкулаў Р. Стаховіч-Ларчанкі “Буду сніць і днямі і начамі”, Т. Шамякінай “Станаўленне монатэістычных рэлігій”, М. Мушынскага “Паэма Якуба Коласа “Сымон-музыка”, артыкулы М. Кудрашовай “Хрэсьбіны, называнне дзіцяці ў культуры народаў свету”, Т. Кухаронак “У нашай Кацярынкі — штогод хрэсьбіны ды радзінкі”, Г. Запартыкі “Уся праўда пра жыццё” (да 40-годдзя Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва), Л. Макарэвіч “Пабачыць мілыя Цімкавічы” (пра мемарыяльны музей Кузьмы Чорнага), Ф. Ваданосавай “Ён быў як бы непрыкметны...” (пра скульптурны партрэт Кузьмы Чорнага), падборка вершаў П. Броўкі “О, каб я быў такі, як буда, цябе б абняў дзесяткам рук!”. Н. Бунцэвіч (“Імя, характар, творчасць”) прадстаўляе кампазітара У. Карызну-малодшага. К. Бандарэнка (“Творчасць Петруся Броўкі ў беларускай музыцы”) расказвае пра балет Г. Вагнера “Святло і цені”. Ю. Мішакова працягвае рубрыку “Дыялог з карцінай” (“Фердынанд Рушчыц. Ля касцёла”). Ул. Юрэвіч (“Займальнае і пазнавальнае чытво”) рэцэнзуе кнігу А. Бутэвіча “Прыгоды памаўзлівай Рыскі”.

Павел ГАСПАДЫНІЧ

# ІМПРЭСІІ



## ПАСЯРЭДЗІНЕ

**Ужо** красавік.. Дакладней — пакуль **яшчэ**. Хаця — не тое і не другое. Ужо нехта кагосьці кліча звонкім цёплым водарам начных вуліц, кліча бессаромна і нават нахабна... І тады пачынаецца боль. А за ім — асцюджаны сцюжай сум, потым налятаюць дванаццацібальным штормам пакутлівыя ўспаміны, потым ізноў прыходзіць потым...

Паміж **ужо** і **яшчэ** я лунаю, бадай, з пачатку веснавога адхлання. Ведаю, што ты ўжо сышла, але адчуваю, што ты **яшчэ** жывеш у маёй пажаўцелай памяці. На вуліцы таксама — гэтыя **ўжо** і **яшчэ**. Яны ўсюды...

Часам вулкан неастылых дарэшты, але **ўжо** і не палкіх пачуццяў выбухае ілюзорнай марнасцю майго самага першага шчасця. Часам іншая вясна іншага майго жыцця адклікаецца **яшчэ** адным вобразам цябе ў выглядзе спакусы іншай, зусім не падобнай на цябе...

А калі ўсё сціхае, пачварныя цені начных жыхароў ідуць піць кроў вясны. І хапаюць мяне — хто за руку, хто за вочы, хто за нагу, а хто і... Моўчкі. Я не супраціўляюся, згадваючы, што **ўжо** няма **яшчэ**, ці **яшчэ** не прыйшло **ўжо**. Толькі — сярэдзіна. Я заклікаю гэты натоўп галодных ценяў вызваліць з палону твайго няведання цябе, аддаць мне. Але яны не чуюць...

Іншым надвор'ем нябесных успамінаў надыходзіць хмара абыякавасці. Вось-вось, здаецца, бліскавіца гневу высмакча беззакаханае сэрца маёй памяці, а душу зліжа назаўсёды. Ды раптам з'яўляецца сонейка тваёй усмешкі, раптам далоні-праменьчыкі датыкаюцца маіх засмяглых вуснаў-надзей, і тады я веру ў **яшчэ**. Але змрок нагадвае пра ўжо надыходзячы фінал de la vida мрой.

А вось мы разам гуляем па дыване паэтычнага парку ўласнага горада, дзе, як ты кажаш, **яшчэ** не жывём, але **ўжо**... хутка туды заселімся. Тут усё гэтак чароўна і прыгожа! Быццам сапраўднае казачнае каралеўства прынцэс, фей і рыцараў. Тут аголеныя радкі засмучонай паэзіі двух з чалавецтва ствараюць новую Атлантыду кахання.

**Ужо** надыходзіць the end пакусаным сабакам рэальнасці ўспамінам. **Яшчэ** цалкам не знік рамантычны горад улюбёнцаў сенты... пост.., карацей, сюррэакахання. Але як жудасна нацягваць на сябе прасціну недапаленага сну свежавыпітым красавіцкім золкам! Мянавіта ў гэтыя часіны я адчуваю вельмі вострыя перабор у двух-трох сябрах і вельмі вострыя недахоп толькі ў адной табе...

**Ужо** красавік. Цябе няма паблізу. Жадаю толькі вечнасці забыцца, дзе ніколі не падумаю пра **ўжо і яшчэ**.

## ПРАДЧУВАННЕ НОЧЫ

— Хто нарадзіў гэту ноч, любы?
— Твая душа.
— ...?
— Яна шукае нашай згубы...
— Хто?
— Твая душа...
— ...?
— Калі самота навокал, ты клічаш...
— Я цябе кахаю!
— Не кажы. Бо хутка знічам разаб'ёмся.
— ...?
— Мы здзекуемся з ночы тутка...
— Але мы разам...

І раптам:

— Паліць ёсць? Ну дык атрымлівай!

Пасля некалькіх удараў яна зразумела, чаму гэта ноч шукала іхняй згубы. Апошні раз ён чуў ейны голас. Яна толькі сёння ўпершыню прапанавала выйсці прагуляцца ўноч. Ён яшчэ паспеў падумаць, што з ёй можа здарыцца далей, кім яна стане пасля гэтага, калі апошні раз да яго слыху данесліся словы:

— Перш я!
— Другі я!
— Ну, добра, я апошні.

І слабы, безнадзейны дзявочы галасок: "Не трэба..."

Слёзы, кроў і ноч. Ноч, кроў, слёзы. Праз гадзіну надыдзе світанак двухтысячнага года...

## РЫБАКІ ПАЭЗІІ

Усе яны стаялі моўчкі. І кожны з іх чакаў. Па вачах натоўпу таньчылі драбнюткія кроплі леташняга пракіслага дажджу. Ціш і спакой засцілалі іх крыламі шырокай ракі, якая мела назву Паэзія. А колькі з іх патанула ўжо ў ёй! А яны стаялі ў чарзе па такі патрэбны і бясплатны радок для верша; бралі вуды і кожны меў права толькі на адно закідванне; усё іхняе шчасце залежала ад гэтай ракі...

— Я спаймаў! — крычаў адзін, і з вар'яцкай усмешкай шкадлівага ката адразу кідаўся да вогнішча, на якім смажыў свой сыры й худы радок.

— Я зайздрошчу яму... — ціша шапталі вусны іншага, які ўжо колькі дзён не еў рыбін з ракі Паэзіі.

— А пайшло яно! — цяжка ўздыхаў трэці.

Кожны вечар яны збіраліся тут. І кожны меў вуду — падарунак свайго натхнення. Але рака выбірала самых безасабовых ці самых шчасных. Сярэдніх, з ружова-добразычлівымі тварамі, амаль ніколі не прыкмячала...

Пасля, з агульнадаступных СМІ, да некаторых далятала рэха паху іншых страў. Ці гэта газета, ці часопіс — няважна. Галоўнае — ужо прасмажанае, праглынутае і ператраўленае... Але ад гэтага спачатку сёй-той з рыбакоў Паэзіі, потым усё больш і больш падхоплівалі небяспечную хваробу. І тады на тварах з'яўляліся плямы разумення ракі. І яны ўжо казалі, што гэта — блуд і сорам; што хутка будуць вязнямі, а не пераможцамі ракі Паэзіі.

Аднойчы адзін з хворых заўважыў:

— Рака Паэзіі — чарговая сусветная зараза. Але яна прадугледжана звыш для нашага ацверазення ад растайнага паху ўласных цел, душ, думак... Адзіная зброя супраць яе — розум, але ён, бадай ва ўсіх выпадках, распранаецца перад натхненнем пачуццяў, а гэта значыць — ён моўчкі дае згоду на ашуканне свайго носьбіта. Між тым, формы гэтай хваробы робяцца менш адчувальнымі, але больш вар'яцка эгаістычнымі... Хворы ўжо скажа не "сонцападобная мая Афрадыта, пах вясновы, каханне маё...", але "я зараза сучасная стану, не кахай, адыдзі, уцячы..."

Усе яны стаялі моўчкі. І кожны ведаў уласную будучыню на бліжэйшы час. Але голад быў мацнейшы за розум — і яны працягвалі ўпарта чакаць сваёй чаргі.

## ТЫ

Ты — у гэтых дзвюх літарах. Т і Ы. Быццам пяшчотны звярок у клетцы. Ён, здаецца, вось-вось вырвецца з свайго зняволення, ды раптам нехта накідвае на клетку цёмную прасціну...Далей ніхто не ведае пра яго лёс...

Ты — дзве літары ў вялікай клетцы журбы. Цябе і няма, але ты і ёсць. Я ведаю, ведаю...

Аднойчы, калі гэтыя літары разгорнуцца парасонам сустрэчы, рэальнай сустрэчы, ты ўздымешся над сваёй няволяй. Будуць спяваць салоўкі, будуць паліцца веснавыя кастры, будзе пах асалоды...

Знянацку — тэлефонны званок. Ускіпае халодная кроў памяці, і я марудна й нясмела падыходжу да слухавіка-дэмана. А далей — ізноў ты. Толькі ўжо не пісьмова — вусна. Прыемны голас праз пасрэдніцтва тэлефона даруе сябе мне. Ужо іншая Ты, быццам бы й рэальная.

...Калі схэзнуць усе кветкі, усе фарбы, усё жывое — застанецца слова Ты. Новы пітэкантрап Адраджэння шмат тысячагоддзяў будзе біцца над таямнічымі сімваламі гэтых літар, але неўміручае ўладанне самой Зямлі добра схавае гэта для наступных мяне і цябе...

А зараз сплывае апошняя нотка, апошняе адценне жвава-вясёлага галаску далёкай паненкі. Канае нават пах дэмана-тэлефона, які праз нейкую хвіліну будзе катаваць мяне шматлікасцю зусім іншых галасоў, якія я беспаспяхова буду намагацца супаставіць з тваім...

Праз пасрэдніцу вясну ўліваецца ў нейраднамічнае ўзбуджэнне маёй памяці лета. Хочацца кагосьці абняць, але няма моцы... Далёкая Ты высмоктваеш разам з вясной маё перасоленае ўспамінамі сэрца.

Усё. Змоўклі ўсе. Паўсюль цемра. Няма голасу, дапальваюцца апошнія літары тваёй прысутнасці. Цягнецца блуд ночы. Кожнае вакенца-клетка ахінаецца цёмнай прасцінай ночы. Ніхто не ведае пра лёс зняволеных там звяркоў. Цікава, а тваю клетку яшчэ не ахінулі?

## НА ФОНЕ ЛЮДЗЕЙ З ПРОЗВІШЧАМІ

Прад вачыма плывуць лебедзі-аблокі, крыху ніжэй — будынкі-волаты, яшчэ ніжэй — мурашы-людзі, а ў самым нізе — вужака-асфальт. І ўсё гэта на фоне людзей з прозвішчамі Вялікі, Нахабнік, Дабрак, Злыдзень, Каханак, Крывадушнік, Боўдзіла, Жартаўнік, Шчыры, Чараўнік і шмат-шмат яшчэ якіх. Яны быццам афарбоўваюць сабой гэты свет. Але кожны з іх імкнецца замаляваць сваёю фарбаю фарбу іншага. Толькі часам бліскаюць маланкі, ідзе дождж або снег, толькі часам адчуваецца мароз ці спякота, а калі людзі й прырода стамляюцца, надыходзіць сусветная млосная пустэча, якая ахоплівае сабою ўсё паветра. Пачынаецца сум па дзеянні...

Так, у цябе няма прозвішча. Так, ты лепшая за іх. Так, ты пазасветная птушка мрой. Але твой вобраз паўсюль... А сама, спапяляючыся, апантана моліш аб ашчадным запаўненні тваімі фарбамі сусвету — дарэмна! Я гэта зрабіў за цябе. Увесь свет зараз — толькі ты...

Раптам ізноў Вялікія, Нахабнікі, Дабракі, Злыдні, Іншыя гвалтуюць тваё пахі фарбаў. Ты не змагаешся, нават усміхаешся... Толькі на гэты раз знікаеш. Растваряешся ў лебедзях-аблоках, будынках-волатах, мурашах-людзях, вужаках-асфальтах, па якіх бегаюць мае вочы і ногі. Застаюцца адны цені людзей з прозвішчамі...



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

## Нялёгкія жыцця скрыжалі

**Імя Хаіма Мальцінскага доўгі час замоўчвалася. Прычына таму — яго выезд у 1975 годзе ў Ізраіль, дзе, дарэчы, ён і памёр 8 лютага 1986 года. А нарадзіўся Хаім Ізраілевіч 7 жніўня 1910-га ў горадзе Панявежысе (Літва). Вучыўся ў Віцебскім яўрэйскім педагагічным тэхнікуме. У 1931 годзе скончыў Кіеўскі інстытут народнай адукацыі. Працаваў у рэдакцыях яўрэйскіх газет "Юны ленінец" і "Акцябэр", якія выходзілі ў Мінску. У 1939 годзе быў накіраваны ў Пінск, дзе працаваў у абласной газеце. Праз год вярнуўся ў Мінск, звязаў свой лёс з газетай "Чырвоная змена". У гады Вялікай Айчыннай вайны быў на фронце. Удзельнічаў у Сталінградскай бітве, у вызваленні Беларусі, Польшчы, пад Берлінам быў цяжка паранены. У 1946—1947 гадах — рэдактар Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, у 1947—1951-х — выдавецтва Яўрэйскай аўтаномнай вобласці (БіраБіджан). У 1951 годзе быў рэпрэсіраваны.**

**Рэабілітавалі ў 1956-м. Жыў ва Узбекістане. У 1960 годзе вярнуўся ў Мінск.**

**Пісаў Х. Мальцінскі на мове ідыш. З першымі творамі выступіў у 1929 годзе. Аўтар некалькіх кніг паэзіі, выдадзеных у арыгінале ў Кіеве і Мінску, а таксама зборнікаў драматургіі і для дзяцей. На беларускай мове выйшлі кнігі вершаў і паэм "Поплеч з сынам усталі" (1963), "Родны дом" (1965), вершаў "На сонечным баку" (1967), "Мой добры голуб" (1970) і іншых.**

## Параднёны з вёскай

**Якуб Ермаловіч (нарадзіўся 7 жніўня 1910 года, памёр 12 красавіка 1987-га) родам з вёскі Вяшэўка цяперашняга Бярэзінскага раёна. Пасля заканчэння двухгадовых педагагічных курсаў у Мсціславе, настаўнічаў, быў літсупрацоўнікам чэрвенскай раённай газеты "Калектывіст". Вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце, але ў 1936 годзе быў рэпрэсіраваны. Вызвалены ў 1941 годзе, вярнуўся на Бярэзіншчыну, дзе і жыў увесь час, з 1944-га па 1970 год працуючы выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы ў вёсцы Пагост.**

**Друкаваўся з 1929 года. Выйшлі кнігі прозы "Над Бярозай" (1960), "Душа чалавечая" (1962), "Родная зямля" (1967), "Твар у твар" (1970), "След на зямлі" (1977), "Сіняя птушка" (1980), "Акопы не пазарасталі" (1985). Шмат пісаў пра сучасную вёску, звяртаўся да падзей мінулай вайны. Выступаў у друку з творамі для дзяцей.**

## Загінуў пад Сталінградам

**"Крывёю сэрца" — так называецца зборнік выбраных твораў Алеся Жаўрука, што выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1987 годзе. У ім не толькі найбольш поўна прадстаўлена спадчына аўтара, а і змешчаны ўспаміны пра яго. Пражыў жа А. Жаўрук няшмат: калі загінуў пад Сталінградам, яму споўнілася трыццаць два гады. Нарадзіўся ў горадзе Сянно. Пасля заканчэння Рагачоўскага педагагічнага тэхнікума настаўнічаў на Любаншчыне, вучыўся ў Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага. У 1939-ым, праз год пасля атрымання вышэйшай адукацыі, быў прызваны ў армію. З'яўляўся ваенным карэспандэнтам армейскай газеты "В бой за Родину". А калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, трапіў на фронт.**

**Як паэт дэбютаваў у 1926 годзе: першыя вершы А. Жаўрука былі апублікаваны ў газетах "Магілёўскі селянін" і бабруйскім "Камунісце". Выйшлі кнігі "Ручаіны" (1936), "Дняпро выходзіць з берагоў" (1938). У сааўтарстве з Андрэем Ушаковым пабачылі свет паэмы для дзяцей "Пра майго таварыша" (1939), "Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада" (1939) і зборнік вершаў "Пра майго катка" (1950). З А. Ушаковым А. Жаўрук напісаў і лібрэта аперэты "Зарэчны барок", што была пастаўлена ў 1940 годзе.**

# Эстэтыка нашых вуліц

***Пытанне ўпрыгожання горада па сённяшнім стане гарадскіх і рэспубліканскіх бюджэтаў можна назваць невырашальным. Тым больш існуючая сёння ідэалогія дзяржавы не прапанавала нічога новага, вартага манументальных праектаў. Дый і мы самі змяніліся. Здаецца, пацягнула да ўтульнасці невялікіх закуточкаў, да фантанаў, ліхтароў, мосцікаў, невялікіх скульптурных груп, якія б разнасталі будзённасць шэрых вуліц і зрокава зменшылі прастору новых мікрараёнаў. Гаварыць пра скульптурны авангард на вуліцах, такі распаўсюджаны па свеце, пакуль, на жаль, не прыходзіцца. Да жалезабетонных (дарэчы вельмі танных) зварных канструкцый, абстрагаваных кубоў, квадратаў, кругоў.., якія маглі б стаць колеравай кропкай, на якой адпачывала б вока, нашы грамадзяне не звыклыя. Нехта сказаў бы — не той, маўляў, менталітэт. Здаецца ж мне, справа тут ў іншым, гэта ленасць думкі і нежаданне скранугца са звыклай тэматыкі і формы, дазволіць небяспечныя эксперыменты. Спакайней, мабыць, бачыць стомлены, абыякавы, шэры натоўп, які даўно прызвычаіўся да чэргаў, да перапоўненых аўтобусаў, да выбоін на асфальце і залачоныя вывескі буцікаў успрымае як адзнаку цывілізацыі. І многія маладыя скульптары, стаміўшыся прапаноўваць новыя ідэі, проста вымушаны прымаць правілы існуючага мастацкага асяродка.***

***І сёння пра найбольш актуальныя праблемы гарадскога асяроддзя мы прапанавалі паразважаць людзям, якія адказныя ў вырашэнні многіх праблем аздаблення Мінска і ад меркаванняў якіх залежыць эстэтычная сітуацыя ў горадзе.***

**Аляксей МАРТЫНАЎ, галоўны мастак г. Мінска:**

— Мінск у нашай рэспубліцы, напэўна, найбольш чысты, эстэтычны і прыстасаваны для жыцця горад. Мы не можам, на жаль, дазволіць сабе з-за абмежаванасці фінансавых сродкаў павысіць якасць гарадской забудовы. Па-другое, мы самі з лёгкасцю знішчаем зробленае, у нас квітнее сапраўдны вандалізм і гэта заўважна не толькі ў новых раёнах горада. Так, напрыклад, Пушкіну на помніку ля гатэля "Беларусь" адламалі пяро і мы мусілі зрабіць некалькі запасных, ведаючы наперад, што гэта — не апошні раз. А ў мемарыяле на Нямізе (здаецца, святое месца) мусілі аднаўляць некалькі зламаных руж. Такіх прыкладаў шмат. А што гаварыць пра элементы гарадскога, тэхнічнага абсталявання, гарадскую мэблю...

Мінск не перанасычаны і скульптурнай пластыкай. Больш таго, побач з манументальнымі помнікамі розным дзеячам адсутнічае прыгожая і арыгінальная паркавая скульптура, якая б звярталася да кожнага з нас індывідуальна і выклікала чалавечыя пачуцці. Звычайна пытаюцца, у чым праблема — у адсутнасці аўтараў і праектаў альбо ў скіраванасці дзяржавы да манументалізацыі горада? На жаль, скульптурным упрыгожаннем дасюль займаецца дзяржава, прыватнай ініцыятывы практычна не існуе, а менавіта яна магла б пераламіць сітуацыю. У бюджэта няма сродкаў на аб'екты мастацкай творчасці, калі першачаргова насельніцтва трэба пракарміць і прадаставіць яму грамадскі транспарт, каб яно хоць са скрыпам даехала да месца працы.

Абсалютна некранутая галіна ў афармленні горада — гарадскі дэкаратыўны дызайн. Гэта не скульптура, а розныя пластычныя формы, абстрактныя, іграавыя дызайнерскія распрацоўкі. Мне здаецца, што ў галіне дызайна асяроддзя ў нас адчуваецца зараз моцны прабел. У нас ёсць праектныя інстытуты, скульптурны і мастацкі камбінаты, а агульнай гарадской арганізацыі, якая б займалася ўласна гарадскім дызайнам, няма. А дызайн пранізвае ўсю гарадскую прастору ад лавак у парку, рэкламы і афармлення вітрын. Займаецца гэтым хто заўгодна, існуе мноства фірм, дзе працуюць людзі выпадковыя, якім няма справы да высокага мастацтва. А сапраўдныя спецыялісты, якія ў рэспубліцы ёсць, не маюць магчымасці прабіцца на рынак гарадскога афармлення.

Ёсць у горадзе пэўная колькасць скульптур, якія з'явіліся нібы самі па сабе, мінуючы ўзгадненне з манументальным саветам. Іх мастацкі ўзровень не заўжды высокі, хутчэй іх можна аднесці да ўжытковага мастацтва, да стылістыкі кіча. Наш народ небагаты густам і ён магчыма прыхільней успрымае кіч, чым твор высокага мастацтва. Але лубок, натуральна, не прыцягнеш у цэнтр горада. І стаўлюся я да гэтага, як не дзіўна, нармальна. Вялікай бяды мы не нарабілі. Іншая справа, што любая прыватная ініцыятыва пры ўсталяванні любога помніка павінна мець нейкае ўзгадненне, і неабавязкова на ўзроўні рэспубліканскага савета. Ды і сам мастацкі савет, я лічу, павінен пэўным чынам развівацца, уводзіць у сваю структуру новых маладых творцаў. Гэта дазволіць больш разнабакова праводзіць абмеркаванні, бо любое аднадушша згубнае. Колькі я працую ў гэтым савеце, мы ў асноўным разглядаем традыцыйныя рэчы, якія ўсім нам добра знаёмы ўздоўж і папярак, а вось на новы, авангардны накірунак скульптуры заказа пакуль не было.

На сённяшні дзень існуе такая ідэя — арганізаваць адкрыты конкурс на ўпрыгожанне Кастрычніцкай плошчы і інтэр'ераў Палаца Рэспублікі. Мы будзем разглядаць любыя, самыя нечаканыя мастацкія праекты.

Уводзіць нейкія сучасныя формы на стыку дызайна і скульптуры можна было б у "спальных" раёнах. Але тут ёсць і вялікая перасцярога. Нашы жыхары не ствараюць нават элементарную эстэтыку свайго двара, на жаль, масавая псіхалогія не падрыхтавана да высокіх мастацкіх элементаў. І любыя фантаны, скульптуры могуць быць знішчаны, асабліва, калі яны будуць з традыцыйных матэрыялаў. Загадзя варта разлічваць на вандалізм і прыстасоўваць яшчэ не засвоеныя ў нашым горадзе матэрыялы — напрыклад, зварныя канструкцыі жалеза і г.д.

Канешне, адным жаданнем тут не абысціся, патрэбны вялікія матэрыяльныя затраты. А праблемаў заўжды будзе досыць. Напрыклад, былі неспадзяваныя складанасці з помнікам Пушкіну. Гэта падарунак Масквы, аўтар — досыць вядомы аўтар. У мяне асабіста нармальныя адносіны да помніка, а ў многіх вядомых дзеячаў культуры ўзнікла пэўнае непрыняцце яго, бо почырк майстра нехарактэрны для Беларусі. Але яго ўстаноўка выклікала прэцэдэнт ўпарадкавання тэрыторыі вакол месца яго ўстанаўлення, што ў такіх маштабах у Мінску даўно ўжо не рабілася.

Што датычыць помніка Скарыне, горад будзе яго захоўваць. Мы прыклалі ўсе намаганні, каб адліць яго ў цвёрдым матэрыяле. На жаль, на сённяшні дзень канчаткова не вырашана пытанне месца ўстаноўкі помніка. Але мая асабістая думка, што былое месца каля Акадэміі навук больш падыходзіла для помніка. Рашаецца і сітуацыя з Лошыцкім паркам. З-за хранічнай адсутнасці грошай у Міністэрстве культуры, цяпер функцыя заказчыка ўскладзена на Мінскзеленбуд, ствараецца паркавы комплекс. Вырашаецца і пытанне самой сядзібы, якую не "пацягнуць" зараз дырэкцыі Нацыянальнага мастацкага музея. Праектуецца помнік Адаму Міцкевічу ў скверы па вуліцы Валадарскага, рашаецца пытанне аб выдзяленні з бюджэту сродкаў на яго размяшчэнне. Пачалося ўсё з ініцыятывы мясцовай польскай дыяспары ўсталяваць помнік менавіта ў гэтым скверы. Але Міністэрства ўнутраных спраў меркавала размясціць на гэтым жа месцы свой помнік загінуўшым міліцыянерам.

Зараз актыўна абмяркоўваецца тэма мемарыялізацыі на станцыі "Няміга". Некаторых бацькоў загінуўшых дзяцей не задавальняе існуючы мемарыяльны знак, яны імкнуцца дабіцца стварэння тут капліцы, цэркаўкі з пералічэннем імёнаў загінуўшых. Але ж тут знаходзіцца ахоўная зона мінскага замчышча і яна не падлягае аніякай забудове, акрамя навукова абгрунтаванай. Тут павінны праводзіцца раскопкі, даследаванні, а толькі пасля можа ісці гаворка пра збудаванні. Прапаноўвалася зрабіць непасрэдна над метроўскім пераходам культавы элемент. Але, думаецца, нельга па гарачых слядах ствараць мемарыялы. Магчыма, для кагосьці гэта здасца цынічным, але калі мы будзем на кожным месцы трагедыі ствараць мемарыялы, то наш горад ператворыцца, выбачайце, у суцэльныя магілкі. Гэта датычыць і размяшчэння мемарыяльных дошак. Таму пытанне помніка на Нямізе неадназначнае, і не трэба спяшацца з рашэннем, час расставіць усё па сваіх месцах.

**Іван МІСЬКО, скульптар, старшыня Экспертна-манументальнага савета.**

— Усе помнікі, якія ўстанаўліваюцца ў Мінску, павінны былі б ісці праз дазвол нашага савета, але бывае, "праскокваюць" і міма. Ёсць камерцыйныя структуры, якія не зацікаўлены ў савеце, і аўтары іх праектаў часцей за ўсё не пакідаюць свайго подпісу, бо ўзровень іх "тварэнняў" не адпавядае якасці і заплачаным грошам. Адкуль узялася ў скверы каля вакзала "бабуля", а побач ля прыпынку — хлопец у кепачцы і з папяроскай? Гэта ж відавочны кіч. А Георгій, які забівае змея каля фасада Чырвонага касцёла, ці варта гэта скульптурная група высокай мастацкай адзнакі?.. Канешне, тут не пыталіся думкі савета, падладзіліся пад густ заказчыка, недзе дамовіліся з мэрам.

Сколькі можна налічыць у Мінску фантанаў? Чамусьці іх зусім няма ў нашых мікрараёнах. Няма і дэкаратыўна-манументальнай пластыкі. У скверы Я.Купалы скульптуры з пленэру пастаўлены выпадкова, яны не прызначаліся для гэтага месца. А ў ідэале правядзенне пленэраў павінна быць узгоднена з горадам, каб "высякаць" для канкрэтнага месца.

Штогод Беларуская акадэмія мастацтваў выпускае скульптараў і прапануе вельмі цікавыя дыпломныя работы. А які іх лёс? Большасць знікае ў запасніках акадэміі. А чаму б Міністэрству культуры і асабліва гораду не вырашыць пытанне, каб эскізны праект будучай дыпломнай работы разглядаўся кіраўніцтвам сталіцы, а работы адліваліся і знаходзілі месца ў гарадскім асяроддзі. Бываюць выпадкі, калі студэнт стварыць выдатнейшую дыпломную работу, а пасля за ўсё сваё жыццё нічога больш вартага не адолее. Напрыклад, маскоўскі скульптар Февейскі. У 1957 г. падчас фестывалю моладзі ён стаў вядомы дыпломнай работай "Мацнейшы за смерць" і пасля цалкам знік з мастакоўскага асяроддзя.

Пластыка малых форм магла б знайсці сваё месца ў інтэр'ерах офісаў, але яе таксама ніхто не заказвае. Зайдзіце ў наш мастацкі салон, вы там знойдзеце многа высокапрафесійных твораў? Вазьміце наш "скверык" на пляцы Волі — там прафесійнага амаль што няма. Узнікае пытанне, што мы прапануем сучаснай кватэры, офісу з прыгожага аздаблення — мастацтва, якое не мае крытэрыяў, але таннае. І сапраўднаму густу развіцца проста няма на чым. Эстэтыка нашага асяроддзя не выхоўвае, а наадварот прапаноўвае людзям кіч.

Задача сёння і Міністэрства культуры, і Саюза мастакоў, і мастацка-экспертнага савета кантраляваць, хто і якім чынам па рэспубліцы ставіць помнікі, каб не выпускаць на гарадскія вуліцы непрыкрытую халтуру.

У 1997 годзе я быў у Японіі, мне паказалі там тры велічэзныя паркі, якія ўпрыгожваюцца прывазнымі скульптурамі з розных краін свету. Праз дзесяць-пятнаццаць год работы вяртаюцца і прывозяцца іншыя. Але заўжды дакладна вызначана спецыяльным саветам колькасць скульптур, размяшчэнне па вертыкалі і гарызанталі, спланаваны дарожкі для разгляду твораў здалёк, ёсць праект, які ўпісвае іх у рэльеф, прыроду, каб дапаўняць асяроддзе, а не разбураць яго. Нават зімою даюць наведвальнікам тапкі, каб не моцна тапталі снег...

І мы гатовы да падобнага парка скульптуры. Вазьміце раён Опернага тэатра, Траецкага прадмесця. Рэспубліка не можа пажаліцца на адсутнасць майстроў, але большасць ствараемых скульптур застаецца ў сховішчах і не адліта ў матэрыяле. Думаю, стварэнне парка скульптуры, як летапіса беларускай культуры, неабходна, і яно павінна расцягнуцца па часе гадоў так на дваццаць. Штогод заключаліся б дамовы на манументальную скульптуру. Частку працы аплачваў бы горад, частку, — Міністэрства культуры.

Што датычыць дробнай пластыкі, узнікла ідэя правесці выставу праектаў, якія заляжаліся ў майстэрнях і якія можна рэальна разгледзець. Запрасіць туды мэраў усіх гарадоў рэспублікі, дырэктараў банкаў, заводаў, людзей з грашыма, а раптам камусьці з мастакоў пашчасціць? Інакш мы можам і не дачакацца ўвагі дзяржавы да скульптараў і іх творчасці. Ёсць яшчэ канчаткова не зацверджаны рэспубліканскі план манументальнай прапаганды. Але там напісана — помнікі ствараюцца за кошт мясцовага бюджэту. А мы настолькі сёння бедныя і галотныя, што ў тым бюджэце грашам і ўзяцца няма з чаго. І калі мы на савеце прымаем работу, Міністэрства культуры не мае магчымасці выплаціць своечасова замоўленую суму і з улікам інфляцыі скульптар урэшце атрымае капейкі.

Напрыклад, скульптар Леў Гумілеўскі з сынам зрабілі праект надмагілля Багдановічу ў Ялце. Так здарылася, што наша дзяржава пабудавала выдатныя санаторыі ў Сочы і ў Місхоры пад Ялтай, а за столькі дзесяцігоддзяў ніхто не паруніўся прывезці дзве гранітныя пліты, каб пакласці на магілку паэта. Па сённяшні дзень стаіць там пафарбаваная бетонная стэлка з зорачкай наверсе. Перавезці саму магілу ў Беларусь праблематычна. Пра тое, каб яна засталася ў Ялце, змагаецца беларуская дыяспара, досыць вялікая ў Крыме. А пасля землятрусу,

магчыма, увогуле змясціліся земляныя пласты на могільніку. Дзякуй Богу, нарэшце Міністэрства культуры і Савет Міністраў згадзіліся аплаціць установку Беларуссю надмагільнага помніка, вартага памяці Багдановіча. Скульптура ўжо пераводзіцца ў матэрыял і не пазней пачатка будучага года будзе ўстаноўлена ў Ялце.

Што датычыць помніка Адаму Міцкевічу, то яго хацела падараваць Беларусі мясцовая польская дыяспара. Мы запрасілі матэрыялы, здымкі, дакументы, разгледзелі іх на экспертным савеце і..."зарубілі". Нам прапаноўвалі работу старога польскага майстра, невялікі бюсцік пяцьдзесят на семдзесят сантыметраў. Калі Масква дарыў для Мінска сідзячую фігуру Пушкіна на сапраўдны рост, калі нам прапаноўвае ўкраінскае пасольства помнік Шаўчэнку вышынёю больш за чатыры метры, дык чаму Адаму Міцкевічу, які нарадзіўся, жыў на нашай зямлі і мае правы на сапраўды варты помнік, будзе стаяць непрыкметны і невыразны бюсцік? Канешне, былі вялікія праблемы з польскай дэлегацыяй, але тым не менш мы настоялі на сваёй думцы і абвясцілі конкурс у Беларусі без удзела польскіх мастакоў. На другім туры перамог аб'яднаны праект Фінскага і Засціцкага. На сённяшні дзень зацверджана рашэнне помніка ў ГалоўАПУ, вядзецца праца ў памеры, выдзелены прэзідэнцкі гранд.

Скандальная сітуацыя адбылася і на сумесным пасяджэнні ГалоўУПУ і экспертнага савета, прысвечанага ўсталяванню падоранага Масквою помніка Пушкіну. На якой падставе гэты помнік прывязваецца да гатэля "Беларусь", да гістарычнага месца? Ёсць у Мінску праспект Пушкіна, бібліятэка Пушкіна, метро "Пушкінская". А тое, што гэтыя месцы непрыгожыя, дык хто планаваў іх такімі, як не ГалоўАПУ? На жаль, гэта пытанне было адразу вырашана на высокім узроўні. Па-другое, ці не варта было б заранёй даслаць трох-чатырох скульптараў, членаў экспертнага савета, каб пагледзець на будучы падарунак. Ён жа мусіў быць пастаўлены ў прыгожым месцы. Але ўсё было зроблена так, каб мы яго не пабачылі ў праекце. І вось тут узнікае пытанне, чаму б Беларусі не адказаць на падарунак Масквы і аддзячыць расійскай сталіцы помнікам Янку Купалу, тым больш ён там загінуў.

Падобныя праблемы ўзніклі і з помнікам Т. Шаўчэнку. Задайцеся лагічным пытаннем, чаго варты гэты помнік і чаму яго так хочуць аддаць нам суседзі? Ніякая дзяржава не будзе так проста фінансаваць чатырохметровую бронзавую фігуру... Хацелася б на яе паглядзець заранёй. А пасля і мы хацелі б пабачыць на Украіне помнік Каратквічу, які там вучыўся, работы беларускага скульптара.

І яшчэ. На Беларусі праводзіцца нямала конкурсаў на помнікі вядомым дзеячам культуры. Так, напрыклад, вызначаны пераможцы конкурсаў на помнікі Багдановічу, Каліноўскаму, Багушэвічу для Гродзенскай вобласці. Распрацаваны праекты, але няма фінансавай падтрымкі мясцовага бюджэту.

Сітуацыя з помнікам Скарыне ўвогуле вартая "чорнага" гумару. Помнік нарэшце адліты пасля дзевяці год працы скульптара Дранца. Удумайцеся ў гэту лічбу. Экспертны савет будзе яго прымаць, але застаецца пытанне, калі і дзе яго ўсталююць? Ад яго адмовіўся прэзідэнт Акадэміі навук, бібліятэка імя Ф. Скарыны плануецца на выездзе з горада. Але ж па сённяшні дзень няма праекта самой бібліятэкі. Пройдзе яшчэ гадоў так з дзесятак, выпестуецца новае пакаленне мастакоў і раптам акажацца, што трактоўка састарэла і варта рабіць новы праект. Бо на сённяшні дзень атрымліваецца дзіўная сітуацыя, калі пад існуючы ўжо помнік трэба збудаваць новую бібліятэку. У бліжэйшы час наш савет маркуе правесці сумеснае паседжанне з ГалоўАПУ, каб зноў падняць пытанне ўстаноўкі помніка каля Акадэміі навук.

Аніякай пластыкі няма і ў новых мікраёнах. І мяне здзіўляе, чаму не плануецца пры праектаванні новага мікраёна нейкая прывязка да культуры. Пасюль квітнее вандалізм і крадзеж. Асабліва мяне здзіўляе найбольш, што крадуць мемарыяльныя дошкі і знікаюць яны бясследна. А важаць па 100—200 кілаграмаў, рукамі не пацягнеш. І сёння ідзе гаворка пра тое, каб дошкі рабілі з алюмінію. Але я лічу гэта знявагаю да мануметальнай пластыкі, бо алюміній нагадвае мне бетон. А з бетону ў нас ставілася большасць помнікаў Леніну. І цяпер на іх страшна глядзець, калі бетон павыветрываўся, парэпаўся, і правадыры засталіся без вачэй і насоў...

Мы збіраемся паставіць пытанне аб стварэнні адпаведнай камісіі, якая б праехалася па ўсёй Беларусі, пакінула з іх лепшыя, каштоўныя як помнікі мастацтва. Дарэчы, у новым плане мануметальнай прапаганды для Беларусі пераважная большасць будзе ўсталёўвацца менавіта дошак, бо на вялікія манументы ў дзяржаве няма грошай.

Сёння ў рэспубліцы многа будуецца спартыўных пляцовак, і гэта выдатна, што нацыя будзе расці здаровай. Але хацелася б, каб мы задумаліся і пра духоўную культуру.

**Падрыхтавала Наталля ШАРАНГОВІЧ**

МУЗЫКА

# Усё стракатае сямейства

***Пра свае дваццаць пяць Беларускі універсітэт культуры нагадваў на працягу навучальнага года неаднойчы. Урачысты акцэнт мела паведамленне пра вялікі справаздачны канцэрт мастацкіх калектываў ВНУ-юбіляркі. Але чамусьці без належнай увагі засталася праведзеная раней і не менш адметная імпрэза, у якой традыцыі добрасумленнай юбілейнай справаздачы спалучыліся з паказам перспектыўных творчых навацый.***



Памятаеце? Было ў адным з колішніх нумароў "ЛіМа" невялічкае паведамленне пра падрыхтоўку святочнай канцэртнай праграмы, прысвечанай 25-годдзю БУКа і 55-й гадавіне перамогі над фашысцкай Германіяй, — з удзелам творчых калектываў кафедры духавой музыкі універсітэта. Скажаце: ну, было й было, колькі можна "юбілеіць"?

Яно і праўда. Час мінуў, святочны гуд аціх. Дык жа ўражанні аказаліся незабыўныя!

Кафедра духавой музыкі за 20 гадоў працы дадала нямала змястоўных радкоў да гісторыі айчыннай культуры. Накіроўваючы сваю дзейнасць на папулярызацыю і павышэнне прэстыжу духавога мастацтва, ініцыятыўны педагагічны калектыў імкнецца спалучаць арганізацыйную, вучэбна-метадычную працу з навукова-даследчыцкай, творчай, выканальніцкай.

Распрацоўваюцца перспектыўныя напрамкі развіцця навучальнага працэсу і спецыялізацыі студэнтаў, створаны арыгінальныя вучэбныя праграмы, асобныя з якіх укараніліся ў роднасных установах краін СНД. Комплексна разгледжаны сучасныя праблемы развіцця аматарскіх духавых і эстрадных аркестраў ды ансамбляў, стану падрыхтоўкі спецыялістаў для духавога мастацтва на Беларусі (навуковае кіраўніцтва — В. Новікаў, А. Карацееў). Пры кафедры існуе навукова-творчая лабараторыя пад кіраўніцтвам В. Кульпіна, дзе даследуюцца гісторыя старажытных беларускіх народных духавых інструментаў, праблемы іх захавання і рэканструкцыі. Супрацоўнікі лабараторыі, сярод якіх і выдатныя майстры-музыканты У. Гром, У. Пузыня, ажыццяўляюць канцэпцыю адначлення гэтых інструментаў, іх актыўнага выкарыстання і ў прафесійнай канцэртнай дзейнасці.

А колькі можна распавесці пра вучэбна-выканальніцкія суполкі. Дзякуючы ім студэнты маюць магчымасць раскрыць і развіваць свае здольнасці ў розных відах і жанрах духавога мастацтва. Да ўсяго, ёсць стымул: лепшыя калектывы ўдзельнічаюць у рэспубліканскіх і міжнародных фестывалях, конкурсах, заваёўваюць высокія лаўрэацкія званні, прэміі.

Кафедра, станаўленнем якой апекаваліся знаныя прафесійнікі — Ю. Новікаў, В. Волкаў, Ф. Юрцэвіч, А. Перапялюк, М. Салдатаў, В. Новікаў (яе цяперашні загадчык) ды інш., — выхавала нямала таленавітых выпускнікоў. Яны ўзначальваюць мастацкія калектывы краіны, працуюць у лепшых аркестрах Беларусі і за яе межамі, займаюцца выкладчыцкай і навуковай дзейнасцю, у тым ліку ў сценах роднага універсітэта.

І ў тым, што на кафедры віруе насамрэч творчае і разнастайнае жыццё, пераканаў ужо згаданы святочны канцэрт з удзелам яе калектываў і запрошаных салістаў.

●

Усё стракатае сямейства духавых інструментаў, у розных жанравых варунках і тэмбравых спалучэннях, было прадстаўлена ў праграме.

Канцэртны аркестр духавых і ўдарных інструментаў БУКа "Светач" іграў у той вечар пад кіраўніцтвам трох маэстра: лаўрэатаў міжнароднага конкурсу В. Парамонава, А. Кудзіна і выпускніка універсітэта, намесніка начальніка ўзорна-паказальнага аркестра войскаў МУС Беларусі І. Нагавіцына. Чым не парад дырыжораў!

Акадэмічнае мастацтва годна прадстаўлялі дзяўчаты-флейтысткі (ансамбль "Мроя" пад кіраўніцтвам Ф. Юрцэвіч), квінтэт пад кіраўніцтвам Л. Акапджаняна (флейта, кларнет, габой, фагот, валторна). Крыху няроўна, але старанна і месцамі проста прыгожа граў квартэт медных духавых, якім кіруе А. Перапялюк (тры трамбоны, туба), — граў тэму знакамітага хору з вагнераўскага "Тангейзера".

А не менш знакаміты хор "O,Fortuna" са сцэнічнай кантаты К. Орфа "Карміна Бурана" ўражліва прагучаў у выкананні зводнага калектыву — маладзёжнага эстрадна-сімфанічнага аркестра, аб'яднанага хору кафедры харавога мастацтва БУКа (кіраўнікі А. Пякуцька, Я. Рэутовіч) з дырыжорам В. Бартноўскім.

Апроч таго, былі па-сапраўднаму святочныя нумары ў выкананні квартэта саксафаністаў "Крышталь" (кіраўнік Л. Акапджанян), брас-квінтэта (кіраўнік І. Мангушаў), біг-бэнда "Акцэнт" (кіраўнік М. Федарэнкі), ансамбля ўдарных (кіраўнік Д. Ваза). І яскравыя джазавыя сола трубача М. Федарэнкі, саксафаніста А. Яйчука, выкананцы на дудках К. Трамбіцкага. І кранальны даверлівы спеў артыста, рэжысёра В. Анісенкі...

●

Эмацыйны феерверк, "гром і маланку" прынесла ў залу выступленне народна-інструментальных ансамбляў пад кіраўніцтвам няўрымслівага У. Грома. Гэты каларытны канцэрт у канцэрце прадставіў нізку вынаходлівых апрацовак беларускіх песень, найгрышаў, перастрораных у дзівосна свежых для слыху тэмбрах старадаўніх драўляных труб (уявіце: разам — пяць вялізных магутных інструментаў з нейкімі рытуальна-сакральнымі галасамі!); жалеек з барабанчыкам; дудаў з жаночымі спевамі ды барабанчыкам; акарынаў (ні з чым не параўнальнае гучанне чыстага строю ажно шасці адмысловых гліняных "свісцёлак" — нібы нейкі шкляны губны гармонік зайграў глыбока пад вадой!).

Выступленне ансамбляў старадаўніх беларускіх народных духавых інструментаў адлюстравала тое новае і перспектыўнае, што ўкараняецца ў навучальны працэс.

Праблема ў тым, што Беларусь значна адстала ад іншых, прынамсі, ад Украіны, рыхтуючы музыкантаў гэтага жанру. Дудары, жалейшчыкі ды іхнія "браты па цэху" авалодваюць сваім штукарствам на ўзроўні этнаграфічным, прафесійную, нават акадэмічную адукацыю сярод беларускіх "народнікаў" атрымліваюць пакуль хіба толькі цымбалісты. Не першы год У. Гром і яго аднадумцы імкнуліся давесці неабходнасць**прафесійнага,** спецыялізаванага навучання выканаўцаў на беларускіх нацыянальных інструментах пад эгідай кафедры духавой музыкі. Увасабленне гэтай ідэі пачалося.

Так што з новага навучальнага года клопатаў на кафедры дадасца: намаганнямі педагогаў-"народнікаў" і руплівцаў лабараторыі па даследаванні і адраджэнні старадаўніх інструментаў мусіць разгарнуцца сур'ёзнае навучанне мастацтву ігры на такіх інструментах і майстэрству іх выкарыстання ў прафесійнай музычнай дзейнасці.

●

Замест пастскрыптума дадам вось што.

Праз нейкі час пасля згаданай імпрэзы У. Гром наведаў Паставы, дзе разам з калегамі паўдзельнічаў у творчай лабараторыі Міжнароднага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік". Яго адмысловы майстарклас паказаў выразныя магчымасці ансамбляў жалеек, акарынаў, дудаў, шмат каму дапамог "адкрыць вочы" на забытыя традыцыі...

Згуртаваныя У. Громам спецыялісты-выканаўцы выступалі там ужо не безыменнай суполкай: іх прадставілі як ансамбль Беларускага універсітэта культуры "Гуды", створаны летась пры лабараторыі па вывучэнні і ўдасканаленні нацыянальных інструментаў.

Само гучанне назвы, безумоўна, выклікае музычныя асацыяцыі. Але ж гуды — гэта перадусім адно са старажытных імёнаў нашага народа. І, дальбог, майстры-музыкі ў сваёй далікатнай і карпатлівай творчай справе адпавядаюць імені народа годнага і шчырага, працавітага і сціплага, народа з багатым духоўным радаводам.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота М. ПРУПАСА*





*На здымках: ансамбль духавых; саліруе А. ЯЙЧУК; з песняй — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі В. АНІСЕНКА.*

# Эцюды

Васіль ЗУЁНАК



## НА ХВАЛЯХ ЛЯСНОЙ ДАРОГІ...

Бывае такое ў летнюю спёку. Асабліва жніўнай парой, калі перагрэтае поле, нібы нізіннае возера ў паводку, расплываецца па лагчынах — да балацявін і купчастых імшарын, дзе хоць ледзь-ледзь, але ўсё ж дыхае з-пад зямлі вільготная прахалода.

А дарога, што бяжыць між кустоў і пералескаў, тая зусім ператвараецца ў рэчку: ідзеш і чуеш, як бушуе-коціцца з поля да лесу жытнёвая плынь. Паток ахінае цябе цёплым духам і ўсё гусцее і гусцее, аж пакуль не ўліваецца ў тунель пад ляснымі шатамі.

Тады жытнёвы дух пакрысе астывае ў імхах ды лістоце, змешваецца з водарам пушчанскай кары ды баравой жывіцы.

Дарога забывае пра поле.

Дарога робіцца лясной.

Вось тут і пачынаецца новае рэчышча, што гайдае цябе — ад прагалінкі да прагалінкі — як на сонечных хвалях: з цяньку ды на ўгрэў, з угрэву ды ў цянёк...

Во: так і плывеш, так і плывеш — гайдаешся: то патанаючы ў пяшчотную прахалоду, то выныраючы з глыбіні на сонейка...

## МАТЫЛЁК

Помню, з якім захапленнем расказваў Мікола Лупсякоў, як падгледзеў ён вобраз: матылькі — лятаючыя кветкі. Нават не расказваў, а пэўным чынам (з выбачлівай усмешкай) хваліўся, хоць ніколі раней, гаворачы са мной, гэтага не рабіў, ды, відаць, і рабіць не ўмеў...

Чалавек, пакалечаны вайною, і яшчэ больш знявечаны і занядбаны паваенным побытам, ён як быццам прывык да паблажлівага стаўлення добра ўладкаваных і больш удачлівых літаратурных равеснікаў і рэдка перад кім адкрываўся. Калі ж бачыў ці адчуваў насмешку, то імгненна хаваўся ў блазенскую ракаўку, як бы адсякаючыся паратоўным: "Што ты возьмеш з гэтага Лупсякова..." (Гэтак жа ён і наогул знікаў на тры-чатыры месяцы, каб мець камандзіровачны начлег дзе-небудзь на дняпроўскай кручы ці ў стозе сена альбо ў свежазгрэбленай, яшчэ валкаватай, але ж і духмянай затое, мурожнай капе).

Ён мне чамусьці давераўся адразу. Напэўна, адчуў і ўвагу і непадробленую павагу. Я — свежанькі супрацоўнік газеты "Піянер Беларусі", уладальнік журналісцкага дыплома і аўтар некалькіх друкаваных вершаў, — што казаць, упершыню так блізка і непасрэдна спаткаўся з жывым пісьменнікам (ды не абы-якім! — апавяданні ягоныя я чытаў) і лавіў кожнае яго слова, а ён, відаць жа, маючы патрэбу каму-небудзь паспавядацца, — можа, нават як сыну, — расказваў паціхеньку, быццам баючыся, каб яшчэ хто не пачуў (сталоў у рэдакцыйным пакоі было ажно чатыры) і не засмяяўся: маўляў, што ты возьмеш з гэтага Лупсякова...

Паўтару: апавяданні ягоныя мяне ўражвалі. Не ўсё я тады, зацыклены і зацыкляваны "гераічнай" прозай майго юнацкага чытання, мог патлумачыць, нават сам сабе, — але: лепшыя старонкі лупсякоўскіх, не надта аб'ёмістых, кніжак, што называецца, бралі за жывое...

Гэта ўжо з часам прыходзіла разуменне: на літаратурным палетку Лупсякова прабіваліся парасткі той самай "акопнай праўды", якая неўзабаве мелася вывесці ў авангард "ваеннай" літаратуры Васіля Быкава. Ад рапартаванага апісальніцтва Мікола Лупсякоў прабіраўся да таямнічых глыбіняў чалавечай сутнасці, зазіраў у душу "акопнага" чалавека, а па вялікім рахунку — *чалавека жывога*, а не надуманай белетрызаванай схемы...

Вось гэтае "прадчуванне" быкаўскай прозы — у псіхалагічным малюнку, што сапраўды па-майстэрску выкананы Лупсяковым: "Калі налёт скончыўся, Плешчавеня (галоўны герой апавядання "Пераправа". — **В. З.**) азірнуўся і застыў у здзіўленні. Сонца, якое к таму часу ўзнялося над зямлёю, здалося яму пасля пылу і дыму цёмным...

...Ворагі падыходзілі ўсё бліжэй і бліжэй. Паўзлі групамі і па адным. Паблісквалі каскі, палохалі нажы на вінтоўках. А ён сядзеў, сабраўшы ўсю сваю волю, і толькі скулы хадзілі па бледных шчоках. Трохі як бы алавяныя вочы часам пачыналі ўзбліскваць жыццём. Над траншэямі ўвесь час пасвіствалі кулі. Пра сябе ён даўно не думаў. Ён нават не існаваў як бы. Але ў гэтым як бы неіснаванні хавалася праўда бясконцасці свету і жыцця, якую ён яшчэ няясна, але пачынаў адчуваць..."

Гэта — перад смерцю... Так бывае: яшчэ ўсведамленне не ўключылася, а вечнасць шэпча свой тастамент...

І якое эканомнае, і якое насычанае пісьмо... І якое дакладнае ў сваёй праўдзівасці...

Той раз на маім стале ляжаў яго новы рукапіс — пакамечаныя, зашмальцаваныя на перагібах аркушы. Але гэта быў сапраўдны рукапіс — не з машынкі, а з-пад рукі: запоўнены няроўнымі радкамі, хімічным алоўкам, — на шэрым фоне іншы раз праступалі фіялетавыя словы ці асобныя літары, — відаць, Мікола Радзівонавіч у творчым імпэце, каб грунтоўней зафіксаваць адчутае, падсліньваў алоўкавы стрыжань... А можа, і кроплі дажджу падалі на паперу ці раса абсыпалася?..

Апавяданне было, як гэта па-шкалярску класіфікуецца, навукова-фантастычнае, з нейкай дагістарычнай эпохі (гераіня, помніцца, мела кароценькае імя — Ія, а можа, нават і проста І), але ўсё ў ім дыхала беларускім лесам, сенажаццю. Хутчэй, і пісалася яно дзесьці пад стогам сена, бо між папяровых лісткоў нечакана трапілася і лісцінка падсохлай дзяцеліны...

З гэтага і ўспыхнула тое сарамяжлівае, нібы выбачэнне, прызнанне-пахвальба пра знойдзенае на лугах-сонцадолах параўнанне: матылькі — лятаючыя кветкі...

Ціхая ўсмешка радасці... Яна засвяцілася зноў перада мною, калі праз трыццаць год я вычытаў у "Жэнь-шэні" Міхаіла Прышвіна: "летали бабочки, похожие на летающие цветы..."

А пасля яшчэ ў дадатак — але ўжо з пэўным засмучэннем — бунінскае (куды ранейшае па часе напісання): "Два желтых мотылька, как два лепестка розы...", — колькі ж іх, "папярэднікаў"?.. — хоць была і кампенсацыя": нашым, беларускім, "матыльком"...

Даўно над магілаю Міколы Радзівонавіча Лупсякова шуміць трава... Ды расцвітае ж там хоць адна кветачка, то хай жа сніцца яму, што гэта прылятае матылёк, ягоны, угледжаны яго мастакоўскім зрокам...

## МУЗЫЧНАЕ "І"

Перакладаць паэзію з мовы блізкай і зразумелай усім, асабліва калі верш амаль у кожнага, што называецца на слыху, — занятак нялёгкі, адказны, ды яшчэ са з'едлівым пытаннем-усмешкай: і марны?..

З апошнім можна спрачацца бясконца. Сапраўды, паэта, скажам, Пушкіна, лепш чытаць у арыгінале. Але ж — колькі адкрываецца ў знаёмых радках нечаканага, калі загучыць верш па-беларуску. Адкрываецца і чытачу, і перакладчыку. Яму найперш...

І адчуванне гэтае не толькі творча радаснае, але і шчымліва-балючае. Такое — як развітанне. А ці назаўсёды — яшчэ не ведаеш... Цяжка пахаваць, а потым наноў ажывіць. Асабліва, калі валадараць тут касмічныя сілы. Да вусцішнасці, напрыклад, гняце адчуванне: як разбураецца радок Блока, як устойліва супраціўляецца іншаму, хай сабе і выдатнаму, але чужому слову, — і як знайсці той іншамоўны адпаведнік, каб "патрапіць" у геніяльную, раз і аднойчы дадзеную, рытміку і музыку блокаўскага верша. "Не слышу музыки..." — і наступіла смерць паэта...

А ў пушкінскім паэтычным прысвячэнні А. П. Керн ("Я помню чудное мгновенье...") гэты самы "музычны момант" адкрыўся мне праз Глінку.

"И жизнь, и слёзы, и любовь" — апошні радок Пушкіна загучаў па-беларуску так: "Каханне, слёзы і жыццё..." І я па-перакладчыцку быў задаволены: "и любовь" — "і жыццё", — здаецца, нават у драбніцах рытмічны малюнак вытрыманы...

Так доўга я цешыўся. Пераклад прагучаў на Пушкінскім свяце ў Міхайлаўскім, і быў прыкмечаны прыхільным словам Іраклія Андронікава...

Але аднойчы я сам сабе заспяваў апошні радок, — па рамансу Глінкі, — і раптам спатыкнуўся на гэтае "і", кароценькае ў вершы, "неаднатактавае" ў музычнай фразе. Паўторанае ("і-і-і...") перад словам "любовь", працяжліва ці нават гулліва, яно так дарэчы, а перад словам "жыццё"?.. Штосьці не клеіцца — не толькі ў музычным сэнсе, але і наогул...

Выходзіць, паэтычны радок перакладзены, а музычны — супраціўляецца...

Што ж — для верша, прамоўленага па-беларуску, пэўна, іншая музыка павінна нарадзіцца?..

Наогул, адзін гук, фанетычны, а дакладней, яго фанетычныя магчымасці, можа ў гартані спевака рабіць цуды, — гледзячы, як спявак выкарыстоўвае яго фарбы ў сваім "музычным інструменце".

Вось, да прыкладу, "Стеньки Разина челны": адны стараюцца захаваць школьную дакладнасць артыкуляцыі, "правільнасць" вымаўлення "пяцёрачніка": "челны", — і гэтае "е" звужае размах дыхання, а з ім і малюнак волжскага прастору, на які выплываюць гэтыя самыя "челны"; а іншы спявак (характару, скажам, Шаляпінскага) раптам раскрые глыбіннае — "а": "чалны", — і ў "няправільнасці" гэтай, асабліва ў спалучэнні з "л", захвалюецца, забушуе, калі не "дзевяты вал", то, прынамсі, "высокі вал" волжскай стыхіі, — і ўласна ракі, і Сценькі — у вобразе...

Дарэчы, наша беларускае "ў" (чаўны) ужо нясе "матыльковы" эфект лёгкасці — значыць, толькі так: наша "а" і рускамоўнае "л", зліўшыся ў адно, ствараюць малюнак воднай стыхіі. У гэтым "л" хвалі варочаюцца — з глыбіні, з глыбіні...

І ці не падобныя "артыкуляцыйныя" падставы меў на ўвазе і Міхаіл Глінка, калі прасіў Уладзіміра Салагуба, які ўзяўся было стварыць лібрэта да оперы "Жизнь за царя" ("Иван Сусанин"; — а: "да оперы", таму што рабілася, як цяпер кажуць "рыба" — тэкст на ўжо гатовую музыку): "Пишите, что хотите, только чтоб под высокими нотами всегда было *а* или *и*..."

А вось ужо зусім іншае "і", так бы мовіць, з зусім іншай "оперы", з іншай трактоўкай — пры іншых абставінах: яно ўзнікла не дзеля вышыні, а дзеля шырыні гучання. У музычнай фразе "твае расцвілі берагі" са славутай песні пра Нёман слова "расцвілі" наш народны артыст Мікалай Ворвулеў, спяваючы, прамаўляў "расцвялі". І невыпадкова. Тут быў галоўны, ударны, акцэнт. І спеваку быў патрэбен адкрыты гук — як шырокі, вольны прастор Нёмана. А паспрабуйце — "і" — глушыцца ўсё, звужаецца і змыкаецца...

Правілы правіламі, а вольнаму слову — вольны палёт.

## НА ЧОЎНЕ МЕСЯЦА...

Шмат песень, не меней ухвальных слоў праспявана і сказана сонцу. Яно — ясназорца, яно ўсё бачыць і ўсё благаслаўляе — усёдайнае: на квітненне і плён...

А люстэрка ягонае — месяц? Ахавальнік, абярэжнік, сакрэтны спадарожнік ягоны?.. Грахоўны сведка пачаткаў — у словах, у пацалунках, у смяротнай слодычы, імя якой — такое ж светлае — так і не прыдумалі людзі...

О, колькі разбілася нашых дум і парыванняў аб гэты начны бераг сонца...

Самыя патаемныя прызнанні былі не пры сонцы — пры месяцы. І самыя чароўныя закляцці былі пры ім. І праклёны — чорныя і пякельныя — благаслаўляліся светлай поўняю...

Не раз я лавіў сябе на абманлівым — і неадступным загадкавасцю сваёй — адчуванні: глядзіш на адлюстраванне месяца ў рачной плыні і здаецца, што не вада бяжыць, бязмоўна ўсхліпваючы, сутыкнуўшыся з якім-небудзь прыбярэжным асаковым мыскам ці падмытым коранем алешыны, а месяц плыве, пакалыхваючыся на лёгкім, без хваль, спружыністым люстэрку...

Так і на небе: хмаркі ляцяць, то засланяючы, то абмінаючы светлую, разгорнутую месячную поўню, а выдае, што гэта ён, месяц, так імкліва праносіцца ў міжзорных вышынях... І ты ўжо міжволі пачынаеш сачыць позіркам гэты лёт, нават галаву паварочваеш, падуладны гэтаму ўяўнаму руху, пакуль не спахопішся... Хоць, па сутнасці, так яно і ёсць: месяц імчыць — вечны спадарожнік зямлі — у касмічнай прасторы. А ты стаіш, нерухомы, зачараваны гэтым, відавочным, а не тым, сусветным, лётам, і здагадвацца не хочаш, што гэта час твой ляціць, — такі імклівы, імгненны, прывідны на гэтай зямлі, пад гэтым месяцам, пад гэтым небам...

***Хто там***
***На чоўне месяца***
***Мог плыць?.. —***

пытаўся Максім Танк. Пэўна, згадваўся яму шаўчэнкаўскі Дняпро з месяцам, што "неначе човен в синім морі, то виринав, то потопав"... А недзе — у іншым вымярэнні — у д'ябальскім кручэнні завірухі: "невидимкою луна освещает снег летучий" — з пушкінскіх "Бесов"...

Кажуць, усе амерыканскія астранаўты, якія пабывалі на месяцы, вярнуўшыся на зямлю, былі адзначаныя неадэкватнымі паводзінамі: хто замкнуўся ў сабе, хто падаўся ў беспрасветную містыку, хто наогул псіхічна зламаўся да вар'яцтва...

## ШТО "МЕЎ НА ЎВАЗЕ" ПІМЕН ПАНЧАНКА?

"Хачу напісаць яшчэ адну кнігу, дзе галоўным кампанентам будзе не знешняя паэтычнасць, а глыба праўды, масавы фосфар Быкава", — гэтую фразу я запісваў у сне, а прамаўляў яе Пімен Панчанка (і тое зноў жа было не зусім наяве, а знаходзіўся паэт у нейкай "отстраненности", не ў прамым кантакце са мною: я яго бачыў і чуў (быццам на экране), а ён не ведаў гэтага, хадзіў і гаварыў, як сам з сабою)... Вось такое "шматпавярховае" было бачанне, і думалася яшчэ, калі я запісваў (у сне): а ці паверацьць, што гэтак Панчанка гаварыў, чым засведчыць, што гэта яго словы?.. А цяпер вось, прачнуўшыся, зрокава бачу запісаную фразу (і ўсё, помніцца, баяўся, каб як не забыць яе...): "масавы фосфар Быкава"... — і тады здавалася яна дужа важнай і важкай і вельмі зразумелай. А цяпер?.. "Масавы фосфар"... — штосьці накшталт "крытычнай масы"? Але ж тады, на той, быкаўскай, вайне, атамнай зброі яшчэ не было... Ды і выбуховасць "крытычнай масы" не магла пазначацца фосфарным эквівалентам — не той элемент, не радыеактыўны... Аднак жа: невыпадкова і небеспадстаўна назвалі яго старажытныя грэкі — фосфар — phōsphóros, што значыць с в я т л а н о с н ы.

Зноў і зноў паўтараю — паўнагучна-ўрачыстае: phōsphóros! Святланосны... — Магчыма, гэта і "меў на ўвазе" Пімен Панчанка?..

## АДКУЛЬ ХОЛАД?

***Люлі-люлі-люлі,***
***Пайшоў кот у дулі.***
***Адмарозіў лапкі,***
***Палез на палаткі.***
***Сталі лапкі грэцца,***
***Недзе катку дзецца...***

Колькі пытанняў адразу ў кароценькай калыханцы:

— разлік на дзіцячую наіўнасць (абы загаварыць, забаіць) — ці сапраўды глыбінная рэальнасць, дулі паспелі — росы халодныя, стынуць ногі, восень (але ж — "памарозіў"...)?..

— а навошта "кату дулі"? Каб дзіцяці соладка было засынаць?..

— а рыфма? — "лапкі — палаткі"! — разам з сугуччам "непасрэднага дзеяння" — якое "адваротнае" рэха: "лап — пал..."!

Вось табе і "наіў" — ці, калі сур'ёзна: у "наіве" — паэзія.

## "АСТЭЦІКА"

Усё думаў: няўжо Цімох Васілевіч, Васіль Вітка, сам не здагадваецца зыначыць слова ў кароценькай эпіграме "Эстэт":

***Вельмі тонкі эстэт***
***Хапіў тоўсты кастэт,***
***Гваздануў паэціка —***
***Вось і ўся эстэтыка.***

Тут жа, здаецца, усё на паверхні ляжыць, сама рыфма "просіць": "паэціка — эстэціка" — а яшчэ ямчэй "астэціка" — "знізіць" слова, паставіць яго ў сэнсавы рад верша: ён жа і патрабуе такой афарбоўкі — у стылі гэтага крытыка — аглабельшчыка і невука (ды яшчэ кантраст дасць падсвятленне: правільнае

*(Працяг на стар. 14)*

ПОШТА

# Правінцыйныя карцінкі

### "ВУЧЫЦЕЛЬ"

Калісьці ён працаваў дырэктарам сямігодкі ў прыгараднай вёсцы. Гадоў дзесяць назад выйшаў на пенсію, жыве ў горадзе. Сустрэўся з ім у вагоне дызель-поезда. Ён ехаў па грыбы, я — на дачу ў вёску. Прыхапіў у дарогу свежы нумар часопіса "Полымя". А ў ім падборка вершаў Ніла Гілевіча, якога даўно ведаю і люблю. Ледзь не кожны радок у той нізцы вершаў клікаў нас бараніць родную мову, каб "людзьмі звацца", не даць адшчапенцам і манкуртам загнаць у падполле разбуджаны народны дух. Параіў пачытаць іх свайму папутніку. Ён бярэ часопіс, надзявае акуляры, чытае, а потым вяртае мне моўчкі, без каментарыяў — быццам не вершы чытаў, а даведку з жылканторы.

— Ну, як вершы? — пытаюся ў былога дырэктара сямігодкі.

— Оригинальные стишки, — з ухмылачкай на хударлявым, зрэзаным тонкімі маршчынкамі твары адказвае ён. — Поэт по-своему выразил отношение к белорусскому языку. Каждый сегодня волен разговаривать на нем или на русском, ведь у нас двуязычие, оба языка государственные.

— Але ж беларуская мова пастаўлена на мяжу памірання, — пярэчу яму.

— Я бы так не сказал, — суха адказаў "вучыцель".

Аб'явілі мой прыпынак, і мы развіталіся. Ішоў да вёскі і думаў: колькі ж сёння ў раёне (не гаворачы пра горад, дзе ўсе школы рускамоўныя) такіх вось былых і працуючых "дырэктараў", якія свядома ігнаруюць матчыну мову. Пабываеш на штогадовых жнівеньскіх настаўніцкіх нарадах — і адчуваеш сябе чужаком, эмігрантам у сваёй краіне, бо рэдка ад каго з выступоўцаў пачуеш роднае слова.

Дырэктары школ пагалоўна размаўляюць толькі на "великом и могучем".

Што ж атрымліваецца? Дырэктары школ, вельмі часта беларусы, бачацца не скансалідаваным гуртам нацыянальна свядомых інтэлігентаў, абаронцаў галоўнай святыні нацыі — мовы, а "баязлівай сумессю людзей з вышэйшай адукацыяй", як пісаў восемдзесят гадоў назад Язэп Лёсік. Я яшчэ пра нашых "вучыцеляў" — ён меў на ўвазе настаўнікаў, напісаў тады такое: "Трэба было загаварыць з імі аб беларушчыне, як яны літаральна пачыналі раўсці, як тое неразумнае быдла, знюхаўшы кроў". Сёння дырэктары і шараговыя настаўнікі-"вучыцелі" раўсці не стануць, яны застаюцца, у сваёй пераважнай большасці, абыякавымі, раўнадушнымі і да нашай незалежнасці, і да таго ўціску на родную мову, што вядзецца з верху да нізу чыноўнікамі розных рангаў.

### НЕДАСПЕЛАСЦЬ

Пасля абрыдлых магнітафонных грымот з рускамоўнымі шлягерамі не лепшага "гарту", якія кожны вечар збіралі ў танцавальную залу санаторыя "Рассвет" людзей розных узростаў, прыезд пенсіянера-мінчука з акардэонам і зайздроснымі вакальнымі задаткамі быў сустрэты адпачываючымі з радасцю. У першы ж вечар вакол яго ў вестыбюлі сабралася чалавек дваццаць, пераважна жанчын. Музыка прапанаваў рэпертуар настальгічны — з яго вуснаў гучалі пераважна савецкія песні даваенных і ваенных гадоў. Жанчыны дружна, з натхненнем падпявалі. Усе да адной песні былі рускамоўнымі. Чаму ж гэтак? Чаму начыста забыта, хто мы і на якой зямлі жывём? Чаму б не заспяваць нашу родную песню? Падышоў да жанчын-пяюх і напомніў пра гэта. Яны адрэагавалі тым, што заспявалі... "Ой, цветет калина..." Не стрываў тут васьмідзесяцігадовы габрэй з гарпасёлка Любань, таксама прысароміў спявачак. Сорамна стала ім перад прадстаўніком іншай нацыі — для адчэпнага праспявалі "Ой хацела мяне маць...", вось за сваю этнічную недаспеласць і інтэлектуальна-духоўную нямогласць — гэтае нацыянальнае бедства нашага народа — сорамна ім не было.

**Міхась ТЫЧЫНА**

*г. Слуцк*

# Мікола РАКІТНЫ



2 жніўня 2000 года перастала біцца сэрца вядомага празаіка Міколы Ракітнага.

Мікалай Ісакавіч Новікаў нарадзіўся 15 красавіка 1920 года ў вёсцы Петрыцкае Брагінскага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1935 годзе скончыў сямігодку, у 1938 Віцебскае мастацкае вучылішча, пасля быў прызваны ў армію. У час Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях на Цэнтральным і Паўднёва-Заходнім франтах, быў паранены. Пасля дэмабілізацыі працаваў мастаком і літсупрацоўнікам газеты "Звязда", рэдактарам аддзела літаратуры і мастацтва часопіса "Беларусь".

Упершыню выступіў у друку ў армейскай газеце "За Отчизну" з апавяданнем "Выпадак у атрадзе". З 1947 года апавяданні, нарысы, фельетоны Міколы Ракітнага рэгулярна з'яўляліся ў часопісах "Полымя", "Вожык", "Беларусь", "Работніца і сялянка" і іншых. У наступныя гады шматлікія празаічныя зборнікі, прасякнутыя шчырай любоўю да ўсяго роднага, замілаваннем да беларускай старонкі, — "Ранняй вясной", "Вячэрнія зоры", "Селькоры", "Пад адным дахам", "Была вясна...", "Сярод людзей сваіх", "Вясковыя навелы", "Засмужаная далеч", "У буйным квеце лотаці" — засведчылі, што нязменным аб'ектам аўтарскай увагі з'яўляецца вёска, простыя і сціплыя працаўнікі, узаемаадносіны людзей.

Узнагароджаны медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Ад нас пайшоў чалавек добрай душы і шчырага сэрца, таленавіты майстар слова. Памяць пра Мікалая Ісакавіча Ракітнага назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Гонар быць беларусам

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

У грамадстве тут вінаваты стагоддзі дэнацыяналізацыі, стомленасць грамадства ў чаканні адраджэння і нават нявер'е ў яго магчымасць. Прырода таксама стамілася — найперш ад бяздумнай, самазнішчальнай дзейнасці чалавека. Як пісаў у 1861 годзе Уладзіслаў Сыракомля: "І нашто ж вясна нам, Божа, мы адвыклі ад вясны..."

**— Хто толькі не ставіць беларусам дыягназ. І лекі вядомыя амаль кожнаму. Яшчэ Караткевіч, якога вы цытуеце ў сваёй кнізе "Жыццё і ўзнясенне...", даводзіў: "Дзела рабіць трэба! Сілы збірайць! Розум назапашваць! Каб вытрываць". І быццам бы кожны робіць "дзела", і быццам бы трываем, а да заўважнай канцэнтрацыі "сіл і розуму" ніяк не даходзіць. У чым прычына, Адам Восіпавіч?**

— Карацей — што трэба рабіць, каб вясна ўсё ж прыйшла? Не спадзявацца на цуда, на тое, што нам дапаможа бліжэйшы або далейшы сусед, уваходжанне ў еўрапейскі або еўраазіяцкі дом. Спор можа прынесці найперш праца, "штодзённая, шэрая", як пяецца ў нашым духоўным гімне. Яна выратавала палякаў ці літоўцаў пасля паразы 1863 года. На пазітывісцкую працу абапіраліся ў сваім нацыянальным станаўленні, да прыкладу, чэхі, эстонцы ды і шмат якія іншыя еўрапейскія народы. А нашы адраджэнцы недаацэньвалі гэта. Ім здавалася, што нацыянальную свядомасць простага люду можна адразу ж узняць прыняццем законаў, ледзь не загадам зверху. Ды гэта тая ж бальшавіцкая вера ў цуда. Трэба нарэшце пераадолець, выпаліць жалезам уласнае самаедства. Я разумею адкуль яно бярэцца: ад псеўдаталерантнасці, ад пачуцця бездапаможнасці, не хочучы ці не жадаючы адстойваць сябе як нацыю. Мы шукаем ворагаў унутры, самазнішчаемся, як тыя каты ў мяшку... А наконт канцэнтрацыі сіл і розуму... У свой час я наіўна верыў, што іх удасца хутка і бязбалесна акумуляваць у Цэнтры імя Скарыны. Але памкненні не вытрымлівалі сутыкненняў з рэальнасцю. Хаця... Хаця, можа, я занадта песімістычна гляджу на вынікі працы — сваёй і калег. Цэнтр усё ж дзейнічае, робіць сваю справу. І можа, павінен ператварыцца ў Інстытут Беларусі. Колькасць зробленага абавязкова перахадзіць у новую якасць.

**— Скарына, Каліноўскі... Як бы вы працягнулі спіс нашых нацыянальных герояў, уключаючы і сучаснікаў?**

— Услед за Скарынам і Каліноўскім я ўжо не раз ставіў Караткевіча. Ён такая ж шматгранная, адраджэнская асоба. Такой жа знакавай фігурай мог — і ў нацыянальным плане — стаць Машэраў. Да гэтага ўсё ішло, да беларускага нацыянальнага камунізму. Мусіць, невыпадкова Караткевіч і Машэраў сімпатызавалі адзін другому... А з сучасных выразна вылучаецца сваёй паслядоўнасцю Быкаў.

**— Адам Восіпавіч, вы да ўсяго яшчэ і прафесійны журналіст, пачыналі калісьці з раёнкі, да драбніц ведаеце стан беларускай прэсы. Ці мае яна на сёння "чалавечы" твар?**

— Я ўжо казаў, што больш або менш уважліва праглядаю каля 80 беларускіх перыядычных выданняў. І рэдка якія з іх выклікаюць алергічнае, цалкавіце непрыняцце. Раней гэта быў скандальны "Славянскі набат", цяпер — "Веды", "Мы и время". Чалавечае аблічча выразна бачна ў "Літаратуры і мастацтве", "Звяздзе", "тоўстых" часопісах. З менш вядомых, але затое паслядоўных вылучыў бы "Здравый смысл", "Чистый мир". Падзяляю пафас "Нашага слова", "Нашай нівы", часта "Белорусской деловой газеты", "Свободных новостей", часам "Таварыша". Але мае асабістыя сімпатыі і антыпатыі аніяк не адбіваюцца на Банку інфармацыі. Там павінна быць усё, што патрэбна зацікаўленаму спажыўцу.

**— А беларускі тэлеканал гледзяце?**

— Вельмі рэдка. Бо нецікава, непрафесійна, аднабакова. Звычайна вечарам спяшаюся дахаты, каб паглядзець хоць навіны на рускіх каналах — спачатку на ОРТ, а потым на НТВ. Супастаўзшы пабачанае і пачутае, раблю свае вывады. Назаўтра яны падмацоўваюцца весткамі з газет.

**— Адам Восіпавіч, вы сябра ПЭН-цэнтра. Колькі слоў пра дзейнасць гэтай для многіх таямнічай міжнароднай суполкі паэтаў, эсэістаў і навелістаў.**

— Чаму таямнічай? Мне здаецца, уся карысная работа ПЭН-цэнтра навідавоку. Яна дазваляе суадносіць нашы пісьменніцкія справы з сусветнай літаратурнай супольнасцю. Найпершая з іх — адказнасць за лёсы чалавека і свету, самасцвярджэнне пісьменніка як асобы. Дарэчы, ведаеце, хто з беларускіх літаратараў стаў першым сябрам ПЭН-цэнтра? Ніколі не здагадаецеся: Рыгор Крушына са Случчыны, які жыў і памёр у Злучаных Штатах Амерыкі. Яго сын прывёз нам, перадаў у музей "Беларусы ў свеце", што існуе ў Цэнтры, ягоныя рукапісы, тканы паясок і — медаль ПЭН-цэнтра.

**— Як вы разумееце беларускую шляхетнасць? Ці магчыма тут праводзіць нейкія паралелі з рускай "интеллигентностью"?**

— Шляхетнасць і інтэлігентнасць — блізкія паняцці. Але шляхетнасць — шырэй. Гэта спосаб быцця, адносін да навакольнага свету. Беларуская шляхта была больш шматлікай у параўнанні з рускім дваранствам. Шляхта, у адрозненне ад магнатаў, больш саслоўнае, чым класавае паняцце. Шляхетнасць не прама залежыць ад узроўню адукацыі, становішча ў грамадстве. Шляхетным для мяне застаецца цесць Кароль Вішнеўскі. Хаця ён ледзь умеў распісацца, але ніколі не мацюкнуўся, не пакінуў пасля сябе смецце. І на паляванне ён хадзіў не столькі, каб некага забіць, колькі пабыць у адзінстве з прыродай. Гэта ён не прайшоў міма унікальнага барэльефа Адама Міцкевіча 1858 года, які ляжаў сярод друзу на месцы колішняга маёнтка.

**— Камісія Беларускага фонду культуры, якую вы ўзначальваеце, склала паўдзесятка зборнікаў звестак аб тым, дзе па-за межамі нашай краіны знаходзяцца унікальныя рэчы, кнігі, дакументы. "Наша свабода" днямі напісала, што на Беларусі застаўся толькі адзін слуцкі пояс... Як ідзе ажыццяўленне праграмы "Вяртанне"?**

— "Наша свабода" тут крышку недакладная: не адзін, а **паўнацэнны** адзін. І не застаўся, а з'явіўся. У 1989 годзе я прывёз яго з Лондана ад Анджэя Цеханавецкага, нашчадка князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх. І перадаў, згодна з яго жаданнем, у Музей старажытнай беларускай культуры, хаця тады ўлады настойвалі на іншым вырашэнні. Той пояс, а таксама краявід Нясвіжа пачатку XIX ст., ахвяраваны Цеханавецкім таму ж музею, — канкрэтны вынік работы грамадскай камісіі "Вяртанне". А яшчэ шэсць выпускаў зборніка "Вяртанне". Цяпер пачынаем рыхтаваць сёмы. Ён будзе мець крыху іншы накірунак. Разумееце, мы, мусіць, занадта, зноў жа ад комплексу непаўнацэннасці, зацыкліліся на рэстытуцыі: вяртайце нам, і ўсё тут. А настойваць на вяртанні мы можам толькі тады, калі гаворка ідзе пра каштоўнасці, вывезеныя ў выніку ваенных дзеянняў. І то — у апошнюю вайну. А на астатняе няма дастатковых юрыдычных падстаў, не распрацаваны яны ў нас. Ды і як вернеш тое, што было аддадзена, прададзена, вывезена з нашай маўклівай згоды або і без згоды, патаемна, па праву мацнейшага, па праву гаспадара ў сваёй метраполіі. У Польшчы, Расіі многа такіх каштоўнасцей. Аднак сёння мы можам толькі дабівацца, каб ім прыдаць статус сумеснай культурнай спадчыны, сумесна выкарыстоўваць іх, не плацячы за выстаўкі, копіі для выдання і г. д.

А ўвогуле Беларусь — дзіўная краіна. Нам не патрэбны нашы каштоўнасці, нават вывезеныя ў час апошняй вайны. У нас проста няма дзяржаўнага органа (ды і навуковай установы), якая займалася б праблемамі рэстытуцыі, дабівалася падпісання адпаведных двухбаковых дамоваў ці прыняцця закону. Мы не выкарыстоўваем для абмену тое, што затрымана на мытнях. Гэтым і адрозніваемся ад памежных краін.

**— Як адпачывае ад усіх жыццёвых нягод доктар навук, прафесар Мальдзіс? Няўжо ніколі не хацелася кінуць усё і прыдбаць дзе-небудзь незаселеную выспу?**

— Адказ тут праглядваецца з адказаў на папярэднія пытанні. Перад вамі — анамалія. Ну дзе вы бачылі стары драндулет, да якога прычэплена каля дзесяці грамадскіх прычэпаў: тая ж камісія "Вяртанне", а найперш — Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, штомесячны бюлетэнь "Кантакты і дыялогі", серыйныя зборнікі "Беларусіка", энцыклапедычныя даведнікі па дыяспары, розныя фонды і рэдкалегіі. Зразумела, імкнуся дапамагчы і землякам. Вось і цяпер садзейнічаю ім у выданні даведнічка: "Культура зямлі Астравецкай: постаці і творы". Таму і "незаселеная выспа" ці, канкрэтней, "хата дзеда Караля" вось ужо дзесяць гадоў пераважна застаецца блакітнай марай. Можа, вырвуся сёлета на які тыдзень. Бо там спакойней будзе рэдагаваць матэрыялы чарговых "Беларусік". А ўвогуле занадта рэдка бываю на радзіме, ад чаго і губляю барадулінскае "святое штосьці".

**— Вы хацелі б пазбавіцца ад пэўных рыс свайго характару?**

— Такія рысы таксама вынікаюць з папярэдніх адказаў. Найперш, гэта лёгкая падатлівасць, каб да цябе "прычапляліі" не толькі важнае, але і другараднае. Мусіць, тут таксама праяўляецца тая ж беларуская памяркоўнасць, псеўдаталерантнасць. Раней лягчэй або цяжэй пагаджаўся на кожную другую грамадскую прапазіцыю. Цяпер — на кожную дзесятую. Прымушаю сябе адмаўляцца ад розных сходаў, вечароў, канцэртаў, таго ж тэлебачання, замежных паездак. І ўсё роўна няма часу на асноўнае — каб дапісаць распачатыя кнігі пра быт і норавы нашых продкаў, пра літаратурныя мясціны Беларусі, пра светлыя постаці мінулага і сучаснасці. Перапісаць кнігу "Астравеччына, край дарагі..." (назва, як і скарачэнні — не мае, першапачатковая нарыс называўся палемічна: "І Астравец — свету не канец!"). Застаецца няздзейсненай галоўная мара — распачаць стварэнне "Беларускага біяграфічнага слоўніка". Вунь у рускіх і палякаў аналагічныя выданні даходзяць да апошніх літар алфавіта... Дзеля гэтага варта было б "абрэзаць" усе іншыя "прычэпы". Стараюся, каб гэтак зрабіць. Спрабаваў на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў. Ды ўсе, на каго я ўскладаў надзеі, аказаліся прагматыкамі. Застаецца кволая надзея, што на гэты чыстасардэчны заклік адгукнецца хтосьці з чытачоў "Літаратуры і мастацтва". Ау, валанцёры, ці не захочаце вы пераняць хоць адну з пералічаных грамадска карысных спраў?! Тады і драндулет зможа адправіцца ў накірунку да "хаты дзеда Караля", каб там дапісаць недапісанае. Дзесяць гадоў ціха мару пра такую магчымасць.

**Гутарыў Яўген РАГІН**

# "Забываем пра мікрафон"

***Вось ужо тры гады па першай праграме Беларускага радыё гучыць літаратурна-мастацкі альманах "Розгалас". Перадача сапраўды адпавядае сваёй назве, бо мае жывыя слухацкія водгукі. Зараз на пытанні нашага карэспандэнта адказвае вядучы альманаха, пісьменнік, доктар філалагічных навук, намеснік дырэктара Інстытута літаратуры НАН РБ Сцяпан ЛАЎШУК.***

**— Сцяпан Сцяпанавіч, перадача такога плана на радыё, здаецца, раней не было. Раскажыце, калі ласка, як узнікла задума.**

— На жаль, у эфіры ў апошнія гады рэдка пачуеш голас крытыка і водгук на новую кнігу. Некаторыя літаратурныя выданні перасталі друкаваць рэцэнзіі, а хто і друкуе, дык абмежаваны малым тыражом. Такія шматтыражныя газеты, як "Звязда", увогуле не маюць магчымасці асвятляць кніжныя навінкі і тое, што называюць літаратурным працэсам. Узнікае пытанне, у якіх формах папулярызаваць, як даносіць беларускую літаратуру да шырокага кола чытачоў. Ды і самім пісьменнікам важна, каб іх творы ацэньвалі спецыялісты. З гэтымі пытаннямі звярнуўся да супрацоўніцы рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Ніны Камаровай, разам пачалі думаць. І прыдумалі: сумяшчаць паседжанні аддзела сучаснай беларускай літаратуры (а я яго ўзначальваю) з радыёзапісамі, і на аснове запісаных гутарак выпускаць перадачы.

**— Відаць жа, была небяспека "шматгаварэння" і залішняй "навуковасці"...**

— Так, была. Але браць пэўныя тэмы і акадэмічна выкладаць іх мы не збіраліся. Абмяркоўвалі розныя формы, спрачаліся. У выніку спыніліся на форме альманаха як больш "радыйнай".

**— Няблага прадставіць чытачам узельнікаў вашых паседжанняў.**

— Удзельнікі — увесь наш аддзел. Акрэсліваем тэму, збіраемся. Звычайна ідзе жывы абмен думкамі, аднадумства не патрабуецца. Доўгія маналогі недапушчальныя, бо гутарка павінна быць гутаркай. Напачатку, прызнаюся, было цяжкавата: не адчувалі, на якую аўдыторыю выходзім. Пасля зразумелі, што арыентавацца трэба не толькі на высакалобых інтэлектуалаў, але пры гэтым і да прымітыву не апускацца. Адным словам, захоўваць залатую сярэдзіну.

У кожнага з удзельнікаў свая спецыялізацыя, свая манера гаворкі. Любоў Гарэлік, напрыклад, знаўца паэзіі, выступае эмацыянальна, хвалюецца. Вольга Козіч даследуе прозу; прыходзіць узброеная да зубоў, абкладаецца літаратурай. Схільна да маналогаў. Аспірант Алесь Лапата-Загорскі пад кожную праблему падводзіць тэарэтычную базу. Антаніна Лысенка — даследчык публіцыстыкі і *маральна-этычных праблем*. Выступае аргументавана, з выверaных пазіцый. Тры маладыя навуковыя супрацоўніцы — В. Стральцова, І. Баўтруль і Н. Пыско — арганічна ўключыліся ў абмеркаванні. Пытанні гасцям задаюць часам правакацыйныя.

**— А няма спакусы "працаваць на публіку"?**

— Мы, як разгаворымся, увогуле забываем пра мікрафон. Ёсць праблема, ёсць погляды на яе, ёсць госць-*пісьменнік* (а гасцей мы запрашаем пастаянна), і важна, каб ён адчуваў сябе ўдзельнікам дыскусіі, часцінкай нашага калектыву.

**— Самы час пра гасцей распавесці...**

— На паседжанні аддзела прыходзілі многія: А. Жук, Г. Далідовіч, М. Аўрамчык, В. Казько, Г. Пашкоў, А. Пісьмянкоў, Г. Марчук і іншыя. У нас некалькі рубрык, у тым ліку "Кніжныя навінкі", "Пісьменнік і час". Больш шасці перадач было прысвечана тэме "Беларуская літаратура ў сусветным культурным асяродку". Абмяркоўвалі сучасныя жанры — паэзію, прозу, драматургію. Асобны цыкл прысвечаны знаёмству з творчымі секцыямі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Запрашалі старшынь секцый — М. Мятліцкага, І. Чароту, Л. Левановіча, У. Глушакова. Абмяркавалі секцыю дзіцячай літаратуры, плануем запрасіць кіраўніцтва саюза. Каб людзі ведалі, што гэтая арганізацыя патрэбна, што не фармальна яна існуе.

**— А як вы зваротную сувязь наладзілі са слухачамі?**

— Вельмі проста: паведамілі свой тэлефон — і *пайшлі званкі з усёй рэспублікі*. Ёсць нават пастаянныя "рэцэнзенты" нашых перадач. З Віцебска звоніць рабочы Андрэй Іванавіч. З Чэрвеньшчыны — пенсіянер, былы агранам. З Мазыра званілі, з Гомеля, з Магілёва... Я ўжо не кажу пра Мінск. Ад прафесара да хатняй гаспадыні — такі сацыяльны спектр нашай слухацкай аўдыторыі.

**— І як пісьменнікі ўспрымаюць?**

— Неабыякава. І наш галоўны крытык — Уладзімір Міхайлавіч Юрэвіч, які сам доўгі час супрацоўнічаў з радыё і ведае яго спецыфіку.

**— Выразаецца шмат?**

— Н. Камарова — рэдактарка вопытная, ведае, дзе трэба выразаць, але нажніцамі не злоўжывае. Варта, лічу, назваць і іншых стваральнікаў перадачы: гукарэжысёр В. Красоўскі, гукааператар мантажу С. Бязладава.

**— Скажыце шчыра: не вычарпаліся?**

— У нас у Беларусі хапае цікавых аўтараў, якім ёсць што сказаць. На дзесяць гадоў працы хопіць!

**— Застаецца пажадаць поспехаў... і нястомнасці.**

**Гутарыла**
**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**Тэатралам, стомленым парой летніх вакацый, у нядзелю пашчасціла. На "Вольнай сцэне" давалі спектакль. Прычым прэм'еру — "Блазна" рэжысёра Міколы Дзінава паводле калектыўнай п'есы Максіма Клімковіча і Уладзіміра Сцяпана "Каваль-ваявода". Быў аншлаг — з прыстаўнымі крэсламі і сядзеннем на прыступках у праходах. "Блазан" — спектакль пра наша жыццё. Таму стане яшчэ больш рэзанансным, чымсьці "Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць" і "Прынц Мамабук".**

### ЭКРАН

**Беларускае тэлебачанне**

*15 жніўня, аўторак, 17.30*— "Спевы зямлі беларускай", перадача з удзелам фальклорнага ансамбля "Нізоўскія музыкі" (Уздзенскі раён).

*17 жніўня, чацвер, 19.40* — "Купалаўцы: погляд праз час", да 80-годдзя Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

*19 жніўня, субота, 12.05* — "Беларускі дом" з гістарычным тэлепадарожжам у Лоеў, расповедам пра творчасць мастака Яўгена Ражкова і дзейнасць Таварыства падтрымкі экстрэмальных экспедыцый.

*19 жніўня, субота, 16.25* — "Арт-клуб": праграма да 75-годдзя з дня нараджэння заслужанай артысткі Ганны Рыжковай.

### ВІДЭАКЛУБ ТБМ

*12 жніўня, субота, 18.00* — можна паглядзець па відэа, як будзе па-беларуску скавытаць Тарзан.

### ВЫСТАВЫ

У Палацы мастацтваў працуюць выставы твораў Марка Шагала і сучаснікаў Яўгена Ражкова і Аляксея Зінчука.



*У чаканні...*

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ.*

***Алесь Клок (Клачкоў Аляксандр Віктаравіч) — чалавек знаны ў навуковым свеце. Доктар тэхнічных навук, прафесар, аўтар больш як 200 навуковых прац. Але горацкі прафесар піша не толькі салідныя манаграфіі пра сельскагаспадарчыя машыны. Ён любіць і хораша адчувае роднае роснае слова. Нядаўна Аляксандр Віктаравіч напісаў і падрыхтаваў да друку гумарыстычна-сатырычны твор з жыцця беларускай вёскі ў 60-ыя гады "Мікітавы прыгоды", раздзел з якога мы сёння прапануем нашым чытачам.***

Алесь КЛОК

## Лось

*Ці то бегчы, ці то ўпасці*
*Ці напіцца — ёсць указ:*
*"Камунізму каб дапясці,*
*Коней трэба звесці ўраз".*

*А Мікіта меў кабылку*
*(Дзе здабыў — асобы сказ),*
*Ды яе глядзеў, бы мілку,*
*Бо памочніца якраз.*

*Узараць ці што прывезці —*
*Разумее ўсё сама.*
*Як яе на мяса везці?*
*Розуму ў Маскве няма!*

*І Мікіту з ёй гарота,*
*Трэці дзень не есць, не п'е,*
*Бо кабылка*
*"па атчотах"*
*Порціць рапарт старшыне.*

*Дапамог сусед Савося,*
*Паляўнік і прайдзісвет.*
*Перахрысцім яе ў лося,*
*Кажа: "З лося спросу нет".*

*"Ты не Бог,*
*што так захітрыў",*
*Ледзь Мікіта не прысеў.*
*А той кажа:*
*"Стаў паўлітру.*
*Певень яйка не нясе".*

*І за чаркай план тварылі:*
*"Рогі бачыў на сцяне?*
*Да аброці іх прышыем:*
*Стане лось — бяда міне".*

*Лось дык лось,*
*у справаздачы*
*Супраць коней нуль стаіць.*
*Ледзь Мікіта наш не скача:*
*Удалося так схітрыць.*

*Святкаваў Мікіта рана,*
*Хоць пячы,*
*а хоць марозь,*
*Ўпаўнаважаны з раёна*
*Капялюшам свеціць скрозь.*

*"Капялюш" дурню пытае:*
*"Конь жа быў,*
*і раптам, нуль?"*
*І Мікіту выклікае:*
*"Дзе твой конь...*
*куды... адкуль".*

*А Мікіта ўжо навучан,*
*Кажа — з'еў кабылу воўк.*
*Ну, а лось —*
*дык ён прыручан.*
*"Капялюш", вядома ж,*
*змоўк.*

*Што ён думаў — невядома,*
*Толькі просіць:*
*"Пакажы,*
*Як твой лось жыве ля дома,*
*Можа, ён табе чужы".*

*І Мікіта, чын па чыну,*
*(Людцы,*
*гэта не хлусня!)*
*Ратаваў сваю скаціну —*
*Вёў рагатага каня.*

*"Капялюш"*
*у тоўсты сшытак*
*Запісаў: "Каней звялось".*
*І адзначыў у "прыбытак":*
*"Ёсць адзін дамашні лось".*

*Так кабылку і прызвалі,*
*Хто ласіхай,*
*хто ласём,*
*Камунізм жа з светлай далі*
*Рохкнуў кормным парасём.*

# ЭПІГРАМЫ

Анатоль ЦЫРКУНОЎ

## Прычыны аблысення

*Таму ён рана лысым стаў*
*І страціў волас свой,*
*Што на кароткім*
*ложку спаў*
*І цёрся галавой...*

## Памяркоўнасць

*Усё жыццё сваё дарма*
*Чужыя цягне ношы,*
*Ніяк рашучасці няма*
*Сказаць: "Плаціце грошы"...*

## У абарону Садома і Гаморы

*Хаця ў Гаморы і Садоме*
*Грашылі, быццам напаказ,*
*А ўсё-ткі дзетак у раддоме*
*Там не кідалі, як у нас...*

## Магія і Мафія

*Вядзьмак бярэцца сілай магіі*
*Сваім кліентам даць спакой,*
*А сам ён так баіцца мафіі,*
*Што спіць з наганам*
*пад рукой...*

## Часы кілераў

*Будзь якім хочаш лоўкім*
*дыпламатам —*
*Ты толькі цэль для дурня*
*з аўтаматам.*
*Будзь ты мацней асілка*
*і атлета —*
*Цябе паложыць карлік*
*з пісталета...*

## Аб цвіках

*Цвікі б рабіць*
*з бальшавікоў —*
*Вось была б моц*
*у тых цвікоў!*
*Аднак яны, бальшавікі,*
*Пускалі іншых*
*"на цвікі"...*

## Аб чысцілішчы і пекле

*У рай грахі нас*
*не пускаюць,*
*А пекла страшыць*
*нездарма —*
*Дзе ж грэшнікаў*
*яшчэ чакаюць,*
*Калі чысцілішча няма?...*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 10.08.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 4065.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12